# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

## 9-10

ДВУХТЫДНЕВАЯ ЧАСОПІСЬ

ОРГАН ЦККП(б)Б

МЕНСК

1930

# № 9—10 „ПАРТРАБОТНІКА“



Галоўлітбел № 2464. Зак. № 2787. У ліку 2000 экз. „Палесдрук“. Гомель.

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

Орган ЦК КП(б)Б

№ 9-10 | Ліпень 1930 г. | № 9-10

## Па шляху Леніна

Да XIII-га зьезду КП(б)Б прыйшла яшчэ больш загартаваным і ідэев азьлітным атрадам бальшавікоў-ленінцаў, за гэты, час. КП(б)Б яшчэ раз давяла аб тым, што яна сапраўды зьяўляецца цьвёрдым монолітным атрадам Усе КП(б), стоячы тут, на мяжы з капіталістычным Захадам. Пад бальшавіцкім кіраўніцтвам Цэнтральнага Комітэту наша партыя дасягнула вялічэзных посьпехаў у галіне соцыялістычнага будаўніцтва. Напераkор прароцтвам правых опортуністых і нацыянал-опортуністых БССР, пад кіраўніцтвам ЦК, ідзе наперад па шляху індустрыялізацыі і колектывізацыі сельскай гаспадаркі. На грунце росту прамысловасьці расьце колькасьць пролетарыяту ў краіне, пашыраецца пролетарская база, што яшчэ больш ўзмацняе позыцыі пролетарскай дыктатуры і каранным чынам зьмяняе соцыяльныя і клясавыя суадносіны, што спрыяе ўзмацненьню БССР, як форпосту Савецкага Саюзу на заходняй мяжы з капіталістычным сьветам.

У разгортваньні колгаснага будаўніцтва КП(б)Б дабілася вялікіх посьпехаў. Побач з мясцовымі партыйнымі організацыямі, шэраг асобных памылак ў справе колектывізацыі быў дапушчаны і ЦК КП(б)Б, якія пабальшавіцку былі сваячасова выпраўлены. Зьезд цалкам і поўнасьцю ўхваліў ўсе мерапрыемствы ЦК, накіраваныя на выпраўленьне памылак, перагібаў і скажэньняў партыйнай лініі з боку мясцовых партыйных арганізацыі. Рашучае выпраўленьне памылак і скажэньняў партыйнай лініі ў справе колектывізацыі стварыла ўмовы для далейшага разгортваньня колгаснага руху на падставе ленінскіх прынцыпаў добраахвотнасьці.

Посьпехі партыі ў галіне колектывізацыі забясьпечылі пераход ад політыкі абмежаваньня і выцясьненьня кулака да політыкі ліквідацыі кулацтва, як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі.

Усё гэта пановаму ставіць пытаньне аб змычцы, гэта падводзіць яшчэ больш моцны фундамэнт да саюзу рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства, гэта дае поўную магчымасьць пасьпяхова праводзіць рашучае наступленьне на капіталістычныя элементы—ажыцьцяўляць політыку партыі па ліквідацыі кулацтва, як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі. Гэтыя посьпехі стварылі перасоўку ў суадносінах клясавых сіл ў вёсцы, паслабіўшы экономічную позыцыю кулацтва, яшчэ не разгромленага і працягваючага шалёнае супраціўленьне мерапрыёмствам партыі і савецкай ўлады, і стварылі новую апору савецкай улады і партыі ў асобе колгасьнікаў.

Рашучае наступленьне пролетарыяту пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі на капіталістычныя элементы гораду і вёскі, ліквідацыя кулацтва, як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі выклікалі шалёнае супраціўленьне клясава-варожых сіл і абвастрэньне клясавай барацьбы. Гэта абвастрэньне клясавай

барацьбы з боку клясавага ворага шчыльнейшым парадкам пераплятаецца і стымуліруецца той ліхаманкавай кампаніяй падрыхтоўкі нападу на СССР з боку імпэрыялістычных дзяржаў, якая ў апошні час прымае ўсё больш наяўныя формы.

КП(б)Б дзякуючы правільнаму ленінскаму кіраўніцтву ЦК, Усе КП(б)Б і ЦК КП(б)Б яшчэ больш бліскуча давяла правільнасьць політыкі партыі і разграміла права-опортуністычныя тэорыі аб дэградацыі сельскае гаспадаркі, аб размычцы з серадняком. КП(б)Б разграміла прышчэпаўшчыну, буржуазныя неанародніцкія тэорыі ў пытаньнях зямельн. політыкі, нанесла рашучы ўдар нацыяналшовіністым і беларускаму нацыянал-дэмократызму, які змыкаецца з беларускім нацыянал-фашызмам Заходняй Беларусі.

Перабудоўваючы краіну на новых соцыялістычных падставах з нябачанымі тэмпамі, пры вялічэзным уздыме творчага энтузыязму пролетарыяту і працоўных мас БССР, мы гэтым самым наносім рашучы ўдар заходня-эўропейскаму імпэрыялізму, які ў саюзе з польскім фашызмам і беларускім нацыянал-фашызмам вядуць шалёную падрыхтоўку да нападу на СССР. З другога боку пасьпяховасьць соцыялістычнага будаўніцтва БССР зьяўляецца адным з галоўнейшых момантаў, спрыяючых далейшаму разгортваньню і паглыбленьню рэволюцыйнай барацьбы і ўздыму рэволюцыйнай хвалі на Захадзе, ў першую чаргу ў Заходняй Беларусі і Польшчы.

Усе гэтыя посьпехі, з якімі краіна прыйшла да XIII Зьезду КП(б)Б і XVI зьезду Усе КП(б), былі магчымы пры сталёвым адзінстве радоў КП(б)Б, пры вялічэзным росьце давер'я з боку пролетарыяту да свае партыі.

## Прамысловасьць

Рашучае і пасьлядоўнае правядзеньне генэральнай лініі партыі, накіраванай на індустрыялізацыю і соцыялістычную рэконструкцыю краіны, барацьба з антыленінскімі адхіленьнямі ад гэтай лініі забясьпечылі бурнае разьвіцьцё прамысловасьці БССР.

Узросшая творчая актыўнасьць і энтузыязм рабочае клясы, якія знайшлі сваё найбольшае выражэньне ў разгортваньні соцспаборніцтва і росьце ўдарніцтва, павялічэньне капітальных укладаньняў, пераход на бесьперапынны тыдзень і 7-мі гадзінны рабочы дзень, інтэнсыўнае разьвіцьцё энэргетычнай базы далі перавыкананьне намечаных па пяцігодцы мерапрыемстваў.

Тут трэба яшчэ раз падкрэсьліць, што гэта было магчыма пры ўмове вялізарнай дапамогі з боку пролетарыяту Савецкага Саюзу і пад кіраўніцтвам Ленінскага ЦК УсеКП(б) БССР па тэмпах разьвіцьця прамысловасьці ідзе больш шпаркімі крокамі, чым прамысловасьць іншых саюзных рэспублік.

З шпаркімі тэмпамі разьвіцьця прамысловасьці БССР паляпшаецца матар'яльна-бытавое становішча рабочае клясы, паляпшаецца культурнае абслугоўваньне рабочых мас.

Разам з дасягнутымі рашаючымі посьпехамі ў галіне разьвіцьця прамысловасьці мы ня можам не адзначыць шэраг недахопаў і прарываў, на ліквідацыі якіх павінна быць сконцэнтравана ўвага ўсяе КП(б)Б і рабочае клясы. Зьнішчэньне гэтых недахопаў можа пасьпяхова ажыцьцяўляцца толькі пры ўмове няўхільнага правядзеньня генэральнай лініі партыі і далейшага разгортваньня сьмелай бальшавіцкай самакрытыкі.

Такімі недахопамі зьяўляюцца наступныя:

1) Зусім нездавальняючае становішча выраблямай продукцыі і невыкананьне прамысловасьцю дырэктыў аб зьніжэньні сабекошту, невыкананьне заданьняў па падвышэньні вытворчасьці працы, яўна недастатковая барацьба са стратамі і слабое разгортваньне работы па рацыяналізацыі вытворчасьці.

2) Шэраг недахопаў па капітальнаму будаўніцтву і недапушчальна марудныя тэмпы разгортваньня будаўніцтва прадпрыемстваў па вытворчасьці матар'ялаў для будаўніцтва, слабое разьвіцьцё хэмічнай і лесахэмічнай прамысловасьці.

3) Зусім недастатковыя тэмпы разьвіцьця тарпяной прамысловасьці, якая ва ўмовах БССР адыгрывае асабліва важнае значэньне.

4) Недастатковае разгортваньне работы па падрыхтоўцы кваліфікаваных кіруючых кадраў для прамысловасьці і кваліфікаванай рабочай сілы ў адпаведнасьці з тэмпамі разьвіцьця прамысловасьці.

5) Недапушчальна павольнае ажыцьцяўленьне дырэктывы ЦК Усе КП (б) аб рэорганізацыі сыстэмы кіраўніцтва прамысловасьцю і ўстанаўленьня адзінаначальля, недавядзеньне прамфінпляну да цэхаў і варштатаў, слабасьць працоўнай дысцыпліны па шэрагу прадпрыёмстваў.

Пералічаныя недахопы зьяўляюцца простым тормазам ў справе індустрыялізацыі БССР, і таму з ўсёй энэргіяй і бальшавіцкай настойлівасьцю партыйныя організацыі павінны ўзяцца за ліквідацыю гэтых недахопаў.

Зьезд з асаблівай катэгорычнасцю падкрэсьліў пагрозу выкананьня прамфінпляну, што тлумачыцца няўменьнем заводзкіх організацый і парт‘ячэек перабудаваць сваю работу ў адпаведнасьці з тым, каб мобілізаваць рабочыя масы на выкананьне прамфінпляну. Таму бліжэйшай і неадкладнай задачай павінна зьявіцца мобілізацыя ўвагі ўсяе рабочае клясы на выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну.

Выконваючы пастановы зьезду, усе органы прамысловасьці павінны ўзяць рашучы курс на далейшае разьвіцьцё соцыялістычнай рацыяналізацыі прамысловасьці і паляпшэньне якасьці продукцыі. Задача ўсіх гаспадарчых, профсаюзных, партыйных і комсамольскіх організацый, задача друку ўсяе пролетарскай грамадзкасьці, рашуча змагацца за паляпшэньне якасьці продукцыі, шляхам шырокага разгортваньня соцыялістычнага спаборніцтва, ударніцтва, выяўленьне шляхам самакрытыкі ўсіх прычын, што паніжаюць якасьць продукцыі, для зьнішчэньня гэтых прычын.

## У галіне сельскай гаспадаркі

Зьезд констатаваў, што на аснове цьвёрдага правядзеньня ленінскай лініі соцыялістычнай індустрыялізацыі, на аснове саюзу пролетарыяту і беднаты з серадняком і ў выніку рашучай барацьбы з ўсякімі адхіленьнямі ад правільнай бальшавіцкай лініі ў пытаньнях разьвіцьця сельскае гаспадаркі—КП(б)Б дабілася значных посьпехаў па ўздыму сельскай гаспадаркі і соцыялістычнае рэконструкцыі яе і дасягнула рашучага павароту значнай часткі серадняцтва на позыцыю колгасаў.

Работа па гаспадарчаму і організацыйнаму ўзмацненьню колгасаў, пасіленьне работы сярод беднаты ў колгасах і па-за колгасамі, высоўваньне сераднякоў на кіруючую колгасную работу, разьвіцьцё масавых форм грамадзкай самадзейнасьці—соцспаборніцтва, ударніцтва, — стварэньне моцных партыйных кадраў ў колгасах, дапамога колгасам крэдытам, льготамі, машынамі, культурнай сілай—усё гэта будзе згуртоўваць беднату і сераднякоў ў колгасах і забясьпечыць пасьпяховае ўцягненьне ў колектывы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, усё гэта будзе забясьпечваць перамогу соцыялістычнага разьвіцьця сельскай гаспадаркі і на аснове суцэльнае колектывізацыі дасьць магчымасьць ажыцьцёвіць задачу — ліквідаваць кулацтва, як клясу.

Сваімі рашэньнямі зьезд абавязваў ўсе партыйныя організацыі прыняць самыя рашучыя меры і выкарыстаць ўсе маючыяся сілы і сродкі на палепшаньне і разьвіцьцё жывёлагадоўлі. Разьвіцьцё жывёлагадоўлі набывае выключнае значэньне і таму, што скарачэньне стада ставіць пад пагрозу нормальнае забесьпячэньне рабочых і забесьпячэньне прамысловасьці сыравінай, і яшчэ таму, што ва ўмовах БССР жывёлагадоўчы напрамак сельскай гаспадаркі зьяўляецца пераважным.

Таму поўнае і сваячасовае выкананьне пляну па разгортваньні жывёлагадоўлі ў першую чаргу ў аграмаджаным сэкторы сельскай гаспадаркі зьяўляецца першачарговай задачай.

Адначасова з узмацненьнем соцыялістычнага сэктору сельскай гаспадаркі неабходна ўсямерна ўзмацніць кіруючую ролю пролетарыяту ў адносінах індывідуальнага сэктору шляхам энэргічнага правядзеньня вытворчага коопэраваньня бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак праз упартую і сыстэматычную работу з беднякамі і адзіналічнікамі,

праз згуртаваньне бядняцка-серадняцкіх мас для рашучай барацьбы з кулаком. Зьезд з ўсёй бальшавіцкай рашучасьцю адзначыў, што наперакор правільным дырэктывам ЦК, які пасьлядоўна адстойваў ленінскі прынцып добраахвотнага ўваходжаньня ў колгасы, практычнае правядзеньне колектывізацыі справаджалася ў шэрагу організацый адміністраваньнем, антысераднядкімі перагібамі.

Пры правільным правядзеньні Цэнтральным Комітэтам КП(б)Б генэральнай лініі ў справе колектывізацыі зьезд аднадушна са здавальненьнем адзначыў сваячасовае і поўнае прызнаньне ЦК дапушчаных ім паасобных памылак, што зьявілася яскравым прыкладам бальшавіцкай самакрытыкі і што яшчэ больш спрыяла мобілізацыі ўсяе КП(б)Б на барацьбу з перагібамі, за выразную лінію партыі ў колектывізацыі.

Партыйным організацыйным зьездам дана цьвёрдая дырэктыва аб самай рашучай барацьбе з левымі загібшчыкамі, з правым найбольш небясьпечным ухілам і ўхілістымі і прымірэнцтвам да іх. Далейшае разгортваньне колгаснага будаўніцтва на падставах добраахвотнасьці, дапамога і садзейнічаньне гаспадарчаму ўзмацненьню колгасаў зьяўляюцца першачарговымі задачамі партыйных організацый. Зьезд рашуча асудзіў лінію правых опортуністых на прадастаўленьне колгаснага будаўніцтва „самацёку“. Адначасова зьезд зьвярнуў увагу парторганізацый на неабходнасьць узмацненьня работы з беднатой і ажыцьцяўленьня політыкі саюзу з серадняком у неколгасным сэкторы.

## Аб культурным будаўніцтве

Разам з ростам політычнай актыўнасьці рабочае клясы мы маем значны ўздым культурнага ўзросту пролетарскіх мас Беларусі. Пад кіраўніцтвам ЦК КП (б) Б рабочая кляса дасягнула значных посьпехаў у галіне культурнага будаўніцтва: увядзеньня ўсеагульнага навучаньня, пашырэньня сеткі школы клюбаў, пашырэньне сеткі радыё, значнага палепшаньня працы тэатру, кіно і г.д.

За пэрыод ад XII зьезду рабочая кляса на чале з партыяй рашуча змагалася за клясавы пролетарскі зьмест беларускай культуры, што знайшло сваё яскравае выражэньне ў жорсткім адпоры вылазкам нацыянал-дэмократаў у час тэатральнай дыскусіі, дыскусіі аб шляхох беларускай мовы, у адпоры нацыянал-дэмократычным тэндэнцыям у мастацкай творчасьці. На гэтым вучастку ўсім варожым выступленьням нанесен руйнуючы ўдар пры актыўным ўдзеле шырокіх пролетарскіх мас, пры консолідацыі блізкіх да партыі культурных кадраў (маладыя пролетарскія і бядняцка-серадняцкія кадры культурнікаў, БелАПП).

Соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі патрабуе пагалоўна граматнага насельніцтва. Задача ліквідацыі няпісьменнасьці ў бліжэйшыя часы павінна мобілізаваць увагу ўсяе пролетарскай грамадзкасьці, на вырашэньне гэтай задачы павінны быць накіраваны ўсе культурныя сілы краіны шляхам культпаходу, ударніцтва, соцспаборніцтва.

Праводзячы цьвёрда-выразную клясавую лінію ў культурным будаўніцтве, вядучы бязьлітасную барацьбу з антыпролетарскай ідэолёгіяй, неабходна ўжыць усе крокі да паскарэньня тэмпаў культурнага будаўніцтва, да поўнага абслугоўваньня культурных запатрабаваньняў пролетарыяту і шырокіх бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, у асаблівасьці колгасьнікаў, ужыць меры да самай хуткай перабудовы органаў асьветы з тым, каб зрабіць іх сапраўднымі штабамі культурнай рэволюцыі.

У галіне савецкага друку мы маем значныя дасягненьні: пашырэньне выдавецкай справы, рост тыражу беларускай кнігі і кніг нацыянальных меншасьцяй, значны рост прэсы, а таксама шматтыражак фабрычных і раённых, ажыўленьне рабселькораўскага руху.

Выходзячы з пастаноў зьезду КП(б)Б, будзем весьці як і раней бязьлітасную барацьбу за пролетарскі зьмест культуры, высоўваючы на перадавыя позыцыі адданых пролетарыяту работнікаў, здольных змагацца пад кіраўніцтвам партыі за гегемонію пролетарскай ідэолёгіі, разгортваючы работу па падрыхтоўцы новых пролетарскіх кадраў для культурнага фронту.

## У галіне нацыянальнай політыкі

Стоячы на чале нацыянальна-культурнага будаўніцтва, КП(б)Б сваячасова мобілізавала пролетарскія масы на барацьбу за ажыцьцяўленьне лініі партыі ў галіне нац. політыкі. Партыя дасягнула значных посьпехаў у зьнішчэньні нацыянальнай розьні, нацыянальных антагонізмаў, узмацніла позыцыі пролетарыяту на нацыянальна-культурным фронце, вядучы рашучую барацьбу з ухіламі ад правільнага і пасьлядоўнага правядзеньня ленінскай лініі ў вырашэньні нацыянальнай політыкі.

Абвастрэньне клясавай барацьбы ў краіне знайшло свой яскравы выраз у ажыўленьні беларускага нацыянал-дэмократызму і шовінізмаў усіх колераў. КП(б)Б пры правільным кіраўніцтве ЦК нанесла рашучы ўдар беларускаму нац.-дэмократызму, які ў сваіх праяўленьнях скочваўся да змычкі з беларускім нац.-фашызмам у Заходняй Беларусі. Гэтая барацьба знайшла свой адбітак і ў шэрагах КП(б)Б. Нацыянал-опортуністычная політыка і практыка былога кіраўніцтва Наркомасьветы, нацыянал-опортуністычная практыка яўбюро на чале з т. Бейліным у рабоце саматужна-прамысловай коопэрацыі і культурных яўрэйскіх установ, нац.-опортуністычныя выступленьні т. Чарвякова, Жылуновіча і інш.

Пад кіраўніцтвам ЦК уся КП(б)Б была мобілізавана на барацьбу з беларускім нацыянал-дэмократызмам, з шовінізмам іншых колераў.

Але працягваючы і надалей барацьбу з нацыянал-опортунізмам, беларускім нацыянал-дэмократызмам, КП(б)Б павінна адначасова зьвярнуць увагу на барацьбу з актывізуючымся вялікадзяржаўным рускім шовінізмам, які зьяўляецца асноўнай перашкодай на шляху аўладаньня пролетарыятам процэсам будаўніцтва нацыянальнай культуры.

Ажыўленьне яўрэйскага шовінізму, праяўленьне шовінізму польскага таксама патрабуюць большай пільнасьці і ўвагі ўсяе КП(б)Б на барацьбу з праявамі шовінізму ўсіх колераў.

Констатуючы значныя посьпехі ў правядзеньні беларусізацыі, мы павінны адзначыць адставаньне ў гэтай справе асобных зьвеньняў організацыі, формальныя адносіны да выкананьня важнейшай партыйнай дырэктывы з боку асобных членаў партыі, выпадкі пасыўнага і актыўнага супраціўленьня правядзеньню беларусізацыі, што зьяўляецца аднэй з праяў вялікадзяржаўнага рускага шовінізму.

Узмацненьне работы па інтэрнацыянальнаму выхаваньню пролетарскіх мас, далейшая інтэрнацыяналізацыя прадпрыемстваў і ўстаноў, пролетарызацыя кадраў культурнага будаўніцтва, далейшае правядзеньне ўзмоцненымі тэмпамі беларусізацыі забясьпечаць будаўніцтва культуры нацыянальнай па форме, пролетарскай па зьместу, узмацняць кіруючую ролю пролетарыяту ў нацыянальна-культурным будаўніцтве, узмацняць інтэрнацыянальную солідарнасьць працоўных мас.

## Аб кадрах

Ва ўмовах узмоцненага соцыялістычнага наступленьня і абвостранай клясавай барацьбы проблема кадраў набывае асаблівую важнасьць, асабліва на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва БССР. КП(б)Б ужо мае ў выніку прынятых ЦК мер пералом у напрамку паскарэньня тэмпу падрыхтоўкі новых кадраў і паляпшэньня якасьці іх падрыхтоўкі з экономічнага, соцыяльнага і ідэолёгічнага боку.

Партыяй праведзена на грунце барацьбы са шкодніцтвам і ізоляцыі варожых элемэнтаў значная работа па адпластаваньню лепшай часткі навукова-тэхнічнай інтэлігенцыі і частковаму прэадаленьню далейшай яе аполітычнасьці, альбо лёяльнасьці, у выніку чаго мы маем актывізацыю асноўнай яе часткі, якая аддана працуе ў розных галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

Скарыстаньне ўсіх старых кадраў і поўнае выкананьне вызначанага тэмпу падрыхтоўкі новых усё яшчэ забясьпечвае толькі частку патрэб (прыкладна палову) у кадрах, і дзеля таго, каб папоўніць кадры, мы павінны прыняць рашучыя меры да забесьпячэньня поўнага выкананьня пяцігодкі кадраў як мінімум. Адсюль усе організацыі павінны дабіцца значна большай концэнтрацыі

ўвагі і энэргіі навокал пытаньня падрыхтоўкі новых пролетарскіх кадраў, як важнейшай політычнай проблемы, як аднаго з фактараў пасьпяховага выкананьня пяцігодкі.

Уцягненьне ў справу социялістычнага будаўніцтва шырачэзных мас рабочых, паварот асноўных мас сялянства да перабудовы дробнай сельскай гаспадаркі на аснове колектывізацыі, неабходнасьць замены тае часткі кадраў, якая не змагла перабудавацца для выкананьня новых задач паставілі перед КП(б)Б як важнейшую задачу забесьпячэньне кіруючымі кадрамі. У ажыцьцяўленьні гэтай задачы да XIII зьезду ЦК дабіўся пэўных посьпехаў праз цэлую сыстэму мер падбору, вылучэньня і падрыхтоўкі лепшых бальшавікоў для найбольш адказных вучасткаў работы. Але вынікі гэтай работы усё-ж нельга лічыць здавальняючымі і становішча са справай падрыхтоўкі кіруючых партыйных кадраў, а таксама нельга лічыць здавальняючым узьняцьце тэорэтычнага ўзроўню організацыі.

## Аб профсаюзах

Пры значных дасягненьнях у рабоце профсаюзаў за мінулы пэрыод у ўзьняцьці творчай актыўнасьці пролетарскіх мас, соцспаборніцтва, ударніцтва, росту профсаюзнага актыву і г. д. Але профсаюзы яшчэ не перабудавалі ўсяе сваёй работы, каб сапраўды стаць „тварам да вытворчасьці“, стаць на чале творчага энтузыязму працоўных мас, стаць сапраўднай школай комунізму.

Маруднасьці тэмпу перабудовы працы профсаюзаў у адпаведнасьці з тэмпамі социялістычнага будаўніцтва, наяўнасьць у профапараце права-опортуністычных трэд‘юніонісцкіх тэндэнцый, настрояў „левага“ загібу, бюрократычнасьці і адарванасьці ад мас, слабая пастаноўка політвыхаваўчай і культурнаасьветнай работы патрабуюць рашучай барацьбы з ўсімі гэтымі хваравітымі зьявішчамі праз узмоцненае разгортваньне пролетарскай самакрытыкі, праз жорсткую барацьбу з праявамі зажыму і торможэньня самакрытыкі, праз ачышчэньне профапарату ад бюрократычных і опортуністычных элемэнтаў.

## Аб рабоце саветаў

Значнае паляпшэньне работы саветаў, ажыўленьне работы сэкцый гарсаветаў, значнае аздараўленьне апарату саветаў, у выніку праведзенай чысткі, адначасова не павінна зьніжаць увагі ўсяе КП (б) Б на слабую работу саветаў у вёсцы, асабліва ў справе социялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Сельскія і раённыя саветы ня здолелі як належыць стаць на чале масавага руху бядняцкіх і серадняцкіх колаў да колектывізацыі. Права-опортуністычным тэндэнцыям аб зьмяншэньні ролі саветаў, у зьвязку з пашырэньнем колектывізацыі. павінен быць дан самы рашучы і бязьлітасны адпор. Узмацненьне саветаў батрацка-бядняцкімі кадрамі, узмацненьне кіруючай ролі саветаў у справе колектывізацыі, барацьба з элемэнтамі адміністраваньня ў справе колгаснага будаўніцтва складае першачарговую задачу ўсяе КП (б) Б.

## Аб рабоце ЛКСМБ

Пасьля студзеньскага пленуму ЦК партыі даў ацэнку нездавальняючага становішча ЛКСМБ і даў дырэктывы аб далейшай працы комсамолу. У выніку гэтага ў рабоце комсамолу Беларусі ўжо назіраецца некаторы зрух і паварот да запатрабаваньняў социялістычнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі. Мы ўжо зараз можам сказаць, што ўдзел комсамолу ў гаспадарчай рабоце на прадпрыемствах значна падвысіўся, комсамол аказаў значную дапамогу партыі ў час веснавой пасеўнай кампаніі і колектывізацыі сельскай гаспадаркі, прайшоў школу клясавай барацьбы, узбагаціўся вопытам змаганьня з опортунізмам, як з „левымі“ загібамі саюзьнікамі правых, так і галоўнай небясьпекай—правым ухілам—і гэтым самым падвысіў сваю клясавую баяздольнасьць. ЛКСМБ наблізіўся да ўдзелу ў нацыянальна-культурным будаўніцтве, мобілізуючы ўвагу на змаганьне з рознага колеру шовінізмамі, асабліва з беларускім нацыянал-дэмократызмам. Аднак і дагэтуль зусім нездавальняючым застаецца партыйнае кіраўніцтва комсамолам. У паасобных організацыях наглядаецца недаацэнка

ролі і значэньня комсамолу, ігнараваньне і пагардлівыя адносіны да работы сярод моладзі. Зьезд даручыў ЦК прыняць рашучыя крокі да выпраўленьня недахопаў работы акруговых і раённых організацый у справе партыйнага кіраўніцтва комсамолам.

## Аб працы сярод работніц і працоўных жанчын

Работа сярод работніц у БССР набывае асаблівае значэньне ў сувязі з ростам удзельнай вагі жаночай працы ў прамысловасьці БССР. Гэтая праца патрабуе асаблівай увагі ў сувязі з прытокам у вытворчасьць кадраў новых работніц, якія прыносяць з вёскі, мясцэчка адсталыя настроі. Клясавае інтэрнацыянальнае выхаваньне гэтых жаночых кадраў патрабуе ад партыі асаблівай увагі. Ня гледзячы на гэта, партыйныя організацыі дагэтуль яшчэ не перамаглі няправільных адносін да працы сярод працоўных жанчын і ня гледзячы на рэорганізацыю партыйнага апарату, у аснове якой ляжаў прынцып—зрабіць жаночую працу працай усяе організацыі, па-старому ўзвальваюць работу на жанорганізатараў. Рэорганізацыя партыйнага апарату ня была зьвязана і скарыстана для перабудовы прынцыпаў работы сярод работніц. Вось таму і мелі месца ў шэрагу выпадкаў паслабленьне работы сярод жанчын-работніц на паасобных прадпрыемствах. У масавай рабоце сярод жанчын, якая наогул слаба пастаўлена, зусім ня выдзелена работа з адсталымі групамі работніц і ўліваючыміся ў вытворчасьць новымі групамі работніц. Гэтыя недахопы павінны быць тэрмінова выпраўлены організацыямі. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута партыйнымі організацыямі на ўзмацненьне працы сярод бядняцка-серадняцкіх жаночых мас вёскі, бо гэтая работа значна адстае ад політычных і гаспадарчых задач, якія сёньня павінны быць вырашаны партыяй у вёсцы ў сувязі з соцыялістычнай рэконструкцыяй сельскай гаспадаркі. У масавай рабоце сярод жанчын парторганізацыі павінны ўлічыць неабходнасьць клясава-дыфэрэнцыяванага падыходу: асобная работа з бяднячкамі і серадвячкамі ў напрамку ўплыву іх на серадвячак за колектывізацыю, у напрамку ўцягненьня іх у клясавую барацьбу супроць кулацтва. Гэтая праца павінна базавацца на бядняцка-серадняцкім жаночым активе і праводзіцца праз дэлегацкія сходы, саветы, коопэрацыйныя і іншыя грамадзкія організацыі. Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на ўзмацненьне працы бядняцка-батрацкіх груп пры саветах і ў колгасах і ўзмацненьне працы гэтых груп па лініі організацыі і згуртаваньня батрачак і бяднячак дзеля разгортваньня і замацаваньня іх уплыву на серадняцкія масы жанчын.

## За разгортваньне самакрытыкі

Энэргічным разгортваньнем самакрытыкі ў радох партыі, ленінскім ажыцьцяўленьнем ўнутрыпартыйнай дэмократыі, генэральнай чысткі сваіх радоў, забясьпечваючы баяздольнасьць партыі, Цэнтральны Комітэт КП(б)Б узьняў на барацьбу за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі, за яе няўхільнае ажыцьцяўленьне ўсю партыю і дабіўся сур'ёзьнейшых посьпехаў у справе барацьбы з бюрократызмам і элемэнтамі разлажэньня ў асобных зьвеньнях партыі.

Партыя за час ад XII зьезду КП(б)Б дасягнула раду значных посьпехаў у справе разгортваньня сярод працоўных мас шырокай пролетарскай самакрытыкі, як аднаго з мацнейшых сродкаў выяўленьня і выпраўленьня недахопаў, і гэтым самым забесьпячэньня пасьпяховасьці соцыялістычнага будаўніцтва.

Разам з гэтым разгортваньне самакрытыкі ў нас недастаткова ў параўнаньні з тымі вялізарнымі задачамі ў справе соцыялістычнага будаўніцтва, якія стаяць перад рабочай клясай БССР і партыйнай організацыяй. Таму усю партыйную організацыю трэба мобілізаваць на далейшае разгортваньне самакрытыкі, на неабходнасьць забясьпечыць дзейнасьць самакрытыкі шляхам організацыі шырокага контролю над выкананьнем прапаноў і самай рашучай барацьбы з усялякімі спробамі заглушыць самакрытыку, прытупіць політычную вострасьць самакрытыкі, як найбольш вострай зброі партыі ў барацьбе за соцыялістычнае будаўніцтва.

Падкрэсьліваючы вялізарную ролю, якую адыгрывае партыйна-савецкі друк Беларусі ў справе барацьбы за генэральную лінію партыі, мы ня можам прайсьці міма таго факту, што сам друк яшчэ нездавальняюча разгарнуў самакрытыку ўнутры рэдакцыі. Асобныя памылкі друку, пры правільнай у асноўным лініі, выпраўляюцца са спазьненьнем і не своечасова.

## Бальшавіцкае адзінства

Вялізарныя посьпехі ва ўсіх галінах социялістычнага будаўніцтва былі дасягнуты ў барацьбе з усялякімі адхіленьнямі ад ленінскай лініі партыі з контррэволюцыйным трацкзікмам, правым ухілам і прымірэнцтвам да іх

Наперакор паклёпам правых, што паўтараюць трацкісцкія абвінавачваньні аб унутрыпартыйным заціску і насаджэньні бюрократызму, вядучы бязьлітасную барацьбу супроць усялякіх спроб заціску самакрытыкі, уся КП(б)Б няўхільна працавала над падвышэньнем ідэёва-політычнага ўзроўню членаў партыі, укараняючы ў сыстэму партработы самакрытыку і ўзмацняючы партыйныя кадры ў мэтах пасьпяховага вырашэньня задач, якія стаяць перад партыяй на новым этапе.

На аснове шырокага разгортваньня самакрытыкі, шляхам ажыцьцяўленьня ўнутрыпартыйнай дэмократыі, была мобілізавана ўся ўвага КП(б)Б на правядзеньне генэральнай лініі партыі. Партыя дабілася значных посьпехаў у справе барацьбы з бюрократызмам і элемэнтамі разлажэньня ў паасобных зьвеньнях партыі.

Падкрэсьліваючы значнае паляпшэньне социяльнага і якаснага складу радоў КП(б)Б за лік новага прытоку рабочых ад варштату, зьезд паставіў задачай і надалей разгортваньне сыстэматычнай работы ўсяе партыі па вярбоўцы лепшых, найбольш вытрыманых рабочых, работніц і батракоў у рады партыі.

Зьезд зьвярнуў асаблівую ўвагу на паляпшэньне работы і социяльнага складу вясковай партыйнай організацыі.

Далейшая ўпартая работа над падвышэньнем ідэёва-політычнага і тэорытычнага ўзроўню членаў партыі, сыстэматычнае палепшаньне социяльнага складу партыі за лік сталага прытоку рабочых і работніц з вытворчасьці, барацьбы за самакрытыку, за яе ўкараненьне, як асноўнага мэтоду ўнутрыпартыйнай работы, далейшая падрыхтоўка і адбор ленінскі вытрыманых і стойкіх кадраў, здольных адстойваць генэральную лінію партыі ў барацьбе з опортуністычнымі хістаньнямі і ўхіламі— вось важнейшыя задачы, якія павінны стаяць у цэнтры ўвагі ўсяе КП(б)Б.

Правы ўхіл працягвае і надалей заставацца галоўнай небясьпекай унутры партыі.

Факт ідёва політычнага зблізкэньня правых і „левых" опортуністых патрабуе асаблівай пільнасьці і рашучай барацьбы на два фронты.

КП(б)Б рашуча разграміла праявы і беларускага, і яўрэйскага нацыянал-опортунізму. Прызнаньне т. т. Чарвяковым, Жылуновічам, Бэйліным і інш. сваіх правапортуністычных і нацыянал-опортуністычных памылак ні ў якім разе ня можа азначаць паслабленьня барацьбы з усялякімі праявамі нацыянал-опортунізму ў радох КП(б)Б.

Барацьба з правым ўхілам, які застаецца найбольш небясьпечным, барацьба з нацыянал-опортунізмам, барацьба з „левымі" загібамі, а таксама з прымірэнцтвам зьяўляецца першачарговай, найважнейшай задачай ва ўсёй далейшай рабоце КП(б)Б.

У змаганьні за генэральную лінію партыі, ў жорсткай барацьбе супроць усялякіх адхіленьняў ад Ленінскай лініі, праз узмацненьне кіруючай ролі пролетарыяту асноўнымі масамі сялянства, праз творчы энтузыязм працоўных мас, соцспаборніцтва, ударніцтва, на аснове шырокага і рашучага разгортваньня пролетарскай самакрытыкі, КП(б)Б пад кіраўніцтвам ЦК павядзе пролетарскія і працоўныя масы да далейшых заваёў на фронце социялістычнага будаўніцтва.

# ПАРТЫЙНАЕ БУДАЎНІЦТВА

**Партыец**

## Хутчэй перабудавацца

Ужо некалькі разоў на старонках „Партыйнага работніка" асьвятляліся пытаньні перабудовы партыйнай работы і работы масавых організацый рабочай клясы на прадпрыемствах. Аднак пакуль што мы ня можам пахваліцца посьпехамі ў гэтай галіне. Задача перабудовы работы, як і раней стаіць вельмі востра.

У тэзісах тав. Швэрніка аб задачах профсаюзаў у рэконструкцыйны пэрыод да XVI зьезду ЎсеКП(б) гаворыцца, між іншым, наступнае:

> „Сучасны рэконструкцыйны пэрыод соцыялістычнага будаўніцтва, які зьвязаны з наступам соцыялізму на капіталістычныя элемэнты па ўсяму фронту, адрозьніваецца ад ранейшых пэрыодаў тым, што ён высоўвае задачу **рашучай перабудовы работы ўсіх масавых організацый пролетарыяту**"... (Падкрэсьлена намі—П.)

Трэба яшчэ і яшчэ раз падкрэсьліць, што толькі тая організацыя здолее ісьці ў ногу з жыцьцём, якая безадкладна возьмецца за істотную перабудову сваёй работы. Партыйныя колектывы і ячэйкі павінны ўзяць у свае рукі ініцыятыву сапраўднага павароту тварам да вытворчасьці ўсіх фабрычна-заводзкіх організацый. Нельга адкладваць перабудову работы ў „доўгую скрынку". Трэба перабудаваўшыся ўцягнуць у барацьбу за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну пагалоўна ўсіх рабочых. А ці можна дасягнуць гэтага пры захаваньні старых форм работы? Не, нельга. Толькі забясьпечыўшы зьмену мэтодаў работы ў адпаведнасьці з запатрабаваньнямі рэконструкцыйнага пэрыоду можна рухацца ўперад разам з усёй масай працоўных, на чале мас.

Яшчэ X зьезд УсеКП(б) паказаў, што

> „партыя марксызму ў корані адмаўляе шуканьне абсолютна правільнай, годнай для ўсіх ступеняў рэволюцыйнага процэсу формы партыйнай організацыі, а значыць і мэтодаў яе работы. Наадварот, форма організацыі і мэтоды работы цалкам вызначаюцца асаблівасьцямі даных конкрэтных гістарычных абставін і тымі задачамі, якія з гэтых абставін непасрэдна выцякаюць".

Адсюль зусім яскрава выцякае тое, што наша партыя ніколі ня лічыла мэтазгодным заставацца пры старых формах работы і організацыі, калі гэтыя формы ўжо ператварыліся альбо ператвараюцца ў путы для разьвіцьця. Такая дыялектычная пастаноўка пытаньня аб формах партыйнай організацыі і аб мэтодах яе работы абавязвае ўсю партыйную організацыю, усе фабрычна-заводзкія колектывы рубам ставіць пытаньне аб перабудове форм і мэтодаў работы і аб прымяненьні новых форм, мэтодаў і прыёмаў работы, якія-б забясьпечылі выкананьне бягучых задач партыі ва ўмовах, калі разгортваецца соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, калі ўсё ўзрастае творчая актыўнасьць рабочай клясы.

Што-ж зроблена ў сапраўднасьці ў напрамку перабудовы партыйнай работы на прадпрыемствах?

Большасьць раённых організацый і вытворчых ячэек не праявілі дастатковай ініцыятывы ў шуканьні і ажыцьцяўленьні новых форм і мэтодаў партыйнай работы непасрэдна на прадпрыемствах. Вось да якога выніку трэба прыйсьці пасьля аналізу паказчыкаў выкананьня вытворчай програмы па шэрагу прадпрыемстваў.

Наколькі тая ці іншая організацыя па сапраўднаму здолела перабудаваць формы і мэтоды сваёй работы, паказвае ступень выкананьня прамфінпляну, які зьяўляецца надзвычайна чулым барометрам да нашых посьпехаў у галіне перабудовы работы. Між тым, да гэтага

часу справа выкананьня прамфінпляну па большасьці прадпрыемстваў абстаіць дрэнна. Недавыкананьне прамфінпляну ў паасобных прадпрыемствах дасягае дзесяткаў процантаў.

Трэба адзначыць, што ў час перавыбараў партыйных органаў на прадпрыемствах некаторыя колектывы перайшлі ўжо ад сыстэмы комісій да сэктараў, якія ўтвораны пры бюро партколектываў і цэхавых ячэек. Аднак у большасьці выпадкаў перабудова на сэкторную сыстэму абмяжоўвалася зьменаю шыльды. Па сутнасьці сэктары яшчэ не разгарнулі работы па мобілізацыі партыйцаў, комсамольцаў і беспартыйных рабочых вакол чарговых гаспадарчых задач, вакол ліквідацыі прарываў першага гаспадарчага паўгодзьдзя.

Чым-жа можна вытлумачыць такое становішча?

У аснове слабай дзейнасьці многіх партколектываў па вышукваньню новых мэтодаў работы ляжыць тое, што яны не праяўляюць неабходнай ініцыятывы і сьмеласьці ў гэтых адносінах, не ствараюць грамадзкай думкі вакол ужываньня новых мэтодаў работы, слаба пераносяць лепшыя прыклады з перадавых прадпрыемстаў. Немалое значэньне мае вельмі слабы ўдзел фабрычна-заводзкіх шматтыражных газэт у барацьбе за перабудову форм і мэтодаў работы партыйных, профсаюзных і грамадзкіх організацый на прадпрыемствах. Друк не аказаў неабходнай дапамогі ў сэнсе перабудовы работы, у сэнсе асьвятленьня лепшага вопыту прадпрыемстваў, бо нельга даваць гатовую схэму перабудовы зьверху. Гэтая схэма можа аказацца няжыцьцёвай.

Што зроблена ў тых выпадках, дзе перабудова работы прайшла шляхам утварэньня сэктароў?

Тут мы наглядаем вельмі слабую работу сэктароў. Тлумачыцца гэта ў асноўным наступным: організатарамі сэктароў вылучаны не заўсёды лепшыя, больш актыўныя таварышы; бюро колектываў і ячэек ня цікавяцца як сьлед работай сэктароў, не аказваюць ім належнай дапамогі і не падштурхоўваюць іх у процэсе штодзённай работы; організатары сэктароў дабра не праінструктаваны і ня ведаюць сваіх абавязкаў; наглядаюцца выпадкі блытаніны ў разьмежаваньні абавязкаў партыйных і профсаюзных сэктароў, выпадкі падмены партыйнымі сэктарамі профсаюзных сэктароў і г. д.

Аднак ужо добра і тое, што ячэйкі пачалі вышукваць мэтоды работы, якія адпавядаюць сучасным тэмпам соцыялістычнага будаўніцтва. Першыя крокі гэтай работы ня могуць абыйсьціся без памылак, без цяжкасьцяй.

А што рабіць далей? Як замацаваць ужо прароблену работу па перабудове, як падыйсьці да далейшага разгортваньня перабудовы?

Выходзячы з акрэсьленага вышэй у галіне перабудовы партыйнай работы, мы напамінаем, што:

> „нельга адкладваць перабудову ні на наступную дэкаду, ні на пасьлязаўтра, ні на заўтра. Яе трэба праводзіць сёньня. Цяганіна ў перабудове форм і мэтодаў партыйнай работы, за якой хаваецца нежаданьне перабудоўваць, роўналежна адмаўленьню ад барацьбы за прамфінплян і простым шляхам вядзе, як ні трудна заўважыць, у права-опортуністычнае балота „непротивления трудностям" („Правда", 14-III—30 г. „На путях перестройки"),

Неабходна безадкладна правесьці ва ўсіх фабрычна-заводзкіх партыйных колектывах наступныя мерапрыемствы:

У большай ступені пашырыць сетку цэхавых ячэек. Трэба, каб у кожным цэху, дзе ёсьць адпаведны лік комуністых, былі ўтвораны цэхавыя ячэйкі. Гэта дазволіць больш сьцісла зьвязацца з рабочай масай, лепш кіраваць вытворчасьцю, устанавіць сапраўдны контроль за работай комуністых, больш рацыянальна скарыстаць кожнага комуніста ўпаасобку. Гэта дасьць магчымасьць мобілізаваць пагалоўна ўсіх рабочых на выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну.

Забясьпечыць пераход да вытворчага прынцыпу расстаноўкі партыйных сіл на вытворчасьці. Гэты прынцып заключаецца ў тым, што на кожным вытворчым вучастку (брыгада, агрэгат, лінейка і г. д.) партыйцаў аб'ядпае парторг, які выбіраецца

данай групай комуністых. Комуністыя данага вучастку павінны несьці адказнасьць перад партыйным колектывам за нормальны ход вытворчасьці на даным вучастку. Задача комуністых заключаецца ў тым, каб разгортваць соцыялістычнае спаборніцтва паміж усімі рабочымі і ўдарніцтва на даным вучастку. Кожны комуністы павінен паказваць асабісты прыклад усёй масе беспартыйных рабочых лепшых, сапраўдна соцыялістычных адносін да вытворчасьці, падвышэньня вытворчасьці працы і г. д.

ЦК УсеКП(б) у пастанове аб выніках росту партыі за першы квартал 1930 г. і аб палепшаньні партыйнай работы на прадпрыемствах гаворыць наступнае: „у мэтах паляпшэньня работы ячэек перабудаваць нізавую партыйную сетку (група, зьвяно) па вытворчаму прынцыпу (агрэгат, брыгада, перадзел), а таксама разбуйніўшы цэх'ячэйкі, надаць ім правы статуту". Выходзячы з гэтых паказаньняў ЦК УсеКП(б), трэба, каб кожны вытворчы колектыў чотка і хутка перабудаваў сваю нізавую партыйную сетку.

Далей неабходна замацаваць пераход на сыстэму сэктароў у тых колектывах, дзе гэты пераход ужо зроблены і перанесьці цэнтр партыйнай работы непасрэдна ў цэх, брыгаду шляхам адпаведнай расстаноўкі партыйных, сіл і організацыі работы сэктароў у цэху.

> „Трэба мець на ўвазе, што ніякія новыя організацыйныя формы, нават самыя ўдасканаленыя, ня могуць самі па сабе „как некие чудодейственные палочки" забясьпечыць пасьпяховы ход партыйнай работы. Новыя організацыйныя формы павінны быць напоўнены адпаведным зьместам, перад таварышамі, якія ўзбройваюцца новымі мэтодамі, павінны быць пастаўлены строга вызначаныя задачы. Часамі атрымліваецца так, што формы і мэтоды „перабудаваны", а работа па-старому кульгае на абедзьве нагі, масы на барацьбу за прамфінплян не мобілізаваны, вытворчыя прарывы не ліквідаваны. Гэта значыць, што перабудова праведзена формальна, бюрократычна. Такая „перабудова" нікуды ня варта". („Праўда", 14-III—30 г.).

Таму абавязак кожнай партыйнай арганізацыі ні ў якім разе ня спыняцца на формальных прызнаках перабудовы, а ісьці далей, напоўніць новыя формы і мэтоды конкрэтным зьместам, які выцякае з чарговых задач партыі, галоўным, чынам у барацьбе за выкананьне прамфінпляну.

Ні ў якім разе нельга перабудову партработы бачыць выключна толькі ў формальным пераходзе да сыстэмы сэктароў альбо ў іншай організацыйнай навіне. Перабудавацца на новыя рэйкі можна толькі тады, калі організацыйныя формы будуць напоўнены конкрэтным зьместам. Сыстэма сэктароў зьяўляецца вельмі істотнаю часткаю на шляху перабудовы партработы, якую неабходна ўжыць у першую чаргу ў больш буйных ячэйках ці колектывах". Аднэй рэорганізацыі мала. Неабходна палепшыць работу па сутнасьці, неабходна рашуча змагацца супроць апаратнага самадавольства, неабходна ўзьняць якасьць работы, неабходна правесьці тэмп работы партыйнага апарату ў суадпаведнасьці з тэмпам соцыялістычнай перабудовы краіны". (Л Кагановіч).

Задача перабудовы работы можа быць вырашана толькі тады, калі ўсе організацыі прадпрыемства ў сапраўднасьці павернуцца тварам да вытворчасьці. У першую чаргу партыйныя організацыі павінны забясьпечыць перабудову работы профсаюзаў: „Соцспаборніцтва і ўдарныя брыгады павінны стаць асновай усяе вытворчай дзейнасьці профсаюзаў у прадпрыемствах і цэхах" (тэзісы т. Швэрніка да XVI зьезду УсеКП(б). Адначасова неабходна ўцягнуць у соцспаборніцтва і ўдарныя брыгады ўсіх комуністых і комсамольцаў, якія працуюць на вытворчасьці.

Толькі тая організацыя, якая зрабіла поўны паварот тварам да вытворчасьці, якая штодзённа цікавіцца становішчам прадпрыемства і прымае ўсе захады да яго палепшаньня, якая шырока разгарнула соцспаборніцтва і ўдарніцтва і ўцягнула ў гэтыя формы працы ўсіх комуністых і комсамольцаў, якая выконвае і перавыконвае прамфінплян— толькі такая організацыя можа ісьці ў

першых шэрагах, толькі такая організацыя становіцца на новыя рэйкі работы.

Бясспрэчна, што асноўнае ў перабудове работы—гэта яе зьмест, які павінен быць высунуты на першы плян. Паварот тварам да вытворчасьці азначае пераход ад агульных пастаноў да практычнай справы, да наладжваньня практычнай дапамогі ў ажыцьцяўленьні паасобных гаспадарчых мерапрыемстваў.

ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове аб палепшаньні партыйнай работы на прадпрыемствах гаворыць аб неабходнасьці:

> „перайсьці да сыстэмы індывідуальных заданьняў для кожнага партыйца, з пэрсанальнай адказнасьцю за выконваемае даручэньне, пры чым разьмеркаваньне партыйных сіл па асобных сэктарох (вучастках) работы праводзіць у залежнасьці ад абставін і ўмоў работы, дабіваючыся найбольш гнуткай і рухомай сыстэмы сэктароў, колькасьць якіх не павінна перавышаць 7—8“.

У гэтай пастанове зусім яскрава высоўваецца задача пераходу ад работы „наогул“ да конкрэтных заданьняў. Пастанова ЦК выходзіць з вопыту лепшых, перадавых прадпрыемстваў Саюзу і намячае лік сэктароў, які дазволіць роўналежна разьмеркаваць партыйныя сілы.

Неабходна, каб райкомы партыі разьмеркавалі па асобных партколектывах членаў райкомаў для практычнай дапамогі ў перабудове партработы непасрэдна ў цэху, брыгадзе, вытворчым вучастку.

Трэба падкрэсьліць тое, што ўсялякая організацыйная форма не павінна мэханічна пераносіцца на данае прадпрыемства. Трэба правяраць на вопыце конкрэтнага прадпрыемства жыцьцёвасьць данай формы. Але гэта ніколькі не азначае, што трэба залішне асьцярожнічаць у вышукваньні новых прыёмаў работы ці ва ўжываньні лепшага прыкладу з другіх прадпрыемстваў, бо „ўсялякая форма барацьбы патрабуе адпаведнай тэхнікі і адпаведнага апарату“. Ня трэба ні ў якім разе „глушыць“ ініцыятывы па прымяненьні новых форм работы. У кожным партколектыве пажадана організаваць дабраахвотнікаў, ініцыятараў, якія-б пад кіраўніцтвам партыйнага бюро прасоўвалі ўперад новыя мэтоды работы. Трэба ўнесьці элемэнты ўдарніцтва і соцспаборніцтва па асобных галінах партыйнай работы.

Падтрымліваючы сыстэму сэктароў пры партколектывах і ячэйках, якая замацоўвае пераход на новыя рэйкі работы, адначасова неабходна ўжыць некалькі мерапрыемстваў па палепшаньню работы сэктароў. У прыватнасьці мэтазгодна скараціць лік сэктароў да неабходнага мінімуму (утварыўшы, прыкладна, наступныя сэктары: 1) росту і работы з кандыдатамі, 2) вучобы, 3) агітацыі і масавых кампаній, 4) оргработы, 5) праверкі выкананьня дырэктыў) з тым, каб у сапраўднасьці забясьпечыць іх працаздольнасьць і ўважлівае сталае кіраўніцтва.

Карысна скараціць гаспадарчыя, профсаюзныя, комсамольскія сэктары, сэктары друку і добраахвотных таварыстваў, якія на практыцы падмянялі адпаведныя гаспадарчыя і грамадзкія організацыі, заціскалі ініцыятыву паказаных органаў, што зусім не адпавядае задачам перабудовы партыйнай работы. Неабходна стварыць усе ўмовы дзеля таго, каб грамадзкія організацыі праяўлялі ўласную ініцыятыву ў рабоце.

Кожны колектыў, кожны сэктар, які захоўваецца, павінен зьвярнуць асаблівую ўвагу на праверку выкананьня дырэктыў, на конкрэтнасьць пастаноў і на ўзьняцьце адказнасьці за выкананьне пастаноў і дырэктыў.

> „Трэба рашуча спыніць тое становішча, калі работа асяроджваецца вакол бязьлікае творчасьці ўсё новых і новых дырэктыў, калі няма належнага ўпору на рэалізацыю і праверку выкананьня дырэктыў, а падчас нават праверку выкананьня дырэктыў ператвараюць у новае выданьне старэнькіх дырэктыў“.

Варта падкрэсьліць, што праверка выкананьня яшчэ да гэтага часу не займае належнага месца ў сыстэме партыйнага кіраўніцтва.

> „Нужно будет центр тяжести перенести на то, чтобы проверять работу, докапываться до сути, школить, учить, пороть всерьез... в этом суть теперь. Все приказы и постановления—грязные бумажки без этого“ (Ленин).

Вялікае значэньне ў сьвятле барацьбы за праверку выкананьня мае сыстэма

конкрэтных даручэньняў замест „агульных“ нагрузак, якія нікім не правяраліся. Адначасова трэба ўвесьці ў сыстэму работы гаспадарчыя нагрузкі камуністым у якасьці партыйных нагрузак. (Удзел у вытворчых нарадах, часовых вытворчых комісіях, рацыяналізатарскіх комісіях і г. д.).

Рашаючым мотывам у перабудове партработы зьяўляецца правільная расстаноўка партыйных сіл на прадпрыемстве. У гэтым асноўная задача, выкананьне якой можа забясьпечыць пасьпяховы пераход да новых мэтодаў работы. Неабходна разьмеркаваць партыйныя сілы на больш слабых вучастках работы і гнутка зьмяняць гэтую расстаноўку ў адпаведнасьці з патрэбамі бягучага моманту.

Вялікае значэньне ў гэтым сэнсе мае нізавое партыйнае зьвяно, якое павінна быць організатарам мас вакол партыйных задач. Ні ў якім разе нельга зводзіць ролю гэтага зьвяна да тэхнічных абавязкаў (збор сяброўскіх узносаў, абвесткі аб сходах, выкананьне тэхнічных абавязкаў па даручэньні бюро ячэйкі і г. д.).

Надзвычайна вялікае значэньне ў сэнсе перабудовы работы мае пытаньне перанясеньня цэнтру цяжару работы ў цэх і пытаньне стварэньня нізавога трохкутніка. Неабходна даць больш ініцыятывы і самадзейнасьці цэхавым партыйным ячэйкам, а таксама дабівацца большай самастойнасьці ў вырашэньні гэтымі ячэйкамі пытаньняў работы ў цэху. Разам з тым трэба пашырыць практыку стварэньня нізавога трохкутніка ў брыгадзе, вытворчым вучастку і г. д. Нізавы трохкутнік цалкам апраўдае сябе толькі пры ўмове правільнай расстаноўкі партыйных сіл.

Паварот тварам да вытворчасьці патрабуе таго, каб увесь партыйны колектыў станавіў сабою колектыў прыкладных рабочых, змагароў за новыя комуністычныя адносіны да вытворчасьці, да працы. У зьвязку з гэтым неабходна прыняць захады да падтрыманьня і разьвіцьця новых форм працы—вытворчых комун, вывучаючы лепшы вопыт і распаўсюджваючы яго сярод рабочых; рашуча падтрымліваць мерапрыемствы па давядзеньні прамфінпляну да цэху, брыгады і паасобных станкоў; шырока папулярызаваць дырэктывы партыі аб адзінаначальлі і кіраўніцтве прам прадпрыемствамі, організуючы рабочых за падтрыманьне гаспадарнікаў у іх рабоце па каранному палепшаньню вытворчасьці.

Задача барацьбы з адсталымі настроямі сярод часткі рабочых за працоўную дысцыпліну, супроць рвацтва і дробнабуржуазнай расхлябанасьці на вытворчасьці--ёсьць чарговая задача дню.

Задачаю партыйных організацый зьяўляецца мобілізацыя мас супроць тых, хто зрывае соцспаборніцтва, супроць дробнабуржуазных настрояў

> „тех горсток и слоев рабочих, которые упорно держатся традиций, привычек капитализма и продолжают смотреть на советское государство по прежнему: дать „ему“ работы поменьше, похуже и содрать с „него“ денег побольше“. (Ленин).

Нарэшце, трэба падкрэсьліць, што неабходна і надалей рашуча змагацца супроць засядацельскай суеты і за спэцыялізацыю партыйнага актыву.

Перабудова партыйнай і масавай работы—справа сёньняшняга дню. Нельга траціць ніводнай хвіліны дарэмна. Трэба зараз-жа ўзяцца за работу.

**Г. Шпэктараў**

# Аб выніках перавыбараў нізавых парторганаў і некаторых чарговых задачах

Перавыбары нізавых парторганаў гэтага году, пераходзячы ў паласу падрыхтоўкі да зьезду КП(б)Б і ЎсеКП(б), набылі вельмі важнае палітычнае значэньне. Асноўным зьместам мінулай справаздачна-перавыбарчай кампаніі бюро ячэек зьявілася генэральная праверка партработы, праверка баяздольнасьці кожнай ячэйкі, кожнага партыйца змагацца на 2 фронты, праверка здольнасьці штодзённа ажыцьцяўляць генэральную лінію партыі. На вопыце аднаго раёну мы можам прасачыць, якія вынікі дала такая шырокая палітычная кампанія.

> Уся падрыхтоўчая работа да перавыбарчай кампаніі была Фрунзаўскім РК так пастаўлена, што яна ў асноўным забясьпечыла мобілізацыю шырокае партыйнае і беспартыйнае масы. Былі праведзены гутаркі з рабочымі аб задачах компартыі, на падставе ліста ЦК, у цэхах, у чырвоных кутках, даволі шырока быў скарыстан фабзаўдрук і г. д. Была організавана значная самаправерка работы ячэек уласнымі сіламі кожнай ячэйкі.

У выніку такой падрыхтоўкі мы ў значнай большасьці ячэек раёну мелі самы шырокі ўдзел ня толькі партыйцаў, але і беспартыйных рабочых. Так, дзеля прыкладу можна прывесьці такія лічбы наведваньня справаздачна-перавыбарчых сходаў беспартыйнымі:

| | | |
|---|---|---|
| 1) Завод „Комунар“ | 45,7 | проц. |
| 2) „ „Дрэваапрацовачнік“ | 45,8 | „ |
| 3) Футровая фабрыка | 40,3 | „ |
| 4) Хлебазавод | 36,7 | „ |
| 5) Завод „Беларусь“ | 34,5 | „ |
| 6) 1-ая друкарня | 26,3 | „ |
| 7) Швейная ф-ка „Акцябр“ | 19,4 | „ |
| 8) Наркомасьветы | 60,0 | „ |
| 9) Пошта | 22,0 | „ |

Такія лічбы дае большая колькасьць ячэек.

Сярэдняя наведваньне партыйцаў роўна 85 проц. па раёну.

Характар актыўнасьці на справаздачна-перавыбарчых сходах сьведчыць аб значным росьце ідэолёгічнага ўзроўню партыйнай масы. У спрэчках у сярэднім на сходзе выказваліся да 25-30 проц. партыйцаў і беспартыйных. Асноўны круг пытаньняў, што закрануты у спрэчках, зьяўляецца дасягненьні і недахопы ў выкананьні прамфінпляну і як забясьпечыць высокія тэмпы прамбудаўніцтва, разгортваньне соцспаборніцтва і ўдарніцтва, барацьба з правымі ўхіламі ў тэорыі і на практыцы, „левымі“ загібамі, асабліва выяўленымі ў колгасным будаўніцтве, задачы перабудовы партработы, выкананьне профсаюзных задач, дырэктыў партыі аб павароце тварам да вытворчасьці і г. д. Аналіз спрэчак выяўляе, што ў аснове іх мы маем глыбока правільнае ўразуменьне самымі шырокімі масамі комуністых і беспартыйных сэнсу і конкрэтных мэтаў лёзунгу партыі аб самакрытыцы.

Спрэчкі пранізаны самакрытыкай нашых памылак і недахопаў, якіх у нас ня так ужо мала.

> Той-жа аналіз спрэчак паказвае аб наліччы ў нас шмат прарываў у парткіраўніцтве КСМ і профрабоце, аб марудным тэмпе перабудовы партпрацы, на ліквідацыі якіх у час справаздачна-перавыбарчай кампаніі ня былі завострана ўвага партыйнай масы ў неабходнай меры.

Зразумела, што мы мелі ня толькі дадатнае. Нельга скрыць, што паасобныя ячэйкі (Акцябр, Хлебазавод, ЦРК) прынялі гэту кампанію за нешта такое, ад чаго трэба як мага хутчэй адчапіцца, „збыць з рук“. і г. д. Таму першыя сходы былі праведзены без належнай падрыхтоўкі рабочых (комуністых і беспартыйных), а таму на гэтых сходах прысутнічала нязначная колькасьць таварышоў. Ліст ЦК

КП(б) не абгаварылі ў масах. На некаторай частцы ячэек абгаварэньне справаздач было надзвычайна спрошчана (Прогрэс, Акцябр і інш.). Гэтыя недахопы РК удалося выправіць на ходу, адмяніўшы ў гэтай групе ячэек выбары. Такой адменай удалося мобілізаваць увагу ячэек і беспартыйных рабочых навакол політычных задач кампаніі.

Перавыбарчая кампанія была намі скарыстана для большага набліжэньня партсеткі да масы, да вытворчай групы. З гэтай мэтай мы організавалі 30 новых цэх'ячэек. Мы таксама пашырылі сетку групорганаў.

У выніку перавыбараў бюро мы мелі значнае палепшаньне іх складу. Так, павялічыўся процант рабочых у складзе бюро ячэек з 55 проц да 68 проц. Сярод сяброў бюро маецца павялічэньне партыйцаў з партстажам звыш 3 год, што зьяўляецца вельмі важным. Гэта асноўны малюнак таго, што мы мелі па Фрунзаўскаму раёну пры правядзеньні справаздачна - перавыбарчай кампаніі бюро ячэек.

Але мы маем усе падставы на нашым вопыце зрабіць некаторае абагуленьне.

Балючым месцам зьяўляецца ў нас праца КСМ і парткіраўніцтва ім. Няма сумненьня, што тут „охами и вздохами" і рэзолюцыямі справе не дапаможаш. Патрэбны рашучыя захады на ўзмацненьне гэтай работы. Партасяродак трэба, проста сказаць, не адчувае пэўнай адказнасьці перад партыяй за працу і становішча КСМ. Тут патрэбна зрабіць рашучы перalом.

> У нас амаль няма ніводнага факту, калі-б ячэйка ці РК сапраўды прыцягнуў да партыйнай адказнасьці партыйцаў-камсамольцаў за той ці інш. прарыў, недахоп у працы КСМ. Мы маем за апошні час надзвычайнае паслабленьне працы партыйцаў, прымацаваных да КСМ. Сярод апошніх найбольшая колькасьць маладыя партыйцы. Гэта выклікае неабходнасьць удзяліць увагу з боку вышэйшых парторганаў да кіраўніцтва партпрымацаванымі, да праверкі іх работы сярод КСМ.

Пытаньні парткіраўніцтва КСМ ёсьць па сутнасьці сваёй пытаньне падрыхтоўкі і выхаваньня найлепшага дапаможніка партыі, рэзэрву будаўнікоў новага жыцьця і таму, асабліва пасьля выяўленьня значных прарываў, гэтае пытаньне павінна быць пастаўлена ў асяродку ўвагі ўсяе КП(б)Б. Падыходзячую самаправерку і перавыбары кіруючых органаў скарыстаць для ўзмацненьня парткіраўніцтва КСМ.

Слабым вучасткам і надалей застаецца работа профсаюзаў. Хаця толькі сьляпы ня можа ня ўбачыць таго зруху ў галіне перабудовы профпрацы, якога партыя дабілася пасьля зьняцьця праваопортуністычнага кіраўніцтва ЎсеЦСПС. Мы гэта адчуваем зьверху да нізу. Але зрух гэты нас ня можа задаволіць. Ці ёсьць гэта віна толькі профсаюзаў? Не. Тут нельга захаваць і тое, што мы маем шэраг фактаў недастатковага парткіраўніцтва работай профсаюзаў, асабліва на прадпрыемствах. Ня зжыты факты апекі, камандваньня замест сталага кіраўніцтва па асноўных пытаньнях работы; у галіне вытворчай работы надзвычайна часта ячэйкі не жадаюць лічыцца з ФЗМК, вельмі часта ячэйкі падмяняюць апошніх, альбо проста абыходзяць іх. Куды гэта варта? Трэба стварыць належныя ўмовы і патрабаваць выкананьня дырэктыў партыі ад усіх зьвеньняў профсаюзаў. Перавыбарчая кампанія паказала, што перабудова партпрацы яшчэ не закончана. Новыя формы і мэтоды існуюць больш на паперы, чым на справе, і марудна прыстасоўваюцца. Трэба сказаць, што і кіруючыя парторганы (РК і АК) дастаткова глыбока не заняліся праверкай і вывучэньнем вопыту перабудовы. Аб значэньні перабудовы нечага і гаварыць. Неабходна тут перайсьці да простага выяўленьня конкрэтнага, што затрымлівае перабудову. Ніякіх об'ектыўных умоў у гэтай галіне няма і ня можа быць.

Вось гэтыя 3 вузлавыя конкрэтныя пытаньні выпукла паўстаюць перад намі. Перамогшы паказаныя недахопы ў гэтых галінах мы забясьпечым уздым партыйна-масавай работы на большую політычную вышыню, мы яшчэ больш забясьпечым ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі ў нашай праверачнай рабоце.

# ЗА КОЛЕКТЫВІЗАЦЫЮ

## Рыхтавацца да ўборкі ўраджаю і асеньняй сяўбы

XIII зьезд КП(б)Б у сваіх дырэктывах падкрэсьліў, што:

„Аднэй з важнейшых чарговых задач усіх партыйных, савецкіх і коопэрацыйных організацый зьяўляецца сваячасовая падрыхтоўка і правядзеньне ўборачнай кампаніі (асабліва ў колгасах) і асеньняй сяўбы, ад якіх залежыць ня толькі гаспадарчае замацаваньне існуючых колгасаў, але і новы штуршок колгаснага руху. Таму зьезд даручае ўсім організацыям неадкладна пачаць падрыхтоўку гэтых важнейшых с.-г. кампаній“

Уборачная і асеньняя пасяўная кампанія маюць вялікае гаспадарча-палітычнае значаньне як для замацаваньня і далейшага разгортваньня колектывізацыі, гэтак і ў вырашэньні пытаньняў рабочага снабжэньня.

Задача партыйных організацый—забясьпечыць ужо зараз самую актыўную падрыхтоўку да гэтых кампаній: разгарнуць шырокую падрыхтоўку сярод колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, мобілізаваць актыўнасьць комсамольскай організацыі, жаночых мас, забясьпечыць рухомасьць і гнуткасьць ўсяго колгаснакоопэрацыйнага апарату.

Наш цэнтральны апарат павінен таксама ўжо зараз, не чакаючы часу і грозных напамінкаў з балонак газэт, праверыць падрыхтованасьць усіх зьвеньняў для актыўнай работы, паклапаціцца аб выданьні адпаведнай літаратуры і наогул пераключыць значную частку сваёй увагі і энэргіі на выкананьне баявых задач, што стаяць пры правядзеньні ўборачнай і пасяўной кампаніі.

У выніку правядзеньня кампаніі мы павінны мець гаспадарчае замацаваньне колгасаў і асабліва поўнае выкананьне ўсіх мерапрыемстваў, што намечаны ў выкананьні жывёлагадоўчай проблемы, як важнейшай з важнейшых проблем у разьвіцьці сельскай гаспадаркі на сучасным этапе наогул і ва ўмовах сельскай гаспадаркі БССР ў асаблівасьці. Для вырашэньня задач разьвіцьця жывёлагадоўлі выключнае значэньне набываюць такія мерапрыемствы, як організацыя буйных жывёлагадоўчых колгасных і саўгасных гаспадарак, бо толькі гэтым шляхам можна вырашыць проблему жывёлагадоўлі, сіласаваньне (абавязкова засілаваць 1 мільён тон корму), што мае амаль рашаючае значэньне ў вырашэньні кармавой проблемы.

> Урадам вызначаны мерапрыемствы па падвышэньню ўраджайнасьці (на 6—8 проц.).
>
> Намечаны пэўныя заданьні па пашырэньню пасяўной плошчы (ў індывідуальных гаспадарках азімы клін на 4-5 проц. ў колгасах на 14 проц. за кошт распрацоўкі неасвоеных земляў і памяншэньня плошчы папару). Установлена заданьне ачысьціць насеньня ў саўгасах і колгасах на 100 проц. і ў індывідуальных гаспадарках—ня менш як на 90 проц. Намечана шмат мера рыемстваў[1]) па лініі засеву асобных культур, угнаеньня глебы, завозу машын іг.д.

Нам неабходна забясьпечыць такую організацыю работы ў правядзеньні кампаній, каб аб гэтых мерапрыемствах добра ведалі ўсе колгасы і бядняцка-серадняцкае сялянства, каб загадзя былі складзены належныя пляны раёнаў, колгасаў і вёскі, каб кожная партыйная і комсамольская ячэйкі, кожная батрацка-бядняцкая група—актыўна змагаліся за выкананьне і перавыкананьне намечаных плянавых заданьняў.

Выкананьне такіх важнейшых практычных задач, як раньні ўздым папару, засеў гатунковым насеньнем, ачыстка і пратручваньне насеньня, радавы засеў,

---

[1]) Гл. пастанову СНК БССР ад 7/VI—1930 г.

зяблевае ворыва, вапнаваньне і тарпаваньне глебы, поўнае скарыстаньне штучнага ўгнаеньня, рамонт сельска-гаспадарчых машын, організацыя машынаконных станцый, разьвіцьцё садоўніцтва і гародніцтва, набывае выключна важнае значэньне і павінна быць праведзена па баявому найбольш організавана.

На вытворчых нарадах саўгасаў і колгасаў неабходна абгаварыць усе пляны па выкананьню задач асеньняй і ўборачнай кампаніі. Асабліва важным, што можа ў значна большай ступені забясьпечыць посьпехі ўборкі і сяўбы, зьяўляецца разгортваньне соцыялістычнага спаборніцтва на лепшае і своечасовае выкананьне работы. Рашуча зьнішчыць элемэнты параднасьці ў соц. спаборніцтве, організаваць ударныя брыгады і разгарнуць паміж імі спаборніцтва Вось важнейшая задача. У разгортваньні соцспаборніцтва неабходна скарыстаць вопыт рабочых дваццаціпяцітысячнікаў.

Саўгасы і колгасы, як соцыялістычныя форпосты ў вёсцы, адыгрываюць вядучую ролю ў разьвіцьці сельскае гаспадаркі па соцыялістычнаму шляху. Сваячасасова скончыўшы уборку і сяўбу, яны павінны прыйсьці на дапамогу бядняцкім і маламоцным серадняцкім адзіналічным гаспадаркам. Трэба ўсямерна прышчапляць прынцыпы „взаимной выручки“ паміж колгасамі і саўгасамі. Кожны саўгас і колгас, скончыўшы раней работу, організоўвае дапамогу саўгасам і колгасам, якія адсталі. Посьпех работы залежыць і ад добрай расстаноўкі сіл. Таму патрэбна забясьпечыць правільную організацыю працы ў колгасах і найбольш мэтазгодна разьмеркаваць рабочую сілу.

Праводзячы асеньнюю сяўбу і ўборку ўраджаю, мы зараз маем багацейшы вопыт вясновай сельска-гаспадарчай кампаніі. Гэты вопыт дае мажлівасьць скарыстаць апраўдаўшыя сябе формы работы і ўнікнуць тых памылак, што дапушчаны былі ўвясну.

Па вопыту вясновай кампаніі, нам неабходна шырока разгарнуць удзел рабочых мас у выкананьні задач, што пастаўлены перад уборкай і асеньнім севам. Профсаюзы і шэфскія організацыі павінны аказаць дапамогу колгасам і індывідуальным бядняцка-серадняцкім гаспадаркам: організаваць брыгады па рамонту сельска-гаспадарчых машын, дапамагчы кваліфікаванай сілай для работы на складаных машынах.

> Комсамолу і „Лёгкай Кавалерыі“ можна разгарнуць вялічэзную работу: падцягваць адстаючых, быць лепшымі ударнікамі, выкрываць „конкрэтных носьбітаў зла“—тых, кто перашкаджае разгортваньню работы, разам з лепшымі колгасамі ўзяць на „грамадзкі букс р“ тых, хто адстаў. Вось некалькі форм работы, якімі павінны аўладаць усе комсамольскія ячэйкі. Кожная комсамольская ячэйка, ударная брыгада па выкананьні задач уборкі і асеньняй сяўбы—вось лёзунг, які трэба ўсім комсамольцам падхапіць, з ўсёй напорыстасьцю, энтузыязмам і энэргіяй змагацца за яго ажыцьцяўленьне.

Найбольш пасьпяховае правядзеньне сваячасовай сяўбы і ўборкі залежыць ад правільнага разьмеркаваньня сельска-гаспадарчых машын. Вопыт вясновай кампаніі паказвае, што шмат было цяганіны і непаваротлівасьці з сваячасовым перасоўваньнем машын у тыя месцы, дзе ў іх была найбольшая патрэба. Абозы па ачыстцы насеннага матар'ялу пасьля скарыстаньня ў аднэй вёсцы часта прастойвалі па некалькі дзён без скарыстаньня, пакуль не ўдавалася злавіць конкрэтнага віноўніка такой ганебнай непаваротлівасьці.

Нам неабходна поўнасьцю забясьпечыць сваячасовую дастаўку машын, іх поўную нагрузку, зборку, сваячасовы і хуткі рамонт, найбольш хуткае перасоўваньне з месца на месца. Комсамольскія ячэйкі могуць узяць шэфства над машынамі, змагацца за поўнае скарыстаньне машын і беражлівыя да іх адносіны.

XIII зьезд КП(б)Б паказаў на тое, каб „не цкаваць адзінaлічнікаў, аказваць ім ўсялякую дапамогу і прыцягваць у колгасы“. Устанаўленьне правільных ўзаемаадносін з адзіналічнікамі зьяўляецца важнейшай справай, ад якой у значнай меры залежыць посьпех уборкі і сяўбы. Факты сьведчаць, што ў гэтай галіне ня ўсё добра, мы маем такое становішча, калі ў некаторых мясцох распальваецца варожасьць паміж колгасьнікамі і адзіналіч-

нікамі, якая, акрамя шкоды, колгаснаму руху нічога прынесьці ня можа.

Партыйныя організацыі на мясцох павінны бязьлітасна змагацца з такімі зьявішчамі, імкнуцца ўстанавіць правільныя ўзаемаадносіны колгасаў з адзінаалічнікам. Зусім правільна.

> „... Зьезд папярэджае партыйныя організацыі ад якога-б то ні было ігнараваньня адзіналічнай гаспадаркі, якая ў шэрагу раёнаў краіны будзе існаваць яшчэ адносна доўга“. (Тэзісы тав. Якаўлева да XVI зьезду партыі).

Задачы ўборкі ўраджаю і сяўбы, вялічэзныя. Іх выкананьне патрабуе напружаньня сілы і энэргіі. Партыйным організацыям трэба рашуча разгарнуць масавую работу сярод бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, мобілізуючы іх актыўнасьць на выкананьне ўсіх гэтых гаспадарча-палітычных задач. Трэба забясьпечыць асабліва рашучы пералом у справе разгортваньня работы з батрацтвам і беднатой, карэнным чынам палепшыўшы гэту работу, рашуча змагацца з праваўхілісткай недаацэнкай самастойнай організацыі батрацтва і беднаты.

Ліквідуючы перагібы і скрыўленьні партыйнай лініі ў колгасным руху, замацаваўшы організаваныя колгасы, паставіўшы ў гэтых колгасах найбольш узорна работу, неабходна забясьпечыць далейшую колектывізацыю бядняцка-серадняцкіх гаспадарак Беларусі. У гэтай рабоце трэба цьвёрда кіравацца Ленінскімі прынцыпамі, захоўваць поўную добраахвотнасьць і рашуча біць па адміністратарах, якія хацелі „в два счета“ вырашыць задачу колектывізацыі сельскай гаспадаркі.

У некаторых членаў партыі зьявіліся дэмобілізацыйныя настроі, панікёрства і недаацэнка дасягнутых у справе колектывізацыі посьпехаў. Адсюль апусканьне рук, нежаданьне рашуча змагаючыся з перагібамі, упарта і штодзённа працаваць над далейшай колектывізацыяй бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Па такіх, па сутнасьці, права-опортуністычных настроях трэба ўдарыць з ўсёй сілай і бальшавіцкай рашучасьцю.

КП(б)Б, цьвёрда праводзячы Ленінскую лінію, рашуча змагаючыся з права-опортуністычнай тэорыяй і практыкай, як галоўнай небясьпекай сучаснага этапу, з „левымі“ загібамі, якія па сутнасьці дапамагаюць правым і шчыльна з ім пераплятаюцца,—забясьпечыць посьпехі ўборкі і асеньняй сяўбы.

Наша партыя, цьвёрда праводзячы генэральную лінію, забясьпечыць далейшае разгортваньне колектывізацыі і на базе суцэльнай колектывізацыі—ліквідацыю кулацтва як клясы. Наша партыя няўхільна вядзе краіну да далейшых вялікіх перамог у будаўніцтве соцыялізму.

**Ракопчык**

# Выпраўленьне памылак і тэмпы колектывізацыі

Пасьля таго, як былі дапушчана шэраг перагібаў ў сэнсе парушэньня прынцыпаў добраахвотнасьці, парушэньня прынцыпаў у абагуленьні сродкаў вытворчасьці і цягавай сілы, памылкі ў сэнсе вучоту рознаколернасьці раёнаў у напрамку колектывізацыі, у пераскоку праз асноўную форму колгасу на даным этапе—сельска-гасп. арцель—да комуны, (пад уплывам кулацкіх элемэнтаў вёскі) пры слабой пастаноўцы працы з батрацка-бядняцкімі групамі, пры варожай кулацкай рабоце наглядаецца вядомы адліў з колгасаў.

Слабая пастаноўка працы з бядняцка-батрацкімі групамі, слабая праца з жанчынамі, пры наяўнасьці кулацкай агітацыі, пры ўмове, калі паміж колгасьнікаў ніякае працы не вялося, іх аставілі амаль бяз усякае ўвагі, пагналіся за лічбамі колгасаў, не організоўваючы ўнутры колгасаў працы, а кулацкія элемэнты, бачачы нямінучую для сябе пагібель, як клясы, пры суцэльнай колектывізацыі, прымалі ўсе захады, каб сарваць колектывізацыю, каб зьнішчыць яе, каб вывесьці серадняка з колгасу—у гэтым кулакі у некаторых мясцох мелі посьпех,—кулацкія элемэнты скарыстоўвалі нашы памылкі ў колгасным будаўніцтве, супроць нас. Усё гэта выклікала панікжэньне тэмпу колектывізацыі, а ня толькі выклікала зьніжэньне прыліву бядняцка-серадняцкіх мас у колгасы, выклікала значны адліў з колгасаў.

Наступная табліца дасьць магчымасьць прасачыць за дынамікай тэмпу колгасаў і іх характар.

Да моманту XII зьезду КП(б)Б было колектывізавана плошчы і гаспадарак прыблізна 1 проц., яшчэ ў восені 1929 г. было толькі абагулена прыблізна 3,6 проц. Да моманту XIII партзьезду КП(б)Б маецца прыблізна 12-16 проц, і гэтыя лічбы бязумоўна ўжо грунтоўныя, у далейшым яны павінны толькі ўзрастаць.

Гэтая табліца паказвае дынаміку колгаснага руху, але да лічбаў да 1/V-30 г. трэба адносіцца вельмі крытычна, толькі лічбы за апошнія месяц-паўтара трэба лічыць грунтоўнымі, а дагэтуль яны былі ў большасьці папяровымі.

Частка гэтае табліцы паказвае хваравітае зьявішча колгаснага руху, якое праяўлялася ў пагоні за лічбамі ў абагуленьні плошчы і двароў, а другія элемэнты гаспадаркі, як напр., рабочая і продукцыйная жывёла, а таксама і сродкі вытворчасьці не абагульваліся.

Ня гледзячы на вельмі ясныя партыйныя дырэктывы аб тым, што разам з організацыяй колгасаў трэба зьвяртаць увагу і на абагуленьне асабліва рабочае

**Дынаміка колгаснага будаўніцтва ў БССР**

| | На які тэрмін | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1/XII-29 г. | 1/I-30 г. | 1/II | 1/III | 10/III | 1/IV | 1/V | 10/V | 20/V | 1/VI |
| Лік колгасаў | 1989 | 2414 | 3665 | 3665 | 3633 | 3189 | 3071 | 3029 | 3041 | 3035 |
| Проц. колектывізаван. гаспадарак | 9,8 | 21,0 | 38,0 | 58,0 | 55,8 | 18,1 | 12,5 | 12,0 | 11,9 | 11,8 |
| " абагуленай плошчы | 10,8 | 26,6 | 46,9 | 66,0 | 65,4 | 24,1 | 16,7 | 16,5 | 16,2 | 16,1 |
| " абагулен. улічанай жывелы: | | | | | | | | | | |
| а) рабочая | — | — | — | 36,6 | 38,7 | — | 81,3 | 82,7 | 86,3 | 88,6 |
| б) продукцыйн. | — | — | — | 38,8 | 34,1 | — | 53,0 | 55,3 | 61,6 | 62,4 |

жывёлы, на організацыю машына-конных і конных станцый, якія на бліжэйшы час у нас павінны быць асноўнай крыніцай цяглавай сілы да замены іх мэханічнай сілай: трактарамі і электрычнасьцю, практычнымі працаўнікамі на мясцох мала ўдзялялася ўвагі гэтаму пытаньню. Напрыклад, плошча абагулена на 1/III на 66 проц., а рабочая жывёла—толькі на 36,6 проц.

Пагоня за лічбамі, галавакружэньне ад лічбаў росту плошчы і гаспадарак займалі ўсю ўвагу, організацыйныя пытаньні, пытаньні па організацыі і аплаце працы, культурна-масавая праца, праца з групамі беднаты, організацыйна-гаспадарчая праца, організацыя сродкаў вытворчасьці, організацыя рабочай жывёлы,—усё гэта было пакінута ў баку ад увагі практычных працаўнікоў, дабавіўшы да гэтага скажэньне партыйна-ленінскіх дырэктыў у добраахвотнасьці па ўцягненьні серадняка ў колгасы.

> У Мазыры абагулена жывёлы на 10/III-30 г. 74,5 проц., абагулена плошчы на гэты тэрмін—88,6 проц., але, на жаль, у пачатку красавіка высьветлілася, што дзякуючы памылкам, якія рабіліся на мясцох, у Мазыры колектывізацыя больш, чым у др. акругах, аказалася папяровай, яна там організоўвалася і праводзілася не па ініцыятыве бядняцка-серадняцкіх мас, ня з нізоў, а зьверху, дырэктыўным парадкам, як аб гэтым гаварыў сэкратар ЦК КП(б)Б т. Васілевіч на сакавіковым пленуме ЦК.

Вельмі дрэнна абстаяла справа з абагуленьнем рабочай жывёлы ў Полацкай акрузе: у той час, калі плошча зямлі абагулена на 10/III-30 г. да 83 проц., рабочая жывёла абагулена толькі на 28 проц. Гэта трэба аднесьці за лік галоўнейшых памылак колгаснага будаўніцтва і ня толькі ў Полацкай акрузе, але і ў другіх, гэта падкрэсьлівае няправільны падыход да колектывізацыі. Абагульваючы плошчу зямлі, трэба разам з тым зьвяртаць самую сур'ёзную ўвагу на абагуленьне сродкаў вытворчасьці, на абагуленьне рабочай і продукцыйнай жывёлы. Узяць у калгас зямлю, а ня ўзяць каня і плуга, чакаць, пакуль прышлюць трактар—гэта будзе вялікай памылкай, ад гэтага не пашырыцца пасяўная плошча, не палепшыцца ўраджай, калі ня будзе магчымасьці належным чынам апрацаваць глебу. Ідучы такім шляхам, наша колгаснае будаўніцтва пайшло ў бок ад партыйных дырэктыў. Цяпер яно ў значнай меры стала на правільны ленінскі шлях, але трэба ўзмацніць працу, замацаваць дасягненьні і прасоўвацца далей.

Табліца, што зьмешчана вышэй, дае магчымасьць зрабіць некаторыя вынікі: першае, што дзякуючы вялізарнейшым памылкам у колгасным будаўніцтве, дзякуючы галавацяпству, якое было дапушчана ў будаўніцтве колгасаў, вялікая колькасьць беднякоў і асабліва серадняков вышла з колгасаў пры дапамозе кулацкай агітацыі. Але ўсё-ж лік колгасаў параўнаўча зьменшыўся мала, хаця трэба адзначыць, што самі колгасы ў сваім памеры па плошчы і па ліку зьмешчаных у іх двароў значна зьменшыліся. На жаль, належных лічбаў накОнт забесьпячэньня колгасаў зямлёй і ліку іх двароў на чэрвень месяц 1930 г. ня маецца.

Гэтыя самыя лічбы, асабліва лічбы наяўнасьці колгасаў кажуць, што асноўныя фундамэнты колгасаў уцалелі асновы іх, хаця паменшыліся разьмерам, але пры замацаваньні ў далейшым яны хуткімі тэмпам будуць расьці. Асноўныя ініцыятары з бядняцкай, батрацкай і серадняцкай часткі сялян у колгасах засталіся. І калі яны ўжо прыступілі дружна ў колгасах да працы, калі яны ўжо пачалі сяўбу, яны бязумоўна цьвёрда рашылі застацца ў колгасах, яны ўжо з колгасаў ня выйдуць, і тое, што за май месяц мы наглядаем, што лічбы зьніжэньня далей ня ідуць, гэта кажа нам, што з гэтага моманту колгасы павінны пачаць расьці новым, здаровым тэмпам.

Трэба сказаць, што ўсе, хто застаўся ў колгасах, пачалі і праводзяць сяўбу, то гэта ўжо тыя, якія цьвёрда рашылі заставацца ў колгасах, усьвядомілі неабходнасьць колгаснага будаўніцтва, усьвядомілі яго мэтазгоднасьць, і ня гледзячы ні на якія няўзгоды, ні на якія памылкі, ні на якія скрыўленьні партыйнай лініі ў колгасным

будаўніцтве, ні на якую кулацкую агітацыю, яны колгасаў не пакінуць, а будуць упарта працягваць будаўніцтва колгасаў, узмацненьне іх. Засталіся тыя, якія цьвёрда ўпэўнены, якія перакаваліся, што толькі праз колектывізацыю праз аб'яднаньне дробных абасобленых гаспадарак у адну вялікую плянавую соцыялістычную гаспадарку можна пазбавіцца ад вясковага „ідыётызму“, „ідыётызму вясковага жыцьця“ (К. Маркс) ад беднасьці, разбурэньня, што толькі праз колектывізацыю можна палепшыць экономічнае жыцьцё бядняцка - серадняцкіх мас.

**Гэтыя лічбы доказваюць, што глыбока ня правы правыя опартуністыя і панікёры, якія прарочаць зьнішчэньне колектывізацыі, якія ня бачаць таго здаровага, якое ў ёй засталося. Ня бачаць, ці ня хочуць бачыць таго, што ўсё-ж, ня гледзячы на памылку ў колгасным будаўніцтве, плянавае меркаваньне выконваецца і выканана ўжо з перавышэньнем. Выконваецца пяцігодка, выконваюцца і партыйныя дырэктывы ў адносінах пляну колектывізацыі.**

Па пяцігодцы прадугледжвалася да канца 1932-33 г. у БССР абагуліць усяе зямельнай плошчы да 17%. На чэрвень 1930 г. маюцца 16,1 проц. плошчы і 12 проц. гаспадарак. Гэтыя лічбы грунтоўны, цьверды. Мы наглядаем за май месяц, што яны не зьмяншаюцца, надалей, бязумоўна, зьмяняцца не павінны, а наадварот, будуць павялічвацца, і да канца пяцёхгодкі 1932-33 г.г. у некалькі разоў будзе перавышана плянавае меркаваньне ў колгасным будаўніцтве.

Ня правы правыя опортуністыя, якія кажуць аб адступленьні ад генэральнай лініі ў колгасным будаўніцтве. Гэта—хлусьня на партыю. Ніякага адступленьня ад генэральнай лініі партыі няма. Нельга назваць адступленьнем ад генэральнай лініі партыі памылкі паасобных яе членаў, якія партыя з бальшавіцкай настойлівасьцю папраўляе, на хаду зварачвае таварышоў на здаровы бальшавіцкі шлях.

**Надалей неабходна рашучае бальшавіцкае прызнаньне нарobленых памылак у колгасным будаўніцтве, шчырае рашучае іх выпраўленьне, правільнае рашучае ажыцьцяўленьне партыйных дырэктыў, рашучая барацьба з правым опортунізмам, рэцыдывамі троцкісцкага антысерадняцкага ўхілу, дасканальнае, яснае растлумачэньне ільгот, якія дзяржава дае колгасьнікам, перавод колгасаў на новы статут, па якому яны маюць права мець карову, агарод, сад і г. д., наладжаньне належным чынам ўнутры-колгаснай організацыйна-гаспадарчай працы, растлумачэньне становішча з забесьпячэньнем непрацаздольных.**

Усё гэта дасьць магчымасьць колгасам моцна стаць на ногі, пры скарыстаньні крэдытаў, ільгот усё гэта дасьць магчымасьць бядняцка-серадняцкім масам, гледзячы на колгасы, а колгасы цавінны ведаць, што на іх цяпер глядзяць вельмі ўважліва, пераканацца ў неабходнасьці ўступу ў колгас.

У залежнасьці, як будзе праведзена праца колгасамі ў сяўбе, у своечасовасьці ўборкі, у залежнасьці, як будзе наладжана організацыя і аплата працы ў колгасах, у залежнасьці ад таго, як колгасы будуць весьці сваю гаспадарку наогул, і калі колгасы ўсе гэта будуць рабіць добра гэта выкліча з боку бядняцка-серадняцкага насельніцтва пераканаsuccessive зварот ў колгас, што ўжо ў вялікай колькасьці і робіцца.

Пры належным растлумачэньні сутнасьці колгасаў, пры належным растлумачэньні экономічнай мэтазгоднасьці, якое атрымоўвае колгасьнік пры правядзеньні ў жыцьцё статуту сельска-гаспадарчай арцелі, у колгас ня толькі зварочваюцца што вышлі, а ідуць туды і бядняцка-серадняцкія масы, якія раней ня былі ў колгасе. Колгасы пашыраюцца і пашыраюцца за кошт вакольнага бядняцка-серадняцкага насельніцтва.

Вялікая ўвага надалей павінна быць зьвернута на ўзмацненьне застаўшыхся колгасаў, разам з растлумачэньнем сутнасьці колгасаў, „на правільную організацыю севу, згрупаваць увагу на гаспадарчых пытаньнях колгаснага руху“, як гаварыў тав. Сталін у адказе колгасьнікам, „такі сродак неабходны для вырашэньня гэтай задачы“.

Прызнаньне памылак, іх рашучае выпраўленьне, правільнае правядзеньне ў жыцьцё дырэктыў ЦК КП(б)Б і ЦК УсеКП(б), пры правядзеньні належ-

най працы з батрацка-бядняцкімі масамі, пры правядзеньні належнай працы сярод жанчын, узмацненьне колгасаў, правільная організацыя працы з растлумачэньнем, што колгасьнік не зьяўляецца парабкам у колгасе і ён сам сабе ня служыць, а што колгас—гэта тая-ж самая яго гаспадарка, толькі пастаўлена дзякуючы ўзбуйненьню гаспадаркі, і забесьпячэньню яе палепшанымі сродкамі вытворчасьці пастаўлен у лепшыя продукцыйныя, ўмовы і што колгасьнік там будзе атрымліваць не заработак, а вынікі сваёй працы, ў залежнасьці ад эканомічнага становішча колгасу. Ад палепшаньня яго гаспадаркі будзе паляпшацца і становішча колгасьніка: добрае правядзеньне сяўбы, растлумачэньне ільгот і г. д. дасьць магчымасьць, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, пры дапамозе рабочае клясы, на базе разьвіцьця соцыялістычнай фабрычна-заводзкай індустрыі, правесьці суцэльную колектывізацыю ў раёнах, на базе якой, павінна праводзіцца ліквідацыя кулака як клясы. Перабудуецца вёска на соцыялістычны лад, наблізіцца да гораду. Капіталістычныя элемэнты вёскі будуць выкарчаваны з карэньнямі, зьнішчыцца экспёалтацыя клясы клясай, зьнішчацца самі клясы, пабудуецца бясклясавае грамадзтва—соцыялізм.

**Бурава**

# Масавая работа сярод сялянак

Работа сярод працоўных сялянак на сёньняшні дзень зьяўляецца адным з слабейшых вучасткаў у масавай рабоце на вёсцы. Толькі што скончыўся XIII зьезд КП(б)Б. У сваёй пастанове па дакладу ЦК КП(б)Б ён адзначыў, што:

> „... работа сярод батрачак і бядняцка-серадняцкіх жаночых мас вёскі адстае ад палітычных і гаспадарчых задач, якія павінны быць вырашаны партыяй у сувязі з социялістычнай рэконструкцыяй сельскай гаспадаркі“.

Здаецца, яскрава сказана, але ў нас ёсьць падставы прадбачыць небясьпеку, што гэта асноўная задача—узмацненьне работы сярод сялянак—і на сёньняшні дзень можа застаца нявырашанай як сьлед многімі парторганізацыямі. Мы ў сучасны момант наглядаем недаацэнку ролі батрачак і бядняцка-серадняцкіх мас жанчын у справе колектывізацыі, у час, як ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б своечасова завастралі ўвагу ўсяе партыі на неабходнасьці рашуча разгортваць масавую работу сярод працоўных сялянак. Менавіта, у зьвязку з неабходнасьцю ўзмацніць масавую работу сярод працоўных жанчын у рэконструкцыйны пэрыод сіламі ўсяе партыі, усіх аддзелаў кіруючых парторганаў і была праведзена рэорганізацыя жаночых аддзелаў.

Дырэктыў па гэтым пытаньні было даставова але дырэктывы засталіся „гласом вопиющего в пустыне“ таму, што мясцовыя парторганізацыі не зразумелі ўсяе палітычнай важнасьці ўзьняць на належную вышыню клясавае выхаваньне і актывізацыю батрачак, бяднячак і сераднячак у пэрыод разгортваньня процэсу колектывізацыі, у клясавай барацьбе з кулацтвам і ўсімі варожымі соцыялістычнай перабудове вёскі элемэнтамі. Няма патрэбы даводзіць, што клясавы вораг скарыстоўвае ўсе мажлівасьці супроць соцыялістычнай перабудовы краіны.

Найслабейшым зьвяном у масавай рабоце на вёсцы зьяўляецца работа сярод сялянак, у той час, як працоўная сялянка ў сваёй масе зьяўляецца палітычна найбольш адсталай. Гэта са ўсёй палітычнай адказнасьцю трэба ўлічваць у масавай рабоце на вёсцы, каб асобна вылучыць найслабейшыя зьвеньні для ўзмацненьня партработы на жаночым вучастку. Гэтага ў партрабоце на мясцох не хапае, гэтага з ўсёй рашучасьцю трэба дабіцца.

Ці маем мы ўсё неабходнае, каб як мага хутчэй перабудаваць і разгарнуць сталую работу сярод працоўных жанчын і тым самым хутчэй і лепш ажыцьцяўляць політыку партыі па соцыялістычнай рэконструкцыі с.-г. і ліквідацыі кулацтва як клясы на аснове суцэльнай колектывізацыі? На наш погляд, маем. Няправільныя і шкодныя думкі асобных мясцовых організацый і асобных таварышоў аб тым, што вясковыя парторганізацыі ня здолеюць справіцца з усімі задачамі зараз што як быццам немагчыма вылучаць асобна работу, напрыклад, сярод жанчын, калі праводзяцца найбольш важныя політычныя пытаньні. Такі аргумэнт выкрывае опортуністычныя адносіны да аднае з важнейшых галін партыйнай работы. Бальшавіцкая ўстаноўка партыі заключаецца ў тым,

> што партыя ўсе задачы ажыцьцяўляе пры шырачэзнай мобілізацыі працоўных мас з вучотам найслабейшых зьвеньняў дзеля таго, каб узмацніць партыйнае кіраўніцтва на гэтым вучастку і тым самым узьняць політычную сьвядомасьць найбольш адсталых пластоў працоўных да разуменьня адказных задач соцыялістычнага будаўніцтва і ўдзелу ў рашучай клясавай барацьбе, супроць капіталістычных элемэнтаў.

Хто думае, што можна пасьпяхова праводзіць колектывізацыю, рашуча змагацца з кулацтвам і ажыцьцяўляць політыку партыі, накіраваную да ліквіда

цыі кулацтва як клясы, на падставе суцэльнай колектывізацыі бяз узмоцненага клясавага выхаваньня і актывізацыі на ажыцьцяўленьне гэтай політыкі батрачак, беднячак і серадначак, той па непаразуменьню альбо сьвядома змазвае асноўныя задачы партыі на вёсцы ў сучасны момант, той льле ваду на млын правых опортуністых. Падобным настроям трэба даць самы жорсткі адпор, бо яны нічога агульнага ня маюць з устаноўкай партыі Аднак гэтыя настроі ў масавай рабоце наогул і асабліва сярод жанчын у асобных мясцовых організацыях маюць месца.

У летні час неабходна, як ніколі разгарнуць масавую работу сярод працоўных сялянак соцыялістычнага і індывідуальнага сэктару (саўгасы і колгасы).

Формы масавай работы неабходна прыстасаваць да ўмоў палявых работ. Трэба так гнутка перабудаваць масавую работу, каб максымальна скарыстаць нерабочыя дні (дрэннае паветра, сьвятошныя дні, пэрыод мяжпар'я). У першую чаргу неабходна разгарнуць сталую работу сярод жаночага актыву: дэлегатак, абраных сяброў у саветы і ўва ўсе віды коопэрацыі і працоўнага жаночага актыву ўсіх грамадзкіх організацый. Гэты актыў неабходна сыстэматычна склікаць як па лініі ячэек, так і па асобных галінах з тым, каб даваць політычную ўстаноўку і актывізаваць іх на конкрэтны ўдзел у політычных і гаспадарчых справах. Парторганізацыі павінны патрабаваць адказнасьці за разгортваньне і пастаноўку масавай работы ва ўсіх установах, саветах, коопэрацыі і інш., бо гэтыя ўстановы ў масавай рабоце павінны адыгрываць нямалую ролю. Падрыхтоўка да ўборачнай і хлебанарыхтоўчай кампаніі павінна заключацца ў тым, каб організаваць і актывізаваць на правядзеньне гэтых кампаній шырокія масы працоўнага сялянства і асабліва батрацтва, беднаты і працоўных сялянак, і даць руйнуючы адпор кулацтву, якое пытаецца сарваць ўборку ўраджаю, хлебанарыхтоўкі і пашкодзіць далейшаму процэсу колектывізацыі.

**Трэба памятаць, што кулак, поп, сэктант і ўсе кулацкія прыслужнікі пастараюцца скарыстаць найбольш адсталыя пласты бядняцка-серадняцкіх мас жанчын на вёсцы і нават колгасьніц. Вось чаму партыйным організацыям неабходна зараз-жа разгарнуць масавую работу па ўсіх вучастках, каб проціпаставіць адзіны, добра організаваны фронт масавай работы на вёсцы і ў колгасе „кулацкаму агітатару“.**

У нас маюцца групы беднаты, бытавыя комісіі ў саветах, дэлегацкія сходы, выбарчы актыў. Мы маем усе магчымасьці разгарнуць належную масавую работу ў летні час. Трэба толькі ўлічыць усю політычную значнасьць гэтай задачы і, закасаўшы рукавы, прыступіць да працы.

Пры разгортваньні і кіраўніцтве масавай работай, у прыватнасьці сярод жанчын, патрэбен клясавы падыход. Да гэтага часу часта праводзілася работа „наогул сярод жанчын“, а гэтым карысталіся кулачкі, якія перашкаджалі рабоце сярод працоўных сялянак. Трэба абавязкова ўлічваць асаблівасьці дадзенага раёну і вёскі пры правядзеньні масавай работы, каб на падставе гэтага вучоту найлепш ажыцьцяўляць асноўныя мерапрыемствы партыі.

**Зараз жа неабходна прыступіць да вырашэньня задачы рэорганізацыі працы і быту колгасьніц, гэта значыць, трэба максымальна ўцягнуць колгасьніц у гаспадарчую вытворчасьць колгасу і стварыць для гэтага належныя бытавыя ўмовы, у першую чаргу шляхам організацыі дзіцячых устаноў. Такім чынам колгасьніца будзе бязумоўна політычна расьці. Яна будзе актыўна будаваць колгас і дапамагаць партыі ўцягваць працоўных сялянак у колгас і рашуча змагацца з кулацтвам.**

Уцягненьне колгасьніц ва ўсе галіны гаспадарчай вытворчасьці колгасу дасьць магчымасьць аслабаніць частку мужчынскай рабочай сілы для адходных промыслаў.

Гэтая задача будзе разьвязана ў значнай меры і на сёньняшні дзень пры адпаведнай увазе гэтаму важнейшаму пытаньню. Асаблівасьці гаспадарчага разьвіцьця колгасаў у БССР, г., зн. жывёлагадоўчы, садовага-родніцкі напрамак іх і ўжываньне іншых інтэнсыўных культур і зараз і ў далейшым дазволяць ужываць жаночую працу. Вось чаму, зараз трэба ня толькі максымальна ўця-

гваць жаночую працу ва ўсе галіны гаспадарчай вытворчасьці ў колгасах, але і трэба асаблівую ўвагу зьвярнуць на арганізацыю жаночай працы і ўменьне вылучыць адпаведныя кадры колгасьніц, здольных кіраваць той ці іншай галінай вытворчасьці.

Пытаньне ліквідацыі няпісьменнасьці і падвышэньне пісьменнасьці паўстае з асобнай актуальнасьцю і побач з гэтым організацыя выхаваньня дзяцей дашкольнага ўзросту. На гэтым вучастку органам асьветы і аховы здароўя прадбачыцца вялікая і адказная работа, за якую неабходна зараз-жа ўзяцца. Пры правядзеньні розных курсаў па той ці іншай кваліфікацыі колгасьнікаў павінна заняць не апошняе месца колгасьніца ня з пункту погляду процанту, а з пункту погляду тае задачы, якую павінна адыграць колгасьніца ў гаспадарчым разьвіцьці колгасу. Адсюль задача разгортваньня такой масавай работы сярод колгасьніц, каб максымальна хутка вылучыць найлепшы актыў, які дасьць нам будаўнікоў соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі.

Усе гэтыя задачы магчыма вырашыць і ажыцьцёвіць пры ўмове перабудовы і ўзмацненьня масавай работы сярод працоўных сялянак і колгасьніц сіламі ўсяе парторганізацыі.

М. Лабадаеў

# Аб рабоце з вясковай беднатой

## Далёка ня ўсё благапалучна

Ц. О. нашай партыі „Правда“ ў сваім перадавым артыкуле „аб рабоце з беднатой“ піша:

„Паслабленьне работы з беднатой, ігнараваньне яе ёсьць нямінучы спадарожнік і паказчык паслабленьня барацьбы з кулацтвам; паслабленьне масавай работы з беднатой ёсьць паслабленьне позыцый партыі ў барацьбе за выкананьне лёзунгу ліквідацыі кулацтва як клясы. Па таму, як разгорнута актыўнасьць, арганізаванасьць і згуртаванасьць батрацка-бядняцкіх мас вакол партыі, можна беспамылкова вызначыць, як ідзе барацьба з кулацтвам, бо без згуртаванасьці беднаты вакол партыі, без яе арганізаванасьці, без мобілізацыі яе політычнай актыўнасьці супроць кулака—грош цана размовам аб барацьбе з кулацтвам: апошняя ў такім выпадку ператвараецца ў балбатню, пустазвонства, але не ў бальшавіцкую барацьбу з клясавым ворагам, за яго ліквідацыю ў раёнах суцэльнай колектывізацыі.

Разам з гэтым па характару работы з беднатой можна судзіць і аб тым, як практычна ажыцьцяўляецца політыка партыі ў адносінах да сярэдняга сялянства“.

Мы знарок прыводзім такую вялікую вынятку, каб лішні раз падкрэсьліць політычную важнасьць работы з батрацтвам і беднатой. Партыя ўвесь час завострывала сваю ўвагу на ўзмацненьні політычнай ролі батрацка-бядняцкага асяродку. ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове падкрэсьліваў, што „толькі варожыя УсеКП(б) і УсеЛКСМ элемэнты могуць ігнараваць гэту каранную задачу партыі—задачу самастойнай організацыі беднаты і батрацтва на вёсцы“.

Партыя, праводзячы сваю работу па організацыі батрацтва і беднаты, змагалася як супроць недаацэнкі і пасыўнасьці ў рабоце сярод вясковай беднаты, што зьяўляецца „аднэй з самых шкодных праяў правага ўхілу на практыцы“, гэтак і супроць „ідэі стварэньня асобнага саюзу беднаты, што выходзіць з трацкісцка-ліквідатарскай недаацэнкі саветаў і коопэрацыі, як асноўных органаў соцыялістычнай перабудовы вёскі, і на справе вядзе да популярызацыі контррэволюцыйнага лёзунгу кулацкага „сялянскага союзу“ (з пастановы ЦК УсеКП(б).

Політычная роля батрацтва і беднаты ў вёсцы значна ўзрасла. Партыя мае зараз вялікі вопыт ў рабоце сярод батрацтва і беднаты і зрабіла многае па яе актывізацыі. Адным з паказчыкаў таго, наколькі ўзрасла політычная актыўнасьць вясковай беднаты і батрацтва, можа зьявіцца адбыўшаяся ў сакавіку г. г. Усебеларуская конфэрэнцыя батрацка-бядняцкіх груп.

Было-б памылковым супакойвацца на дасягнутым. Мы фактычна маем разрыў паміж актыўнасьцю батрацтва і беднаты і організацыйным замацаваньнем гэтай актыўнасьці. Шэраг фактаў з работы вясковых партыйных організацый (ды і ня толькі вясковых) прымушаюць біць трывогу і даюць падставы рабіць вывад, што на гэтым адказьнейшым участку работы нашай партыі далёка ня ўсё добра.

Галоўныя недахопы ідуць па лініі „самай шкоднай праявы—правага ўхілу“—недаацэнкі работы сярод беднаты і батрацтва.

## Аб чым сьведчаць факты

Зьвернемся да фактаў. У многіх членаў партыі вясковай парторганізацыі існуе неразуменьне таго, што ў вырашэньні задач па соцыялістычнай перабудове вёскі вялічэзнае і нават рашаючае значэньне мае згуртаваньне батрацтва і беднаты вакол партыі і замацаваньне блёку з серадняком у барацьбе з кулацтвам. Вядома, допушчаныя ў справе колектывізацыі памылкі ішлі па лініі антыленінскіх узаемаадносін з серадняком, пагражалі саюзу з серадняком, а між тым вельмі часта забываецца тая ісьціна, што без разгортваньня адпаведнай работы сярод беднаты ня можа быць дастаткова цесны саюз з серадняком таму, што, як адзначае т. Сталін,

> „серадняк ёсьць кляса, якая хістаецца, што згоду з серадняком можна зрабіць прочнай толькі пры ўмове рашучай барацьбы з кулацтвам і ўзмацненьня работы сярод беднаты, што бяз гэтых умоў, серадняк можа хіснуцца да кулацтва, як сілы“ (Сталін. „Ленин и вопрос о союзе с середняком“).

Непаразуменьняў ёсьць шмат. Аб гэтым сьведчаць многія факты.

У колгасе Сваташыцкага сельсавету (Дубровенскі раён, Аршанчына) члены праўленьня і агроном, кандыдат КП(б)Б, думаюць, што „калі мы створым батрацка-бядняцкія групы ў колгасе, расколем колгасьнікаў. Зараз усе мы роўныя, працуем на аднолькавых правох. Такім чынам, калі партыя бярэцца за групы, дык яна яшчэ раз зробіць памылку, як памылілася (?!) пры колектывізацыі“.

Сярод паасобных членаў партыі і колгасьнікаў Копыльскага раёну (Меншчына) ёсьць настроі, што „працу з групамі беднаты трэба праводзіць толькі калі скончыцца, адліў з колгасу“.

Таварышы, якія па заданьні ЦК КП(б)Б абсьледвалі работу батрацка-бядняцкіх груп, паведамляюць, што ў Копыльскім раёне, па вестках Райкому у адным месяцы лічылася 3 групы, пры праверцы ж аказалася толькі адна. Гэтая група за паўтара месяцы не рабіла ніводнага пасяджэньня, няма пляну работы, некаторыя беднякі ня ведаюць, што яны ўваходзяць у групу. Кіраўніком групы вылучан комсамолец, які ніякім аўторытэтам сярод беднаты не карыстаецца (бацька аштрафаваны за разбазарваньне жывёлы).

Пададзеныя факты, а іх можна падаць значна больш, даюць права рабіць вывод што ў шэрагу працаўнікоў ёсьць непаразуменьні, як працаваць з беднатой і галоўнае, што найбольш зьяўляецца шкодным, адносіны да гэтай работы, як нейкай другараднай.

Аб тым, што работа сярод батрацтва і беднаты ў рабоце многіх партыйных ячэек, організацый і ўстаноў далёка ня мае органічнага характару ва ўсёй дзейнасьці, можна судзіць і на аснове другіх паказчыкаў.

## Дырэктывы фактычна ня выканаы

Зноў зьвернемся да фактаў. ЦК КП(б)Б яшчэ ў студзені месяцы гэтага году прыняў падрабязную пастанову аб рабоце сярод беднаты. Згодна гэтай пастановы, у шэрагу цэнтральных і акруговых устаноў павінны былі быць вылучаны спэцыяльныя інструктары па рабоце сярод беднаты. Дырэктыва выканана са значным спазьненьнем, а Белкоопсаюз вылучыў інструктара толькі ў канцы красавіка. Ня гледзячы на шэраг дырэктыў аб разгортваньні работы груп беднаты, апошнія зьбіраюцца для разбору кампанейскіх пытаньняў, г. зн. тады, калі ёсьць дырэктыва райкому абгаварыць тое ці іншае пытаньне. Зусім не наладжана кіраўніцтва і дапамога кіраўнікамі, груп беднаты. Групы беднаты пры колгасах створаны толькі ў апошні час і то нават не ва ўсіх колгасах, а там, дзе створаны, далёка ня ўсюды прыступілі да практычнай работы.

Адпушчаныя сродкі на коопэраваньне батрацтва і беднаты поўнасьцю не скарыстоўваюцца. Дырэктыва ЦК КП(б)Б аб уцягненьні батракоў у колгасы (было намечана 60 тысяч) поўнасьцю ня выканана. Па Аршанскай акрузе сродкі, адпушчаныя для крэдытаваньня колгасаў

на выдачу зарплаты батраком колгасьнікам і для аказаньня дапамогі, скарыстаны ад 5 да 7 процантаў.

Наогул з скарыстаньнем фондаў коопэраваньня батрацтва і беднаты справа абстаіць з рук вон дрэнна. Чаго варты, напрыклад, такі факт, калі па сыстэме малочна - жывёлагадоўчай коопэрацыі фонд коопэраваньня беднаты знаходзіцца ў такім становішчы:

Мелася фонду на 1/X-29 г. 8.331 р., паступіла 1.777 р. Выдана 1.914 руб. і застаецца на 1/III-30 г. 8.194 р.

> Ясна, што неаднаразовыя дырэктывы аб поўным і сваячасовым скарыстаньні фондаў коопэраваньня фактычна ігнараваліся, што па сутнасьці працаўнікі, ад якіх залежала выкананьне гэтай дырэктывы, праводзілі права опортуністычную лінію. Яшчэ больш ганебна тое, калі былі выпадкі коопэраваньня за кошт гэтых фондаў, асоб, якія ня мелі наогул ніякага права на коопэраваньне (былыя гандляры і паліцэйскія).

Работа сярод батрацтва і беднаты коопэрацыйных аб'яднаньняў пастаўлена надзвычайна дрэнна.

У той жа малочна - жывёлагадоўчай коопэрацыі мы маем шэраг таварышоў, якія проста заяўляюць аб немэтазгоднасьці організацыі батрацка-бядняцкіх груп у таварыствах, пры чым з арыгінальнай мотывіроўкай. Яны кажуць, што „групы батрацтва і беднаты існуюць пры кожным сельсавеце, у склад якіх уваходзяць прадстаўнікі і ад таварystваў, а таму няма для чаго організоўваць самастойныя групы беднаты ў таварыствах". Белколгаспаляводсаюз у сваёй пастанове праўленьня адзначае, што

> „работа сярод батрацтва і беднаты з боку сыстэмы паляводчаскай і іншых відаў вытворчай сельска-гаспадарчай коопэрацыі праводзіцца нездавальняюча, а ў некаторых мясцох зусім не распачата".

Па спажывецкай коопэрацыі справа абстаіць крыху лепш, але яшчэ не адпавядае выкананьню тых дырэктыў, якія па гэтым пытаньні даваліся.

Увага спажывецкага саюзу да разгортваньня работы сярод беднаты аддавалася пераважна ў час правядзеньня асобных коопэрацыйных кампаній. Гэта работа больш за ўсё хварэе на казённасьць яе форм і няўменьне праяўляць дастатковую чуткасьць і ініцыятыву. Надзвычайна многа папяровага кіраўніцтва, замест сваячасовай практычнай дапамогі, інструктажу і вывучэньня вопыту. Гэта палажэньне адносіцца да ўсіх сыстэм коопэрацыі.

Райкомы КП(б)Б у сваім кіраўніцтве батрацка-бядняцкімі групамі ня ўжываюць належнага разьмежаваньня, кіраўніцтва ажыцьцяўляецца наогул усімі групамі. Між тым, кожная батрацка-бядняцкая група пры кожным коопэрацыйным аб'яднаньні, установе і організацыі мае свае спэцыфічныя ўмовы работы і дапамога павінна ісьці па лініі вучоту ўмоў кожнай групы.

Такім чынам, на падставе вышэй прыведзеных даных можна прыйсьці да вываду, што дырэктыва бюро ЦК КП(б)Б (студзень 1930 г.) у значнай сваёй частцы ня выканана. **Партыйныя ячэйкі і райкомы не зрабілі ўсяго таго, што патрабавалася для забесьпячэньня сталай і сыстэматычнай работы сярод батрацтва і беднаты.** Вось чаму зусім зразумела, што там, дзе была найгорш пастаўлена работа па організацыі батрацтва і беднаты, мы мелі горшыя вынікі па замацаваньні дасягнутых посьпехаў у колектывізацыі.

## Забясьпечыць рашучы пералом.

Нам неабходна дабіцца таго, каб работа сярод батрацтва і беднаты была ўвесь час у цэнтры ўвагі партыйных ячэек у вёсцы, каб усякай недаацэнцы гэтай работы даваўся самы рашучы і бязьлітасны адпор.

На сучасным этапе, калі мы разгорнутым фронтам наступаем на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, калі ажыцьцяўляецца політыка ліквідацыі кулацтва як клясы, на аснове суцэльнай колектывізацыі, ва ўмовах павароту мас сераднякоў на соцыялістычны шлях, работа па організацыі політычнай актыўнасьці батрацтва і беднаты набывае асаблівую важнасьць.

Нашы посьпехі ў соцыялістычным будаўніцтве, далейшае, яшчэ больш рашучае, наступленьне на кулацтва ня спыняе клясавай барацьбы, а, наадварот, будзе характарызавацца яе яшчэ большым абвастрэньнем.

**Актыўна наступаць на кулацтва, рыхтаваць шырокія масы беднаты і серадніакоў да колектыўных форм землеробства немагчыма без усямернай організацыі беднаты і яе далейшай актывізацыі на выкананьне задач соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.**

Вось чаму зараз мы павінны з усёй сілай і рашучасьцю падкрэсьліць неабходнасьць узмацненьня работы сярод батрацтва і беднаты.

Вядома, што заставацца на старых формах работы сярод беднаты—гэта азначала-б адставаць ад жыцьця і ня бачыць тых соцыяльна-эканомічных зьмен у вёсцы, якія адбыліся на падставе посьпехаў у соцыялістычный рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Адсюль яскрава розьніца паміж зьместам работы груп беднаты ў колгасах і іншых організацыях (КСМ, саветы, коопэрацыя).

Калі групы беднаты ў колгасах (а яны ў колгасах бязумоўна павінны існаваць) павінны падначаліць зьмест усяе сваёй работы барацьбе за гаспадарчае ўзмацненьне колгасу, за організацыю сапраўднай колектыўнай працы, дык групы беднаты ня ў колгасах, побач з організацыяй і дапамогай індывідуальным бядняцкім гаспадаркам на першы плян павінны высоўваць задачу колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Групы беднаты пры колгасах павінны займацца такімі важнейшымі пытаньнямі, як разгортваньне соцыялістычнага спаборніцтва, організацыя працы, узмацненьне працоўнай дысцыпліны, змагацца за пасьпяховае выкананьне вытворчых плянаў, весьці рашучую барацьбу з рознымі рвацкімі і спажывецкімі настроямі. Групы беднаты павінны ўсямерна прышчапляць у працы колгасьнікаў новыя соцыялістычныя формы працы па прыкладу нашых прамысловых прадпрыемстваў.

У далейшым нам патрэбна ўзяць рашучы напрамак на тое, каб значна больш павялічыць адказнасьць за правядзеньне работы сярод беднаты з боку саветаў, КСУ, праўленьняў колгасаў, коопэрацыі і інш. організацый. Апошні час вызначае сабою некаторы больш рэальны паварот нашых савецкіх і коопэрацыйных організацый да работы сярод беднаты. Часьцей сустракаюцца гэтыя пытаньні на пасяджэньнях праўленьняў і прэзыдыумаў. Аднак тут пераважае надворны бок справы, і ўся коопэрацыйная сыстэма і савецкія органы не заняліся гэтай работай так як сьлед, і таму трэба значна больш патрабаваць адказнасьці за пастаноўку работы сярод батрацтва і беднаты.

## Некалькі слоў аб кіраўніцтве

Зусім правільныя скаргі мясцовых працаўнікоў на тое, што кіраўніцтва работай сярод беднаты недастатковае. Гэта азначае, што трэба ставіць пытаньне аб больш конкрэтным кіраўніцтве альбо аб дыфэрэнцыяцыі кіраўніцтва. Замест таго, каб склікаць усіх кіраўнікоў груп беднаты, нам патрэбна праводзіць нарады кіраўнікоў груп беднаты па паасобных організацыях і на такіх нарадах разглядаць пытаньні больш шчыльна зьвязаныя з задачамі тых ці іншых організацый. Разам з усім гэтым неабходна забясьпечыць умацаваньне кіраўнікоў груп беднаты лепшымі сіламі і не дапускаць іх частай замены.

На далейшае асабліва неабходна дабіцца прыцягненьня да работы батрацкабядняцкіх груп батрачак, бяднячак. Гэта задача вялікай важнасьці, між тым па дрэннай старой традыцыі работа сярод жанчын перакладвалася на плечы жаночых організатараў. Зараз неабходна, каб гэта работа зьяўлялася сапраўды неаддзялімай часткай работы партыйных ячэек і комітэтаў.

Няма патрэбы пералічаць тых мерапрыемстваў, якія запісаны ў шэрагу пастаноў партыі, трэба, каб нашы кіруючыя ўстановы па сапраўднаму праверылі становішча з выкананьнем дырэктыў і прынялі ўсе меры да іх выкананьня.

## Супроць недаацэнкі важнасьці работы

У зьвязку з значнымі посьпехамі ў соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі ў вёсцы адбыліся значныя соцыяльна-экономічныя зьмены, якія па новаму ставяць пытаньне аб нашай апоры на вёсцы.

> „З гэтага часу ў важнейшых збожжавых раёнах СССР вёска падзяляецца на дзьве асноўныя часткі: на колгасьнікаў, якія зьяўляюцца сапраўднай і моцнай апорай савецкай улады, і на неколгасьнікаў з беднаты і серадзякоў, пакуль яшчэ не жадаючых увайсьці ў колгасы, але якіх масавы вопыт колгасаў, нясумненна, упэўніць у адносна карацейшыя тэрміны ў неабходнасьці стаць на шлях колектывізацыі“ (З тэзісаў да дакладу тав. Якаўлева на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б).

Гэты пункт выклікаў у некаторых таварышоў нямала непаразуменьняў. Зьявіліся размовы аб тым, што зараз ставіцца пытаньне аб немэтазгоднасьці правядзеньня самастойнай работы сярод беднаты, што наогул бедната, якая не ўвайшла ў колгасы, ужо не зьяўляецца нашай апорай на вёсцы да т. п. Нам здаецца, што такія размовы тлумачацца недастатковым разуменьнем тых вялікіх соцыяльна-экономічных зьмен, якія адбыліся ў вёсцы. Нежаданьне зразумець, што процэс клясавай барацьбы які ў зьвязку з далейшай колектывізацыяй будзе абвастрацца, патрэбуе павялічэньня актыўнасьці беднаты, яе большага згуртаваньня вакол комуністычнай партыі, узмацненьня саюзу з серадняком для канчатковай перамогі і ліквідацыі кулака на аснове суцэльнай колектывізацыі.

Тав. Молатаў у сваім дакладзе на Ленінградзкай абласной партконфэрэнцыі зусім слушна зазначае, што

> „барацьба за колгасы патрабуе далейшай упартай работы і сярод адзіналічнікаў—беднякоў і серадзякоў. Трэба памятаць, што яны з часам увальлюцца ў шэрагі колгасьнікаў, пры тым сыстэматычная работа па організацыі беднаты і ўсямерная дапамога бедняком і серадняком у справе ўздыму сельскай гаспадаркі паскораць іх пераход на шлях колектывізацыі“.

Пастаноўка пытаньня аб апоры партыі на вёсцы ў тэзісах да XVI зьезду партыі азначае, што серадняк, які ўвайшоў у колгас, з саюзьніка пролетарыяту становіцца яго апорай; такім чынам наша апора ў вёсцы пашыраецца. Аднак гэта ні ў якім разе, не выключае таго, што бядняк, які не ўвайшоў у колгас, як у збожжавых раёнах пры СССР, так і ў другіх раёнах не зьяўляецца апорай пролетарыяту на вёсцы, а серадняк—саюзьнікам. Новую пастаноўку пытаньня аб апоры ні ў якім разе нельга разглядаць, як паслабленьне ўвагі да работы з беднатой і батрацтвам. Наадварот, далейшыя посьпехі па колектывізацыі сельскай гаспадаркі і, на аснове суцэльнай колектывізацыі, ліквідацыя кулацтва як клясы могуць быць забясьпечаны на аснове саюзу рабочае клясы і беднаты з серадняком, а пры належнай пастаноўцы работы з беднатой і падвышэньні яе актыўнасьці можна мець моцны саюз з серадняком.

Падкрэсьліваем, пытаньне аб рабоце сярод батрацтва, аб падвышэньні ўдзельнай яго вагі цесна зьвязана з нашымі далейшымі посьпехамі ў колектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Нам неабходна ў самыя бліжэйшыя часы ў рабоце сярод батрацтва і беднаты дабіцца сапраўднага і рашучага пералому. Гэта можна будзе забясьпечыць тады, калі мацней ударым па конкрэтных носьбітах правага ўхілу на практыцы па тых, хто недаацэньвае гэтай важнейшай работы нашай партыі.

# НА АСОБНЫХ ВУЧАСТКАХ РАБОТЫ

**Дунец**

## Правы ўхіл і „левы“ загіб у яўрабоце.

Мінулым летам ЦК КП(б)Б у шэрагу пытаньняў, якія датычацца работы сярод яўрэйскіх працоўных мас, выявіў шэраг права-ўхілісцкіх установак. Быў выяўлены яўна опортуністычны дакумэнт,—пастанова яўбюро па пытаньнях аб задачах саматужна-прамысловай коопэрацыі, у якім мела месца стаўшая ўжо вядомай клясычная формулёўка, што

> „неабходна ўцягнуць у саматужна-прамысловую коопэрацыю элемэнты з былых гандляроў, скарыстоўваючы іх сродкі, ініцыятыву і вопыт“. Гэтая формулёўка была абагуленьнем некатората „практычнага вопыту“.

Калі адпаведныя органы пачалі абсьледваць саматужна-прамысловую коопэрацыю, дык аказалася, што ў арцелі зашылася шмат спэкулянтаў, што існуюць паасобныя акулачаныя арцелі („Мэтрінструмэнт“), ёсьць разлажэньне ў шэрагах комуністаў, членаў арцелі, што падпалі пад уплыў клясава-варожых элемэнтаў, якія знайшлі месца і прытулак у гэтых арцелях.

Гэта было прычынай, каб праверыць шэраг галін работы сярод працоўных яўрэяў. У галіне гаспадарчага ўпарадкаваньня мястэчак было ўстаноўлена, што ў гэтай рабоце быў змазаны клясавы падыход, што былі гаспадарча ўпарадкаваны капіталістычныя элемэнты, а бедната засталася бяз увагі работнікаў. Таксама па лініі земляўпарадкаваньня быў выкрыты шэраг фактаў правага опортунізму на практыцы, шэраг дакумэнтаў па гэтай лініі мелі праваопортуністычную ўстаноўку. Так, напрыклад, у некоторых рэзолюцыях Усебеларускага зьезду Азету формулёўкі аб задачах гаспадарчага ўпарадкаваньня краналіся „яўрэйскага насельніцтва“ наогул, без усялякай клясавай дыфэрэнцыяцыі. Гэтыя рэзолюцыі нічога ня кажуць аб завостранай барацьбе ў краіне і г. д.

Па лініі культурнага будаўніцтва мелі месца шэраг парушэньняў партыйнай лініі, скочваньне паасобных таварышоў да нацдэмократызму і правага ўхілу. Гэта адбілася на соцыяльным падборы яўрэйскай сэкцыі БДУ і шэрагу іншых вучэбных навучальных устаноў, у выданьні шэрагу твораў з нацыяналістычна-опортуністычнай устаноўкай. Шэраг яўрэйскіх вучоных, супрацоўнікі Беларускай Акадэміі Навук і БДУ (Сосіс, Раўрэбэ, Гольдбэрг) у сваёй навуковай рабоце орыентаваліся на буржуазны Захад распрацоўвалі пытаньні ў духу нацыяналізму, супрацоўнічалі з яўрэйскімі буржуазнымі вучонымі Захаду і Амэрыкі. Тут мы бязумоўна мелі „перарастаньне“ нац-опортунізму ў нацыянал-дэмократызм. Найяскравей яўрэйскі нацыянал-дэмократызм быў выяўлены ў час абвастрэньня барацьбы партыі з беларускім нацыянал-дэмократызмам, калі яўрэйскія нацдэмократы (Сосіс) адкрыта выступілі з падтрыманьнем сваіх беларускіх сабратоў па перакананьні (Марука і інш.). Гэта была дэмонстрацыя ўзварушанага адзінства нацыянал-дэмократаў усіх масьцей і было лішнім доказам таго, што ярыя нацыяналісты і шовіністы розных нацый у момант вострай барацьбы не адмаўляюцца падаваць адзін аднаму рукі, калі толькі гэта дае магчымасьць пашкодзіць компартыі і савецкай уладзе.

З гэтымі праявамі яўрэйскага нацопортунізму і нацдэмократызму партыя пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б павяла рашучую барацьбу. Была разгорнута самакрытыка вакол пытаньняў яўработы. Партыя прымусіла таварышоў, якія зрабілі сур'ёзныя памылкі ў гэтых пытаньнях, прызнаць няправільныя свае погляды і адмовіцца ад іх. Аднак, гэта ня значыць, што правы опортунізм і на-

цыянал-опортунізм у якой-небудзь меры могуць быць адцягнуты на задні плян, што мы кончылі з імі. Цэлы шэраг фактаў, выступленьняў, друкаваных выказваньняў кажуць нам аб тым, што правы ўхіл у яўрабоце толькі зьмяніў свае формы, пайшоў у глыбіню, але ня выкарчаваны.

Перад тым, як спыніцца на новых формах яўрэйскага нацопортунізму, нам здаецца неабходным тут таксама закрануць пытаньне аб тым, ці трэба кваліфікаваць праявы правага ўхілу ў яўрабоце таксама як нацыянал-опортуністычныя праявы. Нам здаецца, што на гэта пытаньне можна адказаць толькі станоўча, бо робячы права-опортуністычныя ўчынкі, яўработнікі заўсёды падыходзілі да іх з пункту погляду нацполітыкі. Тав. Гей у сваім дакладзе аб рабоце ЦК на XIII зьезьдзе КП(б)Б спыніўся на гэтым пытаньні і сказаў наступнае:

> „У прыватнасьці тут трэба адзначыць справу з саматужна-прамысловай коопэрацыяй, зьвязанай з памылкай яўбюро ЦК КП(б)Б. Некаторымі таварышамі была ўзята лінія на ўцягненьне ў сампрамкоопэцыю элемэнтаў з былых гандляроў, на скарыстаньне іх вопыту, ініцыятывы і прыцягненьня іх сродкаў. Установка, якая формулюе думку аб прыцягненьні капіталістычных пластоў у сампрамкоопэрацыю і засьмечаньне гэтай коопэрацыі ўсялякага роду нэпманскімі і капіталістычнымі элемэнтамі, ў свой час даволі поўна выяўлена. Бюро ЦК стукнула па гэтай памылцы, кваліфікуючы яе як права-опортуністычную. Думаю, што ў адносінах яўбюро ЦК, якое таксама вінавата ў гэтай памылцы (нам прышлося зьмяніць Бэйліна іменна ў сувязі з гэтай памылкай), у адносінах гэтай памылкі яўбюро і т. Бэйліна, будзе правільна характарызаваць (гэта мая асабістая думка, але я лічу, што яна правільная) гэтую памылку і як права-опортуністычную адначасова, таму што гэта памылка сьведчыць аб няправільнай лініі яўбюро ЦК у нацыянальным пытаньні[1]). У пастанове гэтага пытаньня, дапушчанага яўбюро ЦК КП(б)Б, ёсьць нешта ад „адзінства нацыі“.

Тав. Гей ставіць пытаньне такім чынам, што няправільная лінія яўбюро ЦК выцякае з няправільнага разуменьня нацполітыкі партыі. І гэта зусім правільна. Адсюль само сабою выцякае, што правы опортунізм у яўрабоце ёсьць аднначасова нацыянал-опортунізм. Аб гэтым трэба ясна сказаць, бо мы бачылі, што на зьезьдзе партыі паасобныя таварышы прабавалі замазаць нацыянал-опортуністычны характар гэтых памылак і такім чынам яны, можа быць, не сьвядома ішлі па шляху замазваньня права-опортуністычнага характару іх. І нядарма тав. Гею ў заключным слове прышлося яшчэ раз на гэтым пытаньні спыніцца і заявіць:

> „Наконт тав. Бэйліна два словы. Як-жа мы, урэшце, тав. Бэйлін, з вамі дагаворымся на зьезьдзе: ці была ваша памылка толькі права-опортуністычнай, ці аднначасова нацыянал-опортуністычнай? Тут ужо неяк вельмі ціха, пад нос таварыш Бэйлін няясна казаў, што дапушчаную ім памылку можна назваць нацыянал-опортуністычнай, а пасьля сказаў, што бюро ЦК кваліфікавала яго памылку толькі як права-опортуністычную і г. д. Для таго, каб была яснасьць і дакладнасьць, каб ня было спрэчак, давайце т. Бэйлін, скажам выразна і дакладна: ваша памылка ў рабоце яўбюро была і права-опортуністычнай і нацыянал-опортуністычнай“.

Пытаньне можа стаяць толькі так. Калі браць „матар'ял“, з якога „будаваўся“ правы ўхіл у яўрабоце, дык ён проста кажа за тое, што мы тут мелі правы опортунізм і ў дадатак нац'опортунізм. Дык і пастанова аб скарыстаньні капіталу і ініцыятывы гандляроў была прынята ў адносінах да яўрэйскай нацыянальнасьці, г. зн. іменна ў нацыянальным разрэзе яўбюро змазала клясавую лінію партыі і пайшло на шлях „урастаньня нэпмана ў соцыялізм“. Памылкі ў азетаўскай рабоце і культурным будаўніцтве таксама мелі нацыянальную афарбоўку.

У сувязі з гэтым нам хацелася-б паказаць яшчэ на наступнае. Яўрэйскі нацыянал-опортунізм, які жывіцца агульнымі карэньнямі, мае ў яўрэйскім асяродку спрыяючую глебу яшчэ і таму, што ёсьць яшчэ астаткі бундаўскіх сіоністычных настрояў. Гэтага нельга не даацэньваць.

Калі пачынаем дакопвацца карэньняў права-опортуністычных памылак у яўрабоце, дык разам з агульнымі зья-

---

[1]) Падкрэсьлена намі. Х. Д.

вамі абавязкова натыкаешся на перажытак бундызму і сіонізму, на рэцыдывы гэтых ідэолёгічных форм. Калі сіонізм ідзе пад сьцягам утварэньня яўрэйскага ачагу ў Палестыне, дык яўрэйскія шовіністы і нацыянал-бальшавіцкія элемэнты ў нашай краіне, вонкава перафразіруючы гэты лёзунг на савецкі лад, высоўваюць лёзунг „да яўрэйскай краіны“ на савецкай глебе, абараняючы тую думку, што толькі ўтварэньне яўрэйскай краіны вырашае яўрэйскае пытаньне, адсоўваючы такім чынам на задні плян тое асноўнае Ленінскае палажэньне, што краіна саветаў ёсьць социялістычнай радзімай для працоўных усіх нацыянальнасьцяй. Калі бундаўцы гаварылі, што пролетарская дыктатура ня можа агульнай сваёй сыстэмай забясьпечыць разьвіцьцё культур працоўных мас усіх нацыянальнасьцяй, дык нацыянал-бальшавікі і іншыя нацыяналістычныя элемэнты ў нас таксама лічаць, што культурнае будаўніцтва павінна быць нейкай монополіяй яўработнікаў, „яўсэкцый“. І недарма мы зараз маем сярод паасобных таварышоў настроі прыгнечанасьці ў зьвязку з тым, што партыя ліквідавала нацсэкцыі

Аб гэтым мы заўсёды павінны памятаць, бо перажыткі мінулага, хаця яны ня могуць быць асноўнай і адзінай прычынай опортунізму ў яўрабоце, бо яўработа зьяўляецца часткаю агульнай работы, могуць усё-ж прымножыць магчымасьці гэтага ўхілу і абцяжыць нашу работу. Цэлы шэраг фактаў, формулёвак і выступленьняў наводзяць нас на думку аб тым, што ў ланцугу права-опортуністычных і нацыянал-опортуністычных памылак, што меліся ў яўрабоце на працягу шэрагу год, як на Беларусі, так і па-за ёю, мы маем значную долю ад перажыткаў бундаўска-сіонісцкай ідэолёгіі.

Зьвернемся да документаў. Калі тав. Чамерыскаму трэба было ў 1929 г. абгрунтаваць неабходнасьць работы партыі па вытворчаму ўпарадкаваньню яўрэйскай беднаты, дык ён гэта выказаў наступным чынам:

> „Комзет ня мае сваёю задачаю толькі работу па аказаньню дапамогі яўрэйскай беднаце. Для гэтага ня трэба было-б утварэць ні такога дзяржаўнага органу, як Комзет, ні такое масавае грамадзкае організацыі, як Азет, для вырашэньня такой задачы нам бы не ўдалося мобілізаваць рэволюцыйную актыўнасьць фабрычна-завадзкіх не яўрэйскіх рабочых. Організуючы справу зямельнага ўпарадкаваньня працоўных яўрэяў, партыя і савецкая ўлада выходзяць з агульна-дзяржаўных задач: падрыхтаваць яўрэйскае насельніцтва, якое пасьля буржуазна-абшарніцкага рэжыму аказалася социяльна-скрыўленым і вытворча не прыстасаваным да актыўнага ўдзелу ў социялістычным будаўніцтве, адарваць гэтую дробную буржуазію, толькі часткова вытворчую, а ў значнай частцы нявытворчую, сіла якое як і ўсякай дробнабуржуазнай масы даходзіць толькі да хістаньняў,— адарваць гэтую масу ад буржуазнай экономікі, наблізіць, зацікавіць і прыстасаваць яе да социялістычнай экономполітыкі“ (ст. ст. 14-15, курсыў наш—Х. Д.) [1]).

Для Чамерыскага Комзет і Азет ёсьць ня клясавыя організацыі, якія па сутнасьці сваёй павінны выконваць клясавыя задачы, яны зьяўляюцца органамі для выкананьня агульна-нацыянальных задач, для „падрыхтоўкі яўрэйскага насельніцтва“ увогуле да социялізму. Социялізм, такім чынам, ператварыўся ў нацыянальны ідэал, нацыянальная ідэя заняла першае месца і выцесьніла клясавыя задачы. Вядома, што гэтая ўстаноўка зьяўляецца нацыянал-опортуністычнай.

За тав. Чамерыскім ідзе і Мярэжын, які зьмякчае свой даклад у тэй-жа кніжцы, что і Чамерыскі, тлумачачы пытаньні Біра-Біджану, высьвятляючы прычыны замацаваныя ў Біра-Біджане; ня гледзячы на няспрыяючае становішча, комуны моладзі „Ікор“, ён тлумачэньнэ гэтаму факту знаходзіць у наступным:

> „Але ці атрымалі-б мы гэтую кому ну працы бяз лёзунгу—„У яўрэйскую краіну“ ці пайшоў-бы весь выпуск сельскае школы туды? Я вельмі моцна ня ўпэўнены ў гэтым, я моцна няўпэўнены таксама ў тым, ці пайшоў бы туды цэлы шэраг тых работнікаў вельмі патрэбных і неабходных, буйных і меншых бяз лёзунгу „ў яўрэйскую краіну“ і ці ўтрымалася-б там бяз гэтага лёзунгу цяперашняя колькасьць перасяленцаў“.

[1]) „У гады зямельнага ўпарадкаваньня працоўных яўрэяў“ (прамовы на зьездзе Укразету і 2-га пленуму ЦК Азет). Цэнтравыдат, Харкаў 1929 г.

Значыць, і для т. Мярэжына стымул соцыялістычнага будаўніцтва ня ёсьць дастатковым для таго, каб утрымаць сьвядомую моладзь на Біра-Біджанскай зямлі. Калі яна там замацавалася, дык гэта Мярэжыну здарылася таму, што перад ім маячыў лёзунг „у яўрэйскую краіну“.

Гэтая ўстаноўка асаблівых комэнтарыяў не патрабуе.

Зусім вядома, што выказваньні гэтых жа таварышоў у іншы час і пры іншых абставінах даюць сваячынныя праламленьні правага опортунізму ў галіне нацполітыкі. Вось, напрыклад, перад намі абразчык перафразіроўкі бухарынскага лёзунгу „обогащайтеся“ у т. Мярэжына (ў 1926 г. на зьезьдзе Азэту): „мы гаворым, што шляхі пераходу да вытворчае працы адчынены для розных станаў, яны адчынены таксама для таго, хто яшчэ ў сучасны момант мае сродкі, але лічыць мэтазгодным заняцца гандлем, пасрэдніцтвам і спэкуляцыяй. Мы гаворым, што савецкая ўлада не ўстанавіла для яўрэяў нераўнапраўя. Няма такога фізычнага закону, што яўрэй павінен бязумоўна быць гандляром, няма такога закону, што ён павінен спэкуляваць. Такога закону няма. Савецкая ўлада заяўляе: „дзьверы і вароты адчынены для скарыстаньня грузу і капіталу, можам іх пакласьці ў вытворчую працу, у земляробства. І з гэтага пункту гледжаньня я таксама лічу, што тыя элемэнты, якія маюць уласныя сродкі і могуць іх укласьці ў сельскую гаспадарку, павінны атрымаць доступ да сельскае гаспадаркі і ўвогуле да вытворчай працы. Таму іх нельга адштурхнуць ад перасяленьня“. І далей кажа: „мы абавязаны гэтым тысячарублёвым яўрэям: „ўкладзеце ваш капітал ў гаспадарку і будзьце сераднякамі. Да гэтага вас кліча савецкая ўлада“.

Адсюль вядзе простая сьцежка да тэй устаноўкі аб прыцягненьні капіталу і ініцыятывы гандляроў, якая мела месца ў нас, работнікаў яўбюро ў Беларусі.

Змазваньне клясавай лініі зьяўляецца тыповым штрыхом правага опортунізму. Ён атрымаў сваё праламленьне ў яўрэйскай рабоце. Ня лішнім будзе прывесьці формулёўку т. Чамерыскага ў гэтым духу, дадзеную ім у 1926 г. на зьезьдзе яўрэйскіх культработнікаў у Харкаве:

Калі мы праводзім работу па соцыяльнай рэконструкцыі яўрэйскага асяродку, мы маем справу з усім яўрэйскім насельніцтвам. Мэта наша ў тым, каб яўрэйскае насельніцтва ў нас у краіне, якое складаецца з 2 з палавай мільёнаў чалавек, якое зложана з розных соцыяльных пластоў, было ўцягнута ў рэконструкцыйныя процэсы, што адбываюцца ў краіне, каб вырваць яго з старое гаспадарчае сыстэмы і зрабіць яго складанай часткаю нашае цяперашняе грамады. У барацьбе за перабудову мы маем справу з усім насельніцтвам і ні для кога ня можа быць сумненьня, што так трэба працаваць. Калі мы ставім пытаньне аб індустрыялізацыі аграрызацыі аб упарадкаваньні мястэчка, аб коопэраваньні мястэчка і г. д., мы маем на ўвазе ўсё яўрэйскае насельніцтва „(Падкрэсьлена намі Х. Д.“)

Аказваецца, справа ідзе аб упарадкаваньні „ўсяго яўрэйскага насельніцтва; аб уцягваньні ў соцыялізм ўсіх яўрэяў. І амаль такая-ж формулёўка ў тав. Чамерыскага паўтараецца ў яго прамове на Маскоўскай конфэрэнцыі яўрэйскіх рабочых ў канцы 1929 г.,—ён там сказаў:

> Застаецца старая задача: продуктывізаваць яўрэйскія масы, уцягнуць іх ў вытворчасьць, зьмяніць соцыяльны склад яўрэйскага насельніцтва — гэтыя задачы ажыцьцяўляюцца, для гэтага працуюць усе вышэй пералічаныя мэханізмы. А зараз мы пераходзім на вышэйшую ступень, зараз стаіць проблема — перавесьці яўрэйскае насельніцтва ў соцыялістычны сэктар нашай прамысловасьці (Падкрэсьлена аўтарам).

Адсюль відаць, што нельга вузка падыходзіць да проблемы нацыянал-опортунізму ў яўрэйскай рабоце, што тут трэба прымаць пад увагу агульныя ўмовы нашай краіны, клясавыя адносіны, опортуністычныя ўхілы, а таксама астаткі варожых ленінізму бундаўска-сіоніцкіх ідэолёгій.

* * *

Калі мы кажам, што мы перамаглі ў пэўнай ступені правы ўхіл, дык разам з гэтым мы не павінны забываць аб тым, што барацьба тут павінна ісьці на два фронты: разам з правым ухілам мы мелі тут „левыя“ заскокі, мы мелі шэраг выпадкаў, калі дырэктыва партыі, якая кажа ясна аб тым, што ў адносінах да яўрэйскага насельніцтва, у яе частцы, якая не карыстаецца правам голасу, мы павінны мець дыфэрэнцыяваны падыход, гэтая дырэктыва партыі кладзецца падчас пад сукно і ня выконваецца, таму што, бачыце, калі мы яе будзем выконваць, дык скажуць, што гэта правы ўхіл. Вядома, што такая тактыка фактычна льле ваду на млын правых опортуністаў, і гэта політыка па сутнасьці прыводзіць да адваротных вынікаў, чым тыя, якія патрэбны нашай партыі. Зразумела, мы павінны весьці барацьбу і супроць „левых“ загібаў, якія таксама ёсьць у гэтай галіне.

„Левыя“ загібы і перахлёстваньні выявіліся асабліва ў сувязі з тымі скажэньнямі, якія мы назіралі ў рабоце па колгасным будаўніцтве, у часе „головокружения от успехов“. Тут „левы“ загіб выявіўся як ў практыцы інтэрнацыяналізацыі яўрэйскіх колгасаў, так і ў адносінах местачковага насельніцтва.

У чым выявіліся гэтыя „левыя“ загібы і скажэньні?

Цэлы рад матар'ялаў, выяўленых партыяй і апублікаваных у нашым друку, устанаўляе рад фактаў няправільнага, антыпартыйнага падыходу да местачковага насельніцтва. Даволі адносна гэтага падаць некалькі найбольш яскравых прыкладаў. Корэспандэнт з Койданава піша, што „ўся работа фінінспэктара была праведзена сапраўды бюрократычным чынам, бяз удзелу рабочых і местачковай беднаты, і ў рэзультаце дапушчаны былі пры ападаткаваньні рад грубых скажэньняў партыйнай лініі“. А вось факты: „фінінспэктар увесь час лічыць, што ліквідацыя кулацтва як клясы, бязумоўна, пашыраецца на дробных гандляроў, а таксама і на саматужнікаў. У рэзультаце атрымалася, што былыя гандляры 2-га, а часткова і 1-га разраду былі ападаткаваны на 3-4 тысячы рублёў. Дробны мясьнік з самых бедных мясьнікоў м-ка ападаткаваны сумай у 28 тысяч руб. Політычнае „тупоумие“ фінінспэктара зайшло так далёка, што, не дапусьціўшы ніякіх апэляцый, быў конфіскаваны за падаткі дом у беднага крамара“. Гэта — датычыць дробных гандляроў. А далей ужо карэспандэнт расказвае аб адносінах да саматужнікаў. „Аднаго саматужніка-каваля, які ня мае наёмнай сілы і працуе адзін, фінінспэктар вылічыў, што ён зарабляе 300 руб. у месяц. Гэты выпадак усхваляваў усіх— ня можа быць, штоб каваль-адзіночка зарабляў такую суму—тады фінінспэктар знайшоў іншы сродак: ён уключыў у даход гэтага каваля 6 дрэў, якія растуць ля яго дому, і такім чынам атрымаўся непрацоўны даход ад „саду“. Гэты каваль з прычыны вялікага падатку павінен быў кінуць сваю майстэрню“. Той-жа корэспандэнт расказвае аб тым, што ёсьць факты, калі „больш моцныя саматужнікі ападаткаваны менш за бедных саматужнікаў“. Вось ужо сапраўды зрастаньне правага і „левага“ ўхілу.

Падамо яшчэ некалькі фактаў з м. Любань. Корэспандэнт з гэтага мястэчка расказвае наступнае:

> „Наша мястэчка захалуснае, і таму многія адказныя работнікі ад „головокружения“ зусім забыліся аб дзяржаўных законах... Большасьць муніцыпалізаваных дамоў складаюцца з 50-60 кв. мэтраў. Кошт некаторых дамоў складае 700-800 рублёў, але комгасам яны ацэнены ў 5.000 руб. Муніцыпалізавалі дамы таксама ў рабочых і саматужнікаў. Забралі дом у будаўніка, члена профсаюзу, Каваперчыка, Грэйнома, які працуе сякераю ўсе свае гады. Забралі халупу ў члена швейнай арцелі т. Росіна, які ўвесь час існаваньня савецкай улады вядзе актыўную грамадзкую дзейнасьць,—забралі толькі на падставе таго, што яго халупка знаходзіцца паміж раду краю... Забралі таксама дом у шаўца-саматужніка Гольдбэрга, які пабудаваў яго ў 1925 г. Выселілі таксама саматужніцу-краўчыху, якая жыла ў сваёй цесьця і ўсялілі туды заможнага, у якога ёсьць 4 каровы, сьвіньні і вялікая гаспадарка... Былога карабейніка Эпштэйна Ізраіля, 60-гадовага старога, які ўжо больш году не займаецца сваёй справай, але жонка яго пячэ хлеб, ападаткавалі ў 1.500 руб., але, па беднасьці, ён ня мог унесьці грошы; ён ледзь унёс 200 руб., а цяпер ён сядзіць у сынагозе і заліваецца сьлязьмі. У сынагозе склалі падпісны

> ліст і зьбіраюць на яго карысьць ахвяраваньні... 15 мая адбыўся суд над ім і яго засудзілі да зьняволеньня на паўтара гады".

Аб чым гавораць гэтыя Любаньскія факты? Яны гавораць аб „левых" загібах, якія яўна ідуць поруч з правым ухілам, якія даюць харч клерыкальным элемэнтам, а часамі паходзяць на яўна контррэволюцыйныя дзеяньні.

Вядомы факты, меўшыя месца ў Плешчаніцах, калі Плешчаніцкі РВК муніцыпалізаваў хаткі беднякоў, пераабкладаў вялікімі сумамі бедных саматужнікаў, калі „злосных неплацельшчыкаў" такога роду судзілі і арыштоўвалі, наладжваючы над імі аблавы „пад кіраўніцтвам" старшыні РВК Якубовіча, калі адабраныя рэчы ў неплацельшчыкаў зьбіраліся на складах, куды дапускаліся толькі жонкі адказных работнікаў... і правільна бюро Менакругкому КП(б)Б у сваёй рэзолюцыі па выніках абсьледваньня фактаў скажэньня партлініі ў Плешчаніцкім раёне констатавала, што „лёзунг партыі па ліквідацыі кулацтва, як клясы, яны мэханічна перанесьлі на местачковае насельніцтва і на саматужнікаў. Гэтыя памылкі паглыбляюцца яшчэ больш тым, што раённае партківраўніцтва ранейшага складу і фракцыя РВК ведалі, што ЦК УсеКП(б) папярэдзіў, што лёзунг партыі аб ліквідацыі кулацтва як клясы ні ў якім выпадку ня можа быць пашыраны на местачковую дробную буржуазію, асабліва на саматужнікаў". Менакругком ударыў па гэтых загібах. Але гэтыя, меўшыя месца, факты пацьвярджаюць аб няпоўнасьці раду „левых" загібаў у рабоце мястэчак.

Таксама мы маем рад перагібаў у галіне інтэрнацыяналізацыі яўрэйскіх колгасаў. Падрабязна аб гэтым глядзі мой артыкул „Зьвязда" ад 20/VI-30 г.

* * *

Правы опортунізм у яўрэйскай рабоце і манэўраваў за апошні час. Ідучы па шляху правых ухілістых, опортуністы ў яўрэйскай рабоце таксама імкнуцца скарыстаць „левыя" загібы ў барацьбе супроць партыі.

Вельмі знаёмае нам у гэтым сэнсе выступленьне т. Штэймана на XIII зьезьдзе КП(б)Б. Ён нібы крыў правых, аднак пад маскаю барацьбы з „левымі" загібамі ён даў правую ўстаноўку: шовіністычна характарызаваў палітыку партыі ў адносінах да яўрэйскага насельніцтва.

У сувязі з гэтым цікава таксама працытаваць некаторыя месцы з артыкулу, які быў у апошнім нумары часопісі „Трыбуна" (№ 16, ад 20 мая г. г.), выданьне цэнтральнага праўленьня „Азет". Гэты артыкул ясна кажа нам аб новым манэўры правых ухілістых.

Аб чым ідзе справа ў гэтым артыкуле і супроць чаго выступае яго аўтар т. Эйдельман? У хронікёрскай заметцы, зьмешчанай у газэце „Акцябр" сказана: „Новаму праўленьню „Азет" трэба разгарнуць работу па ўцягненьню ў індустрыю і перакваліфікацыю яўрэйскай беднаты і саматужнікаў, якія маюць выбарчыя правы". Ці правільна пастаўлена пытаньне аб тым, каб уцягнуць у індустрыю і перакваліфікацыю яўрэйскае працоўнае насельніцтва? Вядома правільна.

Аднак аўтар артыкулу, узяўшы гэтую вынятку з газэты „Акцябр", робіць вывад, што газэта „Акцябр" наогул дае няправільныя дырэктывы, што „Акцябр" дэзорганізуе такімі заметкамі работнікаў на мясцох, і аўтар артыкулу ставіць нам такое пытаньне: „Што-ж рабіць з беднякамі, пазбаўленымі правоў, якія складаюць значную частку яўрэйскай беднаты?"

Павінен сказаць, што па гэтым пытаньні наш ЦК даў вычэрпваючы адказ, і пастанова прэзыдыуму ЦВК БССР ясна кажа аб катэгорыях беднаты з пазбаўленых правоў голасу, як мы да іх павінны падыйсьці, паказваючы, як яны павінны быць уцягнуты ў нашы колектыўныя гаспадаркі ў вёсцы і ў саматужную прамысловасьць, і вядома, што паколькі чалавек дае такую „устаноўку", дык ён павінен прыйсьці да тых вывадаў і пытаньняў, якія ставяцца ім у гэтым артыкуле. Ён кажа так: „Як быць з беднатою"?

> „Там (у БССР) Азет, па думцы аўтарытэтнага партыйнага органу „Акцябр", павінен клапаціцца аб тых, якія маюць

выбарчыя правы, а бяднейшыя слаі насельніцтва, калі яны пазбаўлены правоў, пакінуты без усялякай увагі. І далей, уявеце сабе беднякоў, але пазбаўленых выбарчых правоў за вымушаныя царызмам заняткі, якія ня маюць ні кага іншага выхаду, як пераход на земляробскую працу: яны хочуць ехаць у Біра-Віджан або Крым, а беларускае аддзяленьне „Азет“ не пасылае іх... **Што-ж ім застаецца?** Выехаць з Беларусі ў іншую савецкую рэспубліку, каб там атрымаць нарад на перасяленьне?“ (Наш курсыў. Х. Д).

Бачыце, як аўтарам артыкулу тлумачыцца наша палітыка аб выбарчых правох, як ён гаворыць аб нашых адносінах да яўрэйскай беднаты і аб становішчы яўрэйскай беднаты ў БССР („Што ж ім, беднякам, застаецца, выехаць з Беларусі?“). Відаць, што аўтару вузкія ўстаноўленыя партыяй межы для пазбаўленцаў, і ён хоча „пад шумок“, прыкрываючыся барацьбой з левымі загібамі і „заботаю“ аб беднаце, працягнуць права-опортуністычны погляд на вытворчае ўпарадкаваньне яўрэйскай беднаты.

Нельга іначай расцэньваць гэты артыкул, які ставіць пад знак сумненьня ўсю нашу палітыку ў галіне гаспадарчага ўпарадкаваньня яўрэйскіх працоўных у БССР, як об‘ектыўна новую вылазку правага опортунізму, яўрэйскага нацыянал-опортунізму.

Гэтыя факты ясна кажуць аб новым манэўры правых.

* * *

У далейшым нам неабходна разам з тым, што мы будзем на базе соцыялістычнага будаўніцтва, упарадкаваць на аснове дырэктыў партыі яўрэйскіх працоўных і беднату, узмацніць барацьбу на два фронты, накіроўваючы галоўны агонь на правы опортунізм, выяўляючы кожныя яго імкненьні, моцна стукаць разам з гэтым па „левых“ загібах, якія кормяць правы ўхіл. Разам з гэтым нам трэба ўзмацніць і палепшыць усю работу сярод яўрэйскіх працоўных мас, бо ў сувязі з рэорганізацыяй нашага партыйнага апарату некаторым чынам работа на мясцох паслабла.

Е. Салдаценка

# Нататкі з жыцьця колгасных і вясковых ячэек

## Па правільным шляху

Роля вясковых партыйных ячэек у справе зямацаваньня організаваных колсаў і далейшага разьвіцьця колгаснага руху зусім бясспрэчна. Усямернае замацаваньне колгасаў, увага і дапамога індывідуальным бядняцка-серадняцкім гаспадаркам і ўцягненьне іх у колгасы, разгортваньне работ сярод батрацка-бядняцкіх мас, організуючы іх вытворчую і політычную актыўнасьць па ўнутрыколгасным будаўніцтве і на аснове гэтага замацаваньне саюзу з серадняком і ліквідацыя кулацтва як клясы, на аснове суцэльнай колектывізацыі—вось тыя асноўныя задачы вясковых партыйных організацый, якія стаяць у парадку дню бліжэйшага часу. Складаная і цяжкая работа. Кулацкай актывізацыі і ярасьці трэба супроцьставіць актывізацыю батрацтва і беднаты, мобілізуючы іх актыўнасьць супроць клясавага ворага і яго імкненьняў падрываць калгасны рух.

У адпаведнасьці з паказанымі задачамі ад парторганізацый патрабуецца ўпартая работа па перабудове сваёй работы. На жаль, большасьць вясковых парторганізацый па перабудове партработы на вёсцы зрабілі мала, а ў горшым выпадку, яны яшчэ нічога не зрабілі. Ад гэтага—і той вынік працаздольнасьці такіх сельячэек і іх „кіруючая роля“ ў справе рэконструкцыі сельскае гаспадаркі.

Аднак, мы маем ужо такія парт‘ячэйкі, якія ў сваёй рабоце зрабілі карэнны пералом, сталі на правільны шлях і ўжо маюць вопыт партыйнай работы на вёсцы. Трэба падкрэсьліць, што вопыт перабудовы партработы прынесьлі з сабой рабочыя „25-ці тысячнікі“, якія працуюць цяпер у колгасах на кіруючай рабоце, і першымі яго (вопыт) ужылі.

Пачнем з добрага вопыту работы, ужытай таварышамі рабочымі.

Комунараўская парт‘ячэйка (Копыльскі раён, Менскае акругі) організавана ў самы разгар „Галавакружэньня ад посьпехаў“. Яна організавана пры кусьце „Комунар“ па пачыну рабочага „25-ці тысячніка“, пасланага заводам „Бальшавік“, т. Бабкова, які працуе старшынёй кусту. Партячэйка правяла вялізарную работу па замацаваньні 8 колгасаў Стара-Копыльскага і Бабаўнянскага сельсаветаў. Дзякуючы ўпартай рабоце комуністых Комунараўскай ячэйкі ў Стара-Копыльскім і Бабаўнянскім сельсаветах процант колектывізацыі сялянскіх гаспадарак дасягае 36,2 проц. і зьяўляецца вышэйшым у раёне.

> **Перш за ўсё, Комунараўскія комуністыя організавалі батрацка-бядняцкія групы ў колгасах і пры сельсаветах, уцягнулі серадняка ў кіраўніцтва колгасаў і організавалі ўдарніцтва ў часе сяўбы. Гэта спрыяла пасьпяховасьці сяўбы. Веснавая сяўба праведзена па баявому і скончана за 6 дзён да тэрміну, вызначанага плянам.**

Тры месяцы назад ячэйка складалася з 3 асоб (настаўнік, старшыня і хатнік), а за апошні час яна вырасла на 7 чал. і зараз складаецца з 10 чалавек (5 сяброў, 5 кандыдатаў).

Работа Бабаўнянскага сельсавету пастаўлена на належную вышыню, дзякуючы добрай, умелай рабоце другога рабочага заводу „Комунар“ т. Марголіна. Т. Марголін, пад кіраўніцтвам партячэйкі і пры яе дапамозе, добра разумее і праводзіць у жыцьцё лёзунг т. Леніна аб правільных узаемаадносінах з серадняком. Саюз батрацтва і беднаты з серадняком у сельсавеце значна ўзмацніўся. Пасьля бальшавіцкай сяўбы там пачаўся вялікі прыліў у колгасы (процант колектывізаваных гаспадарак з 36,2 павялічыўся да 40 проц).

Тав. Блюмін(таксама „25-ці тысячнік“) працуе ў колгасе імя „Леніна“—Чабатовіцкі сельсавет, Уваравіцкага раёну, Гомельскае акругі, сэкратаром колгаснай парт'ячэйкі і намесьнікам старшыні праўленьня колгасу. Гэты таварыш за кароткі час свае работы заваяваў вялікі аўторытэт сярод бядняцка-серадняцкіх мас Чабатавіцкага сельсавету. Да тав. Блюміна, як сакратара ячэйкі шмат сялян прыходзіць за парадай і дапамогай.

Спынімся на рабоце Чабатавіцкай ячэйкі КП(б)Б і яе посьпехах у барацьбе за бальшавіцкую сяўбу і колектывізацыю.

Да пачатку вясны ў яўрэйскай с.-г. арцелі „Вэкэр“, да прыезду т. Блюміна, налічвалася 7 гаспадарак, палова якіх—гандляры і нэпманы. Гаспадарка колгасу была ў заняпадзе. Поўны хаос і бесгаспадарчасьць с.-г. арцелі „Вэкэр“ былі найлепшай зброяй у руках клясавага ворага-кулака ў яго барацьбе супроць колгасаў. Словам, гэты „калгас“ быў узорам для компромэтацыі ідэі самай колектывізацыі. Але з прыёмам некалькіх батракоў у арцель і прымацаваньнем некалькіх комуністых, таксама ўступіўшых сюды, організуецца калгасная ячэйка КП(б)Б.

**Першым чынам, ячэйка павярнулася тварам да ўнутрыколгаснага будаўміцтва. Ячэйка організуе ўдарніцтва ў колгасе. Першымі ўдарнікамі абвяшчаюць сябе 5 комуністых і 7 комсамольцаў. Наладжваецца дружная работа на палёх, організуюцца брыгады „аратых“, па дагляду за садам, баранавальшчыкаў і інш., выпрацаваны нормы выпрацоўкі, даецца зьдзельшчына.**

Організацыя работы ў колгасе і вялікі ўздым продукцыйнасьці працы гэтай параўнаўча малой колькасьці людзей яшчэ ў пачатку сяўбы спрыяюць пасьпяховасьці правадзімай сяўбы.

— „Сяўба ў нас,—кажуць колгаснікі,—пачалася з бальшавіцкіх тэмпаў, і гэтым мы набылі пашану і аўторытэт ад бядняцка-серадняцкіх мас сельсавету“. Гэты аўторытэт заваяваны ў барацьбе за бальшавіцкую сяўбу. Вось чаму ўжо ў ходзе сяўбы (у красавіку месяцы) цэлы пасёлак „Ясьлішча“, Чабатовіцкага сельсавету, уліваецца ў калгас. „Кітайская сьцяна“, якая існавала на працягу год паміж колгасьнікамі і індывідуальнікамі, рухнула. Беднякі і серадняки, якія провокаваліся кулаком супроць колгасаў на нацыянальнай глебе, прышлі на поле, дзе працавалі „вэкэрцы“, і заявілі: „мы з вамі. Давайце змагацца за лепшае жыцьцё і разам будаваць колгасную гаспадарку“. У дні разгару сяўбы да калгасу „Вэкэр“ далучаецца яшчэ 10 гаспадарак з беднаты і серадняком Чабатовіцкага сельсавету. Канчалі сяўбу ўжо 38 гаспадарак. Пачыналі сяўбу 9. Сяўба прайшла пабаявому. Вялікую дапамогу цягавай сілай і машынамі колгасьнікі, у часе сяўбы, аказалі беднаце і пасёлкам, што мяжуюцца з колгасам—Жэзьленка і Чырвоны Курган.

Такім чынам маладая, толькі організованая ячэйка, на чале з рабочым тав. Блюміным, дабілася вялікіх посьпехаў у організацыі колгасу і правядзеньні сяўбы бальшавіцкай упартасьцю і настойлівасьцю саміх комуністых і комсамольпаў, якія сваёй работай служылі прыкладам і захаплялі іншых да набыцьця гэтых посьпехаў.

Цяпер інтэрнацыянальны колгас (у мінулым „Вэкэр“) носіць назву імя Леніна і займае плошчу ў 1020 гэкт. (на 1 красавіка было толькі 200 гэкт.). За адзін месяц бальшавіцкай сяўбы плошча колгасу павялічылася больш, як у 5 разоў. У столькі-ж разоў павялічылася і маемасьць (сродкі вытворчасьці) колгасу. Колгас імя Леніна цяпер мае 60 рабочых коняй, 145 дойных кароў, малако якіх перарабляецца ў масла для рабочых цэнтраў; маецца 40 цялят, пародзістыя, белыя ангельскай пароды сьвіньні; організавана пчалярная пасека ў 28 рамачных вульляў, абгледжаны пагаспадарску і пабелены сад—12 гэкт. За апошні час (3 месяцы) праведзена вялікая работа па будаўніцтве колгасу. У колгасе пабудавана два хлявы на 120 шт. рагатае жывёлы, абсталяваны вялікі клюб, дзе ўстаноўлена сваё радыё, пабудавана свая лазьня, у якой мыюцца тыя індывідуальнікі, што цяпер па некалькі чалавек уступаюць у колгас.

**Некалькі слоў аб парт'ячэйцы. Ячэйка ў сваёй рабоце, у надзвычай цяжкіх умовах—абвостранай клясавай барацьбы (вёска**

Чаботавічы—была валасны цэнтр, дзетолькі пазбаўленых вытворчых правоў 120 чал.), дабілася вялікіх посьпехаў. Разам з гаспадарча-палітычным ростам колгасу расьце і яго ячэйка. За тры месяцы колькасьць яе членаў больш як падвоілася. Цяпер у ячэйцы налічваецца 10 чал. (замест 4 раней).

На так даўно (у сакавіку) ячэйкай былі арганізаваны с.-г. курсы нізавога колгаснага актыву, якія наведвала 50 колгасьнікаў і 70 чалавек беднякоў і серадняkоў індывідуальнікаў. На курсах былі распрацаваны пытаньні агра-зоомінімуму, арганізацыя працы ў арцелі, пытаньні культмасавай работы ў колгасах, статут с.-г. арцелі, артыкулы т. Сталіна „Адказы таварышом колгасьнікам". Чаго больш трэба чакаць ад маладой, толькі нядаўна арганізаванай, ячэйкі? Яна сапраўды стаіць на правільным шляху, ячэйка ўпарта змагаецца за соцыялізм. Сваёй бальшавіцкай работай жменька комуністых, комсамольцаў і беспартыйных, адданых партыі, паджылых колгасьнікаў, паказваюць правым банкрутам і „левакам" беспэрспэктыўнасьць і пагібель іх варожых пролерыяту „тэорый", „стыхійнасьці" і „самацёку".

Ня дрэнна працуе і Шчадрынская ячэйка КП(б)Б (Парыцкі раён, Бабруйскае акругі), якая рэорганізавана ў колгасную і перабудавала сваю работу. (колгас „Соцыялістычны шлях") Шчадрынская ячэйка ў сваёй рабоце дабілася вялікіх посьпехаў. Але, на жаль, рост яе, за лік колгасьнікаў, зусім нязначны (прынята толькі 3 чалав.). Гэта, пэўна, тлумачыцца тым, што тут яшчэ мала зроблена па політмасавай рабоце сярод колгасьнікаў. А колгасьнікаў тут 280 гаспадарак. Здавалася-б, тут ёсьць найлепшы рэзэрв для росту ячэйкі за лік батрацка-бядняцкіх і часткі серадняцкіх, выхаваных у клясава-непрымірымай барацьбе з кулаком, мас.

Шчадрынская партячэйка надзвычайна вялікую работу правяла па арганізацыі колгасу „Соцыялістычны шлях". Амаль усё мястэчка (280 гаспадарак) засталося ў калгасе толькі дзякуючы таму, што ячэйка сваячасова і рашуча ўзялася за выпраўленьне тых грубых парушэньняў партыйнай лініі, якія былі дапушчаны ў колгасным будаўніцтве яе-ж сябрамі. „Адказы т. Сталіна колгасьнікам, ільготы колгасьнікам" і г. д. былі сваячасова распаўсюджаны сярод колгасьнікаў. Да папярэдняй сяўбы Шчадрынскія кулакі і лішэнцы павялі жалёную агітацыю за зрыў сяўбы і разбурэньне калгасу Ячэйка і тут выявіла сабе:

Яна арганізавала батрацка-бядняцкую групу ў колгасе, сераднякі, добра ўцягваюцца у кіраўніцтва колгасу, актывізуецца батрацтва і бедната мястэчку для барацьбы з кулаком. Батрацка-бядняцкая група колгасу задае тон ва ўсёй рабоце колгасу. Сяўба ў колгасе ўжо скончана і—да тэрміну. Скончыўшы сяўбу, колгасьнікі цэлы тыдзень працавалі на палёх іншых маладых, толькі арганізаваных колгасаў, якія дзякуючы гэтаму таксама сваячасова скончылі сяўбу.

Яшчэ нядаўна Шчадрынская ячэйка абслугоўвала тры сельсаветы. Гэта была ёй не пад сілу. Цяпер пасьля рэорганізацыі яна занялася абмеркаваньнем пытаньняў вытворчасьці колгасу (вытворчыя пляны, сяўба, уборка сенажаці і ўраджаю) не адмаўляючыся, аднак, ад кіраўніцтва і дапамогі вёскам Шчадрынскага Беларускага сельсавету.

Ячэйка вялікую ўвагу аддае разьвязеньню жывёлагадоўлі ў колгасе. У Шчадрынскім калгасе хутка будзе скончана пабудова вялікай (у 32000 пуд.) сіласнай вежы. Там засеяна 8 гэкт. сланечнікаў і кукурузы, 170 гэкт. бульбы, 12 гэкт. кораньплодаў—усё гэта падводзіць кармавую базу для развадзімай там жывёлагадоўлі. Пры дапамозе акруговых і раённых арганізацый статак малочнай жывёлы ў бліжэйшы час будзе павялічана ў два разы.

## На чале колгаснага руху

Характэрнай рысай работы колгасных і вясковых ячэек, зьяўляецца тое, што яны ад работы „наогул" перайшлі да вырашэньня пытаньняў унутрыколгаснага будаўніцтва (арганізацыя работы, арганізацыя вытворчых нарад, пляны і інш.). Колгасныя парт'ячэйкі падыйшлі да XVI зьезду УсеКП(б) з вялікімі дасягненьнямі. На хаду перабудоўваючы сваю работу, яны дабіліся сур'ёзных дасягненьняў у колгасным будаўніцтве і аб'ядналі вакол сябе моцны батрацка-бядняцкі і серадняцкі актыў.

Ня гледзячы на вялікія цяжкасьці, ячэйкі самым рашучым чынам змагаліся за ўзмацненьне колгасаў. Колгасы ўзмацняюцца і растуць. Асабліва вялікіх посьпехаў у гаспадарчым будаўніцтве колгасаў дабілася ячэйка комуны імя Сталіна (Парыцкі раён) і колгас „Расьсьвет-Пераможац“ (Жлобінскі раён). У паказаных колгасах шырока разгарнулася гаспадарчае будаўніцтва, колгасы ператвараюцца ў магутныя гаспадарчыя організмы. Іх экономічная база з кожным днём мацнее.

Пытаньні ўнутрыколгаснага будаўніцтва і разгортваньне колектывізацыі былі і ёсьць асноўнымі пытаньнямі ў далейшай рабоце колгасных ячэек. Паасобныя ячэйкі з гэтымі задачамі спраўляюцца з посьпехам. Грамадзкасьці ўжо вядомы вялікія посьпехі ў разьвіцьці комуны імя Сталіна (глядзі „Зьвязду“ ад 17 мая).

**Гэтыя посьпехі дасягнуты дзякуючы правільнай рабоце ячэйкі комуны. Організацыя работы, вытворчыя нарады, пляны, соцспаборніцтва, пасеўная кампанія былі і ёсьць асноўнымі пытаньнямі ў рабоце Сталінскай ячэйкі. Выразная організацыя работы, організацыя брыгад, соцспаборніцтва, якім былі ахоплены ўсе комунары, —усё гэта забясьпечыла добрую падрыхтоўку і баявое правядзеньне веснавой сяўбы.**

Плошча пад яравымі пашырана на 13 проц. Сталінскія комунары першымі ў Беларусі зрабілі вопыт па організацыі работы ў комуне, увёўшы 6-разрадную тарыфную сетку, па якой устаноўлена плата ад 70 кап. да 1 р. 75 к. Адначасова з увядзеньнем тарыфнай сеткі была ўведзена зьдзельшчына (заданьне нормы выпрацоўкі). Усё гэта спрыяла вялікаму ўздыму вытворчасьці працы комунараў: нормы выпрацоўкі перавыконваліся на 20-30 проц.

Узмацніўшы комуну, згуртаваўшы комунараў у адзіны колектыў, парт'ячэйка аднachасова ўпарта агітавала (паказам і правядзеньнем масавай работы) сярод навакольных бядняцка-серадняцкіх мас. Напярэдадні сяўбы ячэйкай быў організаваны колгас „Комінтэрн“ на плошчы 300 гэкт. Парт'ячэйка комуны штодзённа дапамагала і дапамагае колгасьнікам „Комінтэрну“ ў організацыі работы, правядзеньні сяўбы, у падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю і інш. Комуністыя-сталінцы штодзённа працуюць у колгасе „Комінтэрн“, дзе пры іх дапамозе організуецца кандыдацкая група КП(б)Б.

У сталінскай ячэйкі ёсьць чаму вучыцца. Колькасьць членаў комуны (у гэтую вясну) павялічылася ў 9 раз (было 11 гаспадарак, а цяпер — 103), плошча павялічылася ў 5 раз. Зараз у комуне праходзіць вялізарнае будаўніцтва на суму паўмільёну руб.: будуецца крухмальны завод, бэконны гадавальнік (тут будзе мясная фабрыка; для гэтай мэты колькасьць сьвіней з 240 павялічваецца ў 2 разы), цагельня і інш. Усе гэтыя пытаньні будоўлі і шпаркага росту комуны імя Сталіна не праходзяць міма ячэйкі.

Ячейка тут кіруе ўсім гаспадарчым і палітычным жыцьцём. Комуна, ня гледзячы на сваю маладосьць, становіцца ўзорам для ўсяе Бабруйшчыны.

Усім ужо вядомы вялікія прарывы на Рагачэўшчыне, якія працягваліся на чале з абанкроціўшымся кіраўніцтвам Рагачэўскага РК. У гэтых прарывах вялікая доля віны і Гарадзецкай парт'ячэйкі (Рагачэўска-Жлобінскі агрокомбінат). Пасьля прарываў у агракомбінаце выкрыта вялікая безгаспадарчасьць, была пагроза зрыву сяўбы, кулацтва гэта скарыстала і павяло шалёную агітацыю супроць пасеўнай кампаніі і колгасу.

Але ў рабоце ячэйкі быў зроблены рашучы пералом. Яна сваячасова мобілізавала—актыўнасьць бядняцка-батрацкіх і серадняцкіх мас на правядзеньне сяўбы. Сяўба прайшла пасьпяхова і скончана да 25 мая.

І Гарадзецкая парт'ячэйка мобілізуе палітычную і вытворчую актыўнасьць батрацка-бядняцкіх мас на замацаваньне колгасаў. За апошнія тыдні ячэйка вырасла на 4 чал. (з іх 2 батракі). Гэта ўжо ёсьць вынік росту актыўнасьці батрацка-бядняцкіх мас, уступаючых у шэрагі КП(б)Б.

## Рост парт'ячэек—вынік перабудовы партыйнай работы на вёсцы

Колгасныя партыйныя ячэйкі, што здолелі своячасова, на ходу вялікай будоўлі новай вёскі перабудаваць сваю работу, абрастаюць моцным, адданым пролетарыяту колгасным актывам. Перадавых комунараў і колгасьнікаў-актывістых ячэйкі падрыхтоўваюць да ўступленьня ў шэрагі КП(б)Б.

За мінулы год некаторыя (Майская ячэйка, Жлобінскага раёну, Сталінская парт'ячэйка, Парыцкага раёну—Бабруйшчына, Радзееўская, Уваравіцк. раёну, Гомельскай акругі і інш. парт'ячэйкі вырасьлі ў 3-4 разы (па колькасьці членаў).

Асабліва бурны іх рост мы наглядалі напярэдадні XIII зьезду КП(б)Б, у часе правядзеньня бальшавіцкай сяўбы. Рост гэты ішоў і прад XVI зьездам УсеКП(б). Мне давялося прысутнічаць на адным з сходаў Майскай парт'ячэйкі (Жлобінскі раён). На сходзе прысутнічала каля 300 чал. колгасьнікаў і індывідуальнікаў. На парадку дню стаяла пытаньне падрыхтоўкі да зьездаў КП(б)Б і УсеКП(б). У спрэчках выступала шмат актывістых - колгасьнікаў — беднякоў і серадняков. Яны гаварылі аб правільнасьці генэральнай лініі партыі, аб стварэньні кармавой базы для жывёлагадоўлі і асушцы балота, аб дапамозе слабейшым колгасам і індывідуальнікам у сяўбе і ўборцы ўраджаю. На сходзе было разабрана 10 заяў аб уступленьні ў рады партыі, з якіх 6 прынятых ў партыю—былыя батракі і беднякі—цяпер ударнікі,—якія прайшлі гарніла грамадзянскай вайны.

Паміж іншым, у апошні час (сакавік — май) у шэрагі КП(б)Б прыняты 3 серадняки, якія праявілі сябе на рабоце ў колгасе на працягу 8 год (з 1922 г.) і зьяўляюцца прыкладнымі гаспадарамі. Як мы бачым, Майская парт'ячэйка не застанаўляецца на скарыстаньні гаспадарчага вопыту серадняка, не застанаўляецца на тым, што ўцягвае серадняков у органы кіраваньня колгасу. Серадняцкі актыў групуецца наўкол парт'ячэйкі, і лепшыя з іх (серадняков), загартаваныя ў клясавай барацьбе з кулаком, уступаюць у рады КП(б)Б. Аналёгічная „проблема" серадняка выршаецца і ў колгасе імя Энгэльса (Гомельшчына), дзе серадняки сумесна з беднатою організоўвалі колгасы (пад кіраўніцтвам, бязумоўна, парт'ячэйкі) і ўступаюць цяпер у шэрагі партыі.

## Падцягнуць тых, што адстаюць

Побач з тымі дасягненьнямі, якія маюцца ў выніку перабудовы партыйнай работы на вёсцы, мы маем яшчэ парторганізацыі, якія не зрабілі ніякіх крокаў да перабудовы партыйнай работы, яшчэ ёсьць вясковыя ячэйкі, якія па-ранейшаму сядзяць на старых формах і мэтодах работы. Старыя прыёмы работы, старыя навыкі засталіся ня кранутымі, як і раней. У гэтых ячэйках ня ўсё абстаіць добра.

Нават у некаторых раёнах (Бабруйскі і Рагачэўскі) да гэтага часу амаль што нічога ня зроблена для перабудовы партыйнай работы на вёсцы, пад пунктам погляду рэорганізацыі вясковых ячэек у калгасныя і павароту іх твару да ўнутрыколгаснага будаўніцтва.

Бабруйская вяскова-раённая парторганізацыя ў сваіх шэрагах налічвае 250 чал. (сярод іх 50 проц. рабочых), аб'яднаных 17 партыйных ячэек. Сельячэйкі раёну надзвычайна мала робяць па гаспадарчаму замацаваньню колгасаў. Гэтыя ячэйкі абмежаваліся работай організацыі 9 батрацка-бядняцкіх груп ў колгасах (9 груп на 51. існуючыя ў раёне колгасы?) і далей ні кроку

Часта ў ячэйках паўтараюць старыя правоопортуністычныя байкі пра тое, што „цяпер у колгасе ўсе роўныя, і работа з беднатой папсуе ўзаемаадносіны з серадняком. Навошта ж цяпер групы"? — (Кавалеўская, Цялушкоўская і яшчэ некаторыя ячэйкі). Правоопортуністычныя погляды на організацыю беднаты прывялі да развалу асобных калгасаў у раёне. У Бабруйскім раёне няма ніводнай колгаснай партячэйкі альбо кандыдацкай групы. Усе ячэйкі працуюць па-старынцы. І ня дзіва пасьля гэтага, чаму рост партыі за кошт беднякоў і батракоў-колгасьнікаў у раёне адсутнічае, бо самі партыйныя ячэйкі палец аб палец ня вытнулі па выяў-

леньню колгаснага (і неколгаснага) актыву, згуртаваньня яго навакол ячэек і прыём у лепшай яго часткі ў рады КП(б).

Дзе-ж тут жывое партыйнае кіраўніцтва?

Адсутнічаньне росту некаторыя ячэйкі тлумачаць тым, што няма беднаты і батракоў у раёнах дзейнасьці іх работы. Характэрнай тут зьяўляецца заява аднаго сэкратара парт'ячэйкі (т. Блажкевіч), які гаворыць: „беднаты ў нас няма, няма і актыву для росту". Праверылі. Аказалася, што 25 проц. сельсавету—бедната.

## Навучым ячэйкі працаваць па-бальшавіцку

Рост многіх парт'ячэек зусім нязначны. Гэта вынік адсутнічаньня культурна-масавай работы на вёсцы і асабліва ў колгасах, вынік дрэннага кіраўніцтва комсамолам.

Комсамольская організацыя можа і павінна зьявіцца лепшым рэзэрвам для росту партыі на вёсцы. (На-жаль, рост комсамольскай організацыі ў апошні час зусім нязначны). Альбо ўзяць хаця-б той рост колектывізацыі, які мы маем за апошні год. Гэта найлепшая база для росту партыі за кошт беднякоў і батракоў-колгасьнікаў. А асобныя парторганізацыі вёскі гэтага як быццам не прыкмячаюць і ня ведаюць калгаснага актыву. У гэтым яшчэ горшая іх бяда. У нас маюцца сотні, тысячы батракоў, беднякоў і серадьнякоў, выхаваных у непрымірымай клясавай барацьбе з кулаком. Гэтыя тысячы організуюцца ва ўдарныя брыгады, уступаюць у соцыялістычнае спаборніцтва, праводзяць вялікую работу па замацаваньню толькі організаваных, параўнальна маладых колгасаў. Неабходна самым рашучым чынам узяцца за ажыўленьне да гэтага часу непачатай работы сярод колгаснага актыву, сярод бядняцка-батрацкіх мас, організаваных у групы. Тут патрэбен пералом.

> „Неабходна, каб ўсе найбольш загартаваныя ў барацьбе з кулацтвам элемэнты колгаснага руху, асабліва з батракоў і беднякоў, найшлі прымяненьне сваіх сіл у шэрагах УсеКП(б)." (Сталін)

Гэта паказаньне тав. Сталіна і дырэктывы партыі ў многіх мясцох не знаходзяць пакуль што свайго выражэньня. Рост ячэек адсутнічае (В-Албянская, Жлоб. р., Кінішацкая, Парыцкі р., усе ячэйкі Бабруйскага раёну), організацыйная перабудова работы паказаных партыйных ячэек, галоўным чынам, і ўпіраецца ў іх рост. Зьвернемся да таго-ж Бабруйскага раёну.

> З ўсёй парторганізацыі (265 чал.) толькі 15 камуністых зьяўляюцца уступіўшымі ў колгас. Гэта на кожны колгас прыпадае 1—4 чал. Як відаць з гэтага, маса вясковых камуністаў, якія праводзілі колектывізацыю, самі яшчэ да гэтага часу ў колгасы ня ўступілі.

Цяпер можна судзіць аб здольнасьці некаторых з паказаных ячэек кіраваць рэконструкцыяй сельскай гаспадаркі і змагацца за далейшае разгортваньне колектывізацыі.

Прыток заяў аб уступленьні ў КП(б)Б за апошні час значна ўзрос. За апошнія тыдні ў ячэйкі паступае па 17-20 заяў аб прыёме іх у партыю (Уваравіцкі раён —Гомельшчына, Парыцкі і Жлобінскі р. р.—Бабруйшчына). Толькі ў ячэйку колгасу „Расьсьвет-Пераможац" паступіла 12 заяў, ў Сталінскую ячэйку 7 заяў, ва ўваравіцкую саўгаскую ячэйку—16 заяў і г. д.

Адно з слабых месц у рабоце ячэек гэта—адсутнічаньне кіраўніцтва комсамольскімі організацыямі і опортуністычныя погляды на працу сярод сялянак. Таму, хто піша гэтыя радкі, удалося пабыць у 9 сельячэйках (Горвальская, Рэчыцкі раён, Албянская Жлобінск. р., (Чабатовіцкая, Уваравіцкі р., і інш.). І амаль ўва ўсіх ячэйках—ніякага кіраўніцтва комсамолам.

> Становішча комсамольскіх організацый на вёсцы ня добрае. Адсутнічаньне росту комсамолу, паслабленьне ўнутрывыхаваўчай работы, адсутнічаньне дысцыпліны і г. д. зьяўляецца зусім „нормальным" зьявішчам.

Яшчэ горш абстаіць справа з працай сярод сялянак. І ў колгасах і па-за калгасам асобнай працы сярод сялянак не праводзіцца. Што датычыцца працы сярод батрачак і бяднячак, што тут ўжо і гаварыць няма чаго. І ня дзіва пасьля

ўсяго гэтага, што ў некаторых мясцох сялянкі падпадалі пад уплыў кулака. Трэба з ўсёй рашучасьцю ўдарыць па тых, хто не вядзе працы сярод жанчын, па тых, хто ня лічыць працу сярод жанчын партыйнай справай.

Ня можна, аднак, адмаўляць і таго факту, што некаторыя комсамольскія ячэйкі (дзе забясьпечана партыйнае кіраўніцтва) павярнуліся тварам да ўнутрыколгаснага будаўніцтва У гэтай веснавой сяўбе моладзь—у першую чаргу комсамол—адыгрывала вялікую ролю.

Комсамольцы выконвалі адказьнейшую работу ў колгасах: яны першыя абвяшчалі сябе ўдарнікамі, першыя падымалі штандар соцыялістычнага спаборніцтва, уключалі соцыялістычныя тэмпы (ячэйка колгасу „Расьсьвет-Пераможац", комуна імя Сталіна і інш.) Многія комсамольскія ячэйкі самастойна організоўвалі колгасы, організоўвалі там працу і пабальшавіцку правялі сяўбу (Любанская—Бабруйскі раён, Парыцкая і Шацілаўская—Парыцкі раён, Радзееўская—Уваравіцкі раён і інш.)

Неабходна з усёй катэгорычнасьцю падкрэсьліць, што рабочыя комуністыя, якія працуюць, колгасах у лік „25000" у асноўным адыгрываюць вялікую ролю організатараў колгаснага будаўніцтва і ў перабудове работы вясковых ячэек (а партработа—галоўная ўмова пасьяховасьці колектывізацыі). Мы ўжо вышэй гаварылі аб працы і ролі асобных пралетараў. Трэба сказаць, што асноўная маса іх працуе такім-жа тэмпам, працуе па-бальшавіцку. Яны організуюць працу, вытворчыя нарады і комісіі, падымаюць працоўную дысцыпліну сярод колгасьнікаў, вядуць барацьбу з спажывецкімі настроямі; рабочыя першымі і па-бальшавіцку выпраўлялі і выпраўляюць памылкі ў колгасным будаўніцтве, дапушчаныя пры правядзеньні колектывізацыі, яны ўмеюць прымяняць сваю організатарскую здольнасьць фабрык і заводаў у організацыі батрацка-бядняцкіх мас. для мобілізацыі іх вытворчай актыўнасьці на барацьбу за ўмацаваньне колгасаў.

Рабочыя ўносяць новы, жывы струмень у работу вясковых організацый, праз іх (рабочых) найлепшым чынам ажыцьцяўляецца змычка гораду з вёскай на аснове прымяненьня новых формаў змычкі (колгасы, тэхніка, саўгасы, контрактацыя і інш.), яны шмат і гэройскі працуюць, ім трэба дапамога, трэба жывое кіраўніцтва, 25.000 амаль ўсе, з якімі прыходзілася гутарыць, скардзяцца на адсутнічаньне дапамогі і кіраўніцтва з боку РК.

> „Нам шмат абяцалі заводзкія парторганізацы. якія пасылалі ў вёску,—апавядарабочы заводу „Бальшавік" тав. Бабкоў,—а цяпер нават і заводзкай газэты прысылаць адмаўляюцца". „Працуйце самі, як ведаеце, а ў нас цяпер шмат сваіх спраў, як прамфінплян і інш."—так, замест сувязі і падтрыманьня стойкасьці рабочага адказвае Бюро партколектыву заводу „Бальшавік".

У асобных партработнікаў вёскі (ячэйкі і РК) прыкмячаюцца антырабочыя настройчыкі: „Прыслалі „дрэннага" работніка, які ня быў карысным на вытворчасьці, многа рэволюцыйнасьці, рабочыя „пашкодзілі" ў суцельнай" і інш. Уся гэтае концэпцыя розных размоў мае месца асабліва там, дзе дваццаціпяцітысячнікі з ўсёй рашучасьцю змагаліся са скрыўленьнямі партыйнае лініі, там, дзе самакрытыка не стаіць на належнай вышыні (Хойніцкі, Копыльскі і інш.)

Трэба на старонках друку т т. дваццаці пяцітысячнікам выказацца па гэтаму пытаньню. Няхай яны раскажуць аб вопыце партработы, аб сваёй рабоце ў колгасах і асабліва аб тым, як на мясцох выконваюцца пастановы партыі.

# АГІТАЦЫЯ І ПРОПАГАНДА

В. Шчарбакоў

## Кіраўніцтва работай у галіне народнае асьветы і агульнакультурнага будаўніцтва

Тое становішча культурнай работы і работы ў галіне народнае асьветы, у якім яна знаходзілася да гэтага часу, нас ні ў якой меры ня можа задаволіць. Карэнным чынам павінен быць цалкам перабудован культурны фронт. Ён павінен поўнасьцю адпавядаць запатрабаваньню нашай краіны, тэмпам гаспадарчага будаўніцтва і колектывізацыі вёскі.

Прайшоўшыя партнарады па народнай асьвеце—Усебеларуская, а пасьля Ўсесаюзная – сказалі сваё рашучае слова наконт неадпаведнасьці фронту культурнага фронту гаспадарчаму і аб яго вялікім адставаньні. Гэтыя нарады намецілі мерапрыемствы па карэннай перабудове і падцягваньню культурнага фронту.

> Наша задача зараз заключаецца ў тым, каб усе рашэньні гэтых нарадаў як можна хутчэй і самым рашучым чынам правесьці ў жыцьцё. Гэта патрэбнасьць правядзеньня ў жыцьцё рашэньняў партнарадаў абавязвае нас у першую чаргу зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на партыйнае кіраўніцтва работай у галіне народнае асьветы і агульнакультурнага будаўніцтва. Бясспрэчна і тое, што пры слабасьці гэтага кіраўніцтва мы ажыцьцяўляць рашэньні партнарады ня будзем мець магчымасьці і на культурным фронце, як і раней, будзем адставаць, што мы гэтага фронту хутка не перабудуем.

Зваротлівае, умелае кіраўніцтва культурным фронтам, якое стаіць на адпаведнай вышыні, вымагае ад нас перш за ўсё ведаць гэты фронт. Мы ня можам адхіляць таго, што мы цэлы шэраг вучасткаў гэтага фронту да гэтага часу як сьлед ня ведаем, яшчэ ня вывучылі. Нават звычайных статыстычных дадзеных, напрыклад, аб складзе нашага настаўніцтва па БССР, мы ня маем; ня маюць гэтых дадзеных ні нашы органы народнае асьветы, ні органы статыстыкі. Ніхто з іх ня можа сказаць нам зараз, колькі сярод нашага настаўніцтва ёсьць, напрыклад, выхадцаў з рабочых, сялян, служачых і варожай нам праслойкі. А аб гэтых праслойках мы штодзённа гаворым, на чымсьці базуемся і на гэтым робім свае вывады. І, вядома, гэтыя вывады ў шэрагу выпадкаў бываюць не станоўчымі.

Але гэта-ж адна толькі дэталь. Бяда наша яшчэ і ў тым, што мы не навучыліся як належыць вывучаць нашу справу, мець і атрымоўваць сваячасова ўсе неабходныя дадзеныя, якія характарызуюць у даным выпадку наш культурны фронт. Мы ня вывучылі і ня ведаем нашы культурныя кадры мы ня ведаем як сьлед усіх процэсаў, што адбываюцца на культурным фронце, мы ня ведаем добра, у якой ступені забясьпечаны паасобныя культурныя ўстановы і паасобныя часткі, раёны, акругі нашай рэспублікі гэтымі кадрамі, мы ня ўлічваем росту нашых кадраў.

Усё гэта, бязумоўна, вялікі мінус у нашай рабоце і яго неабходна зьнішчыць. Недарма партнарада пры ЦК КП(б)Б зьвярнула сваю ўвагу на гэтую галіну, і ў рэзолюцыі аб адзіным пляне і аб новых мэтодах культурнай работы зафіксавана, што:

> пры разгортваньні новых форм і мэтодаў культурнай работы мы павінны сур'ёзную ўвагу зьвярнуць на мясцох на выдзяленьне культурных сіл у нашай краіне, на вывучэньне і популярызацыю лепшых прыкладаў культурнай работы. Толькі на аснове ўсебаковага вывучэньня ўсіх правадзімых мерапрыемстваў па культурным будаўніцтве, вучоце ўсяго таго, чым сапраўды характарызуецца культурны фронт,—толькі

на аснове гэтага мы можам рабіць правільныя вынікі, прымаць тыя або іншыя захады да падняцьця культурнай работы і плянава кіраваць ёю.

У гэтай справе павінна адыграць асабліва вялікую ролю статыстыка і абмен вопытамі культурнай работы.

Кіраўніцтва культурным фронтам, культурным будаўніцтвам знаходзіцца ў руках адпаведных партыйных організацый. Цэлы шэраг савецкіх, профэсіянальных і коопэрацыйных устаноў і організацый створаны спэцыяльна для штодзённай сыстэматычнай работы ў галіне асьветы і культуры. У залежнасьці ад становішча гэтых органаў залежыць і якасьць нашай работы. Партнарады вынесьлі свае рашэньні аб перабудове, аб рэорганізацыі органаў народнае асьветы. Гэта рэорганізацыя датычыцца, як Наркомасьветы, так і нізавых акруговых і раённых інспэктур па народнай асьвеце. Пры чым асаблівая ўвага будзе зьвернута на ўзмацненьне раённых інспэктур. Для нас зьяўляецца важным, каб ня толькі прайшла рэорганізацыя ўсіх гэтых органаў народнае асьветы, але каб гэтыя органы адначасова былі максымальна ўзмоцнены стаячымі на адпаведнай вышыні работнікамі. Няма чаго казаць аб тым, што і да гэтага часу мы мелі далёка не здавальняючы склад нашых работнікаў у гэтых органах і інспэктурах, асабліва ў раённых інспэктурах народнае асьветы. Пад непасрэдным наглядам і актыўным удзеле саміх культпропаў АК павінна быць праведзена гэтая рэорганізацыя і ўзмацненьне работнікамі народнае асьветы.

Гаворачы аб кіруючых органах культурнага будаўніцтва, мы ня можам абмяжоўвацца толькі органамі Комісарыяту Народнае Асьветы. Трэба ставіць пытаньне і аб кіруючых культурных організацыях профсаюзаў, коопэрацыі і колгасцэнтру. Мы асабліва павінны падкрэсьліць дрэннае зараз становішча з культурным абслугоўваньнем колгасаў. Тут ня толькі няма плянавасьці, чуласьці, і належнай дапамогі ў кіраўніцтве культурнай работай у колгасах, але мы пакуль што нават ня ведаем, што робіцца зараз на мясцох у галіне культурнага абслугоўваньня колгасаў. Становішча з кіруючымі і культурнымі работнікамі ў гэтай галіне вельмі сур'ёзнае.

Ня лепш справа абстаіць і з кадрамі культработнікаў у нашых клюбах. Тут у сувязі з правадзімай рэорганізацыяй усяе культработы ў сувязі з ліквідацыяй праўленьняў клюбаў і ўтварэньня культурна-політычных клюбавых саветаў, якімі кіруюць фабзаўкомы, пытаньне аб кіруючых кадрах стаіць вельмі востра. Ня меншая ўвага намі павінна быць удзелена і наладжваньню кіраўніцтва культурнай работай у вёсцы з боку сельсаветаў. Зараз, па новаму палажэньню аб сельсаветах, на апошнія ўскладаецца ўсё кіраўніцтва па плянаваньню, будаўніцтву новага культурнага быту, новага культурнага жыцьця ў нашай вёсцы.

Наступнае пытаньне, якое паўстае перад намі ў сувязі з кіраўніцтвам культурным будаўніцтвам, ёсьць пытаньне— плянаваньня ўсёй нашай работы.

„Уся культурная работа,—гаворыцца ў тэзісах тав. Крупскай, паданых на партнарадзе пры ЦК УсеКП(б),—павінна будавацца па адзінаму пляну, які павінен ахапляць усе зьвеньні культурнай работы, пачынаючы з самых ніжэйшых, з лікбезу, і канчаючы самымі вышэйшымі, ВНУ і навукова-дасьледчымі інстытутамі, якімі-б організацыямі і ведамствамі гэта работа ні праводзілася“.

Таму разнабою, таму паралелізму і той растачыцельнасьці,што наглядаюцца ў дадзены момант у галіне культурнага будаўніцтва, павінен быць палажан канец. Утварэньне адзінага пляну культурнай работы і падвядзеньне пад яго адзінай фінансавай базы павінна быць ажыцьцёўлена ў форме заключэньня генэральных дагавароў органамі народнае асьветы з профсаюзамі, комсамолам, коопэрацыяй, рознымі добраахвотнымі організацыямі і г. д., якія-б забясьпечылі ня толькі адзінства важнейшай часьці культурнай работы на вёсцы, у раёне, акрузе і краі, ле і дасканалае разьмежаваньне абавязкаў, якія прымаюць на сябе кожная з дагаворваючыхся організацый.

Гэта вялікая і новая работа. Кіраўніцтва тут патрэбна ня толькі тады, калі складаюцца гэтыя адзіныя пляны культурнай работы, але, у час правядзеньня іх ў жыцьцё і ў час выкананьня заключаных генэральных дагавароў. Мы маем ня мала прыкладаў з нашай беларускай сапраўднасьці, калі паміж паасобнымі організацыямі культурнага характару заключаліся такія дагавары, але мы маем такія выпадкі, калі гэтыя дагавары, пасьля таго, як яны былі заключаны, спакойна ляжалі сабе ў папках, а культурная работа, як і раней працякала стыхійна. Апрача правядзеньня гэтых плянаў і дагавароў у жыцьцё, нам трэба будзе, вядома, зьвярнуць вялікую ўвагу і складаньню адзіных плянаў культурнай работы, асабліва ў маштабе сельсавету і раёну.

Нашы культпропы, райпарткомы і ячэйкі павінны ўсебакова вывучыць усе рашэньні як усесаюзнай, так і ўсебеларускай партнарады. Імі разам з гэтым павінен быць праведзен агляд культурнай работы ў галіне асьветы і культуры, популярызаваны як на спэцыяльных сходах, так і ў прэсе ўсе нашыя дасягненьні культурнага будаўніцтва. Разам з гэтым уся наша работа павінна быць узята пад агонь самакрытыкі. І далей, на аснове ўсебаковага вывучэньня паказаных партнарадаў і падагульваньня культработы, павінны быць намечаны падрабязныя практычныя мерапрыемствы ў справе далейшага разгортваньня работы ў галіне культурнага будаўніцтва.

**Уся наша культурная работа, няхай нават нанова перабудаваная, не дала-б нам таго, што мы ад яе патрабуем, калі-б мы навокал справы культурнай рэволюцыі і культурнага будаўніцтва не ўскалыхнулі шырокіх пластоў працоўных, калі-б мы не мобілізавалі навокал справы народнае асьветы рабочую клясу і бядняцка-серадняцкія масы сялянства.**

У гэтых адносінах прыдзецца правесьці вялікую работу. Шляхам скліканьня шырокіх рабочых, колгасных і бядняцка сялянскіх культурных конфэрэнцый, шляхам організацыі шырокіх беспартыйных нарад па культурных пытаньнях, шляхам выдзяленьня новага культурнага актыву мы павінны будзем зацікавіць масы, ускалыхнуць іх, зацікавіць справай культурнай рэволюцыі. Уся гэта работа таксама патрабуе ад нас умелага і цьвёрдага кіраўніцтва. Досыць сказаць, што толькі для азнаямленьня шырокіх мас з ідэямі і прынцыпамі політэхнічнае асьветы нам неабходна будзе правесьці цэлую кампанію сярод шырокіх мас, бо бяз гэтай работы, бяз гэтага азнаямленьня з пытаньнямі політэхнічнае асьветы нам самай політэхнічнай школы не ўтварыць, не пабудаваць. У той-жа час утварэньне масавай політэхнічнай школы—гэта гвозд усяе нова-ўтвараемай сыстэмы народнае асьветы.

Вось якія важнейшыя пытаньні кіраўніцтва работай у галіне народнае асьветы і агульнакультурнага будаўніцтва. Гэтыя пытаньні перш за ўсё, павінны быць усебакова прадуманы і прапрацованы нашымі культпропамі, якія прызваны кіраваць у вогуле народнай асьветай і культурным будаўніцтвам.

# ПАРТЫЙНАЯ ВУЧОБА

## Мэтодычныя распрацоўкі для кіраўнікоў політграматы і прадметных гурткоў па выніках XIII зьезду КП(б)Б

I.

### ТЭМА: Аб ходзе выкананьня пяцігадовага пляну разьвіцьця прамысловасьці БССР

**Мэтай тэмы зьяўляецца:**

1. Даказаць, што посьпехі ў выкананьні і перавыкананьні пяцігадовага пляну разьвіцьця прамысловасьці БССР зьяўляюцца вынікам рашучага правядзеньня ў жыцьцё ленінскай лініі партыі, мобілізацыі мас у барацьбе за Ленінскую лінію і рашучага змаганьня з правым, найбольш небясьпечным, і „левым“ ухілам', якія ў сучасны момант адзіным фронтам выступаюць супроць узятых тэмпаў індустрыялізацыі.

2. Вывучыць недахопы, якія мы маем у справе выкананьня пяцігадовага пляну, прычыны гэтых недахопаў.

3. Высьветліць задачы, якія паўстаюць перад партыяй у галіне будаўніцтва на бліжэйшы час, і мэтоды барацьбы за выкананьне прамфінпляну.

4. Даказаць неабходнасьць далейшага працягваньня жорсткай барацьбы на два фронты--з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай, з „левымі“ загібамі-дапаможнікамі правых—і прымірэнчымі адносінамі да іх.

**Плян тэмы:**

1. Конкрэтныя посьпехі ў разьвіцьці прамысловасьці БССР за паўтары гады выкананьня пяцігадовага пляну.

2. Тэмпы разьвіцьця прамысловасьці БССР у параўнаньні з тэмпамі разьвіцьця прамысловасьці СССР і ўмовы, якія выклікаюць розьніцу гэтых тэмпаў.

3. Падставы нашых дасягненьняў.

II.

1. Недастатковае выкананьне пляну па зьніжэньні сабекошту, палепшаньні якасьці продукцыі, узьняцьці вытворчасьці працы, узьняцьці працоўнай дысцыпліны, эфэктыўнасьці капіталаўкладаньня, забесьпячэньні кадрамі, разьвіцьця вынаходніцтва, увядзеньні адзінаначальля і г. д.

2. Нездавальняючае выкананьне разгортваньня об'ектаў будаўніцтва, неабходнага для разьвіцьця прамысловасьці Беларусі.

3. Прычыны, якія абумоўліваюць гэтыя недахопы.

III.

1. Мэтоды барацьбы за выкананьне прамфінпляну (кіраўніцтва соцспаборніцтвам, ударным рухам, „грамадзкім буксырам“, прыстасаваньне працы партыйных, профэсыянальных організацый для забесьпячэньня выкананьня пяцігадовага пляну).

2. Неабходнасьць разьвіцьця тых галін вытворчасьці і прамысловасьці, якія адпавядаюць умовам Беларусі і яе патрэбам.

3. Неабходнасьць складаньня пляну электрыфікацыі БССР.

4. Далейшыя мерапрыемствы па забясьпячэньні прамысловасьці кадрамі і кваліфікаванай рабочай сілай.

5. Характар далейшага разьвіцьця саматужнай прамыслова ьці.

6. Палепшаньне матар'яльна-бытавых умоў пролетарыяту.

7. Неабходнасьць штодзённай барацьбы на два фронты.

8. Ход выкананьня пляну на вашым прадпрыемстве і задачы гуртка ў сувязі з рашэньнямі XIII парт зьезду.

### Літаратура.

1. Рэзолюцыя XIII зьезду КП(б)Б па дакладу т. Бэнэка і Грысевіча.

2. Даклады т. т. Бэнэка і Грысевіча на XIII зьезьде КП(б)Б і спрэчкі па дакладах.

3. Матар'ялы акруговай конфэр. па пытаньнях гаспад. будаўніцтва.

Тэзысы даклада т. Куйбышава на XVI партзьезьдзе.

Перадавая, „Большевик“ № 9.

Для кіраўнікоў:

Матар'ял да справаздачы ЦК КП(б)Б XIII зьезду.

„Год великого перелома“ И. Сталін.

„Ком. революция“ № 14—15.

### Мэтодычныя заўвагі

Уся прапрацоўка тэмы аб ходзе выкананьня „пяцігодкі разьвіцьця прамысловасьці БССР“ павінна быць пабудавана такім чынам, каб забясьпечыць падвядзеньне тэорытычнага абгрунтаваньня ленінскай устаноўкі рашэньняў XIII зьезду КП(б)Б, а таксама да забесьпячэньня больш дзейнага эфэкту гэтай прапрацоўкі, дзеля чаго вывучэньне першага разьдзелу павінна быць пабудавана такім чынам, каб, падводзячы вынікі посьпехам разьвіцьця прамысловасьці за мінулыя паўтары гады, абгаварыць умовы, у якіх прыходзілася разгортваць гэтую працу, цяжкасьці, якія сустра-

каліся на гэтым шляху, формы барацьбы з гэтымі цяжкасьцямі, асаблівасьці работы ў БССР, наяўнасьць прарываў у выкананьні прамфінпляну за першае паўгодзьдзе другога году пяцігодкі і прычыны гэтых прарываў.

Вывучэньне другога разьдзелу павінна быць пабудавана такім чынам, каб, аналізуючы маючыяся недахопы ў выкананьні пяцігадовага пляну, даказаць, як яны адбіваюцца на ходзе выкананьня пяцігадовага пляну, а таксама на становішчы рабочай клясы БССР. Асаблівая ўвага ў гэтым разьдзеле павінна быць зьвернута на тыя мэтоды, якія ўжываюць зараз правыя і левыя ўхілістыя ў барацьбе супроць лініі партыі на выкарыстаньне нашых цяжкасьцяй у снабжэньні рабочай клясы дзеля правядзеньня сваёй лініі за зьмяншэньне тэмпаў індустрыялізацыі.

Трэці разьдзел павінен быць пабудаваны такім чынам, каб конкрэтна было абгаворана, як пабудаваць працу на прадпрыемстве, дзеля таго, каб магчыма было маючыяся недахопы зжываць, дзеля таго, каб магчыма было весьці барацьбу за выкананьне прамфінпляну (як узьняць і накіраваць энтузіязм пролетарыяту ў правільнае русло, як кіраваць соцспаборніцтвам, ударніцкім рухам і г. д.). Уся праца павінна быць пабудавана такім чынам, каб умовы свайго прадпрыемства ляглі ў аснову усёй прапрацоўкі рашэньняў зьезду.

Абгаварваючы пытаньне аб палепшаньні матар'яльна-бытавых умоў рабочае клясы неабходна выходзіць ня толькі з боку забясьпечаньня рабочае клясы рознымі прадуктамі, а галоўным чынам з ўсяго комплексу момантаў што, характарызуюць становішча рабочае клясы і якія на прыклад. паданы ў дакладзе тав. Кагановіча, на Маскоўскай абласной партконфэрэнцыі. Больш падрабязнае абгаварэньне гэтага пытаньня трэба перанесьці пры прапрацоўцы пытаньня аб профсаюзах.

II.

## Аб колектывізацыі і ўздыме сельскай гаспадаркі ў БССР.

### I. Мэтавая ўстаноўка:

На аснове дасягнутых посьпехаў у справе колектывізацыі і правядзеньня вясеньняга севу паказаць неабходнасьць далейшай энэргічнай работы па колектывізацыі сельскае гаспадаркі і ўмацаваньню існуючых колгасаў.

### II. Вузлавыя пункты.

**1. Вынікі колгаснага руху да сучаснага моманту.**

а) Чаму КП(б)Б вяла бязьлітаснае змаганьне з „прышчэпаўшчынай“, з яе ўстаноўкай на кулацкае разьвіцьцё вёскі?

б) Чаму сваячасовай зьяўляецца лінія партыі на разгорнутую колектывізацыю? Куды маглі прывесьці ўстаноўкі правых?

в) Як праходзіла колектывізацыя ў вашым раёне (настрой сялянства, барацьба з кулацтвам, паводзіны правых і „левых“)?

г) Чым можна даказаць правідловасьць і посьпех колектывізацыі?

**2. Клясавая барацьба вакол колектывізацыі, скажэньне лініі партыі**

а) У чым прычына „левых“ загібаў?

б) У чым заключаецца правільнае кіраўніцтва колектывізацыі?

в) Ці зьнішчаны ў нашым раёне ўсе перагібы і скажэньні?

г) Якая роля самакрытыкі ў папярэджваньні памылак і загібаў?

д) Позыцыі правых і „левых“ цяпер у адносінах колектывізацыі.

**3. Чарговыя задачы разьвіцьця колгаснага руху і ўздыму усёй с. г.**

а) Якія галіны с.-г. асабліва адстаюць, што робіцца для іх уздыму?

б) Якія недахопы ў організацыі працы і разьмеркаваньні даходаў у колгасах нашага раёну і як іх ліквідаваць?

в) Роля саўгасаў у с. г.

г) Як палепшыць адносіны колгасаў з індывідуальнікамі?

д) Як рабочыя прамысловасьці нашага прадпрыемства могуць дапамагчы рабоце колгасаў?

**4. Мэтодычныя паказаньні да пункту I.**

Увосень і зімою гэтага году ў школах і гуртках ужо прапрацоўвалася пытаньне аб колектывізацыі с.-г. і ліквідацыі кулацтва. Вось таму пачаць гутарку рэкомэндуецца з аднаўленьня ў памяці слухачоў пройдзеных гутарак. Неабходна высьветліць прычыны адставаньня с. г. ад патрэб прамысловасьці, чаму гэтае адставаньне пагражала зрывам індустрыялізацыі краіны, чаму 1929-30 год зьявіўся годам рашучага павароту бядняцка-серадняцкіх сялянскіх мас на шлях колектывізацыі, і чаму партыя паставіла пытаньне аб ліквідацыі кулацтва, як клясы, у раёнах суцэльнай колектывізацыі.

Поўнае ўясьненьне ўсіх гэтых пытаньняў слухачамі неабходна раней, як прыступіць да далейшай прапрацоўцы тэмы (у некаторых выпадках неабходна гэтыя пытаньні абгаварыць у асобнай гутарцы).

Неабходна асобна спыніцца на політыцы, якую праводзіла старое кіраўніцтва Наркомзему (прышчэпаўшчына), і высьветліць, чаму насаджэньне кулацкіх хутарскіх гаспадарак зьяўлялася простым тормазам уздыму ўсяе с. г. і соцыялістычнага будаўніцтва ўсяе краіны.

Па высьвятленьню ўсіх гэтых пытаньняў трэба прыступіць да разгляду вопыту колгаснага будаўніцтва, яго цяжкасьцяй ва ўмовах БССР

барацьбы з кулацтвам, уздыму і спаду проценту колектывізуемых, правядзеньня вясеньняга севу і інш.

У выніку прапрацоўкі першага пункту ў слухачоў павінна быць яснае разуменьне, у чым няправільнасьць думкі правых і „левых“ ўхілістаў, што „ня трэба было брацца за колектывізацыю“, што „трэба было пачакаць да поўнае мэханізацыі с. г.“ і г. д.

Станоўчым вынікам з прапрацоўкі першага пункту павінна быць, што самі бядняцка-серадняцкія масы вёскі, падрыхтаваныя вопытам папярэдняга разьвіцьця сваёй гаспадаркі і вопытам вытворчай змычкі з прамысловасьцю, у 1929-30 годзе пад кіраўніцтвам пролетарыяту і партыі і ў барацьбе з кулацтвам рашуча ўступілі на шлях колектывізацыі і правядзеньнем вясеньняга севу паказалі перавагу колгасаў над індывідуальнымі гаспадаркамі.

## Паказаньні да пункту II.

Пераходам да абгаварэньня II пункту можа служыць пытаньне ў чым-жа прычына такіх вялікіх прыліваў і адліваў з колгасу, у чым прычына таго, што ў некаторых вёсках адсталыя масы падпалі пад уплыў кулацтва і актыўна выступалі супроць колгасаў.

З абгаварэньня вопыту слухачоў аб барацьбе кулацтва супроць колгасаў, аб ваганьні серадняков, аб уплыве „левых“ загібаў на тэмп і якасьць колектывізацыі, падвесьці слухачоў да вываду, што задача пераводу с. г. на колектывізаваныя рэйкі можа быць правільна ажыцьцёўлена ня шляхам камандаваньня і самацёку, а шляхам пастаяннага і настойлівага растлумачэньня выгаднасьці і неабходнасьці колектывізацыі, шляхам неабходнага і сьвядомага ўступленьня беднякоў і сераднякоў у колгас, што „левыя“ загібы садзейнічалі ўзмацненьню ўплыву кулацтва і пагражалі разрывам саюзу пролетарыяту з сялянствам, што толькі дзякуючы сваячасоваму ўмяшацельству ЦК УсеКП(б) і рашучаму выпраўленьню перагібаў на мясцох гэтая небясьпека была ліквідавана.

Абгаварэньнем першых 2 пунктаў слухачы падыходзяць да разуменьня задач колектывізацыі, разуменьня неабходнасьці барацьбы супроць правага і „левага“ опортунізму і ўсьведамленьня правільных мэтодаў кіраўніцтва колгасным рухам.

Гэтым самым падрыхтоўваецца магчымасьць усебаковага абгаварэньня пытаньня аб далейшым уздыме колгасаў і с. г. наогул.

1. Праз разгляд недахопаў і прарываў у с. г. (упадак жывёлагадоўлі, дрэнная організацыя працы ў колгасах) падыйсьці да абгаварэньня мэтодаў іх зжываньня, разгляду ролі саўгасаў, правільных адносін колгасаў з індывідуальнікамі, неабходнасьці працягу барацьбы з кулацтвам, устанаўленьня правільных адносін паміж беднатою і сераднякамі ў саміх колгасах, ролі рабочых ў замацаваньні колгасаў, мэтодаў організацыі працы і разьмеркаваньня ўраджаю ў колгасах і тым самым падвесьці слухачоў да выніку, што асноўнымі задачамі ў с. г. зьяўляецца: умацаваньне і паляпшэньне работы колгасаў, якія зьяўляюцца прыкладам і лепшай агітацыяй для індывідуальнікаў.

2. Дапамога колгасам і індывідуальнікам з боку савецкіх гаспадарак.

3. Устанаўленьне правільных узаемаадносін з індывідуальнікамі і працяг барацьбы супроць кулацкага ўплыву на іх.

4. Усямернае разьвіцьцё найбольш адстаючых і важных галін с. г. (жывёлагадоўлі і тэхнічных культур).

5. Выхаваньне кадраў па кіраўніцтву колгасамі і дапамога ім у кіраўніцтве з боку рабочай клясы. Асноваю для выніку па ўсёй гутарцы можа служыць мэтавая ўстаноўка тэмы, з дабаўленьнем ацэнкі позыцыі правых і „левых“ у пытаньнях колектывізацыі, як па сутнасьці кулацкай агентуры ў партыі.

## Літаратура.

1. Матар'ялы XIII зьезду КП(б)Б.
2. Рэзолюцыі XIII зьезду.
3. Сталін: „Головокружение от успехов“ і „Ответ т.т. колхозникам“.

Дапаўніцельна для кіраўніка:

1. Тэзісы тав. Якаўлева да XVI зьезду.
2. Матар'ялы з дыскусійнага лістка „Праўды“.
3. Сталін: „Год вялікага пералому“.
4. Арт. „Бальшавіцкая самакрытыка“, „Сав. Беларусь“, 28/VI—30 г.

Асабліва зьвяртаем увагу на наступныя арт. дыскусійнага лістка „Праўды“:

1. Арт. Мамаева ад 9/VI.
2. „ Грышына „ 12/VI.
3. „ Татаева „ 23/VI.
4. „ Круглікава ад 23/VI.
5. „ Дымшыца „ 23/VI.

III.

## Аб задачах профсаюзаў БССР на новым этапе.

### I. Мэтавая ўстаноўка.

Прапрацоўваючы гэтую тэму трэба ўсьвядоміць:

1. Прынцыповую ўстаноўку пастановы зьезду аб неабходнасьці непрымірымай барацьбы за чыстату ленінскай лініі і профруху.
2. Асноўнае зьвяно ў рабоце профсаюзаў— „тварам да вытворчасьці“ праз мобілізацыю рабочых мас на барацьбу за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну.
3. Задачы саюзу ў соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі.
4. Рашучая перабудова культурна-выхаваўчай работы і ўзмацненьне барацьбы за паляпшэньне матар'яльна-бытавога становішча рабочае клясы.

## II. Плян прапрацоўкі.

### 1. Задачы профсаюзаў на вытворчасьці.

а) памылкі права-опортуністычнага старога кіраўніцтва ЎсеЦСПС;

б) як ператварыць у жыцьцё лёзунг „тварам да вытворчасьці", гэта значыць, бліжэй да масы;

в) як арганізаваць кіраўніцтва соц. спаборніцтвам, ударніцтвам, грамадзкім буксірам і г. д.;

г) плянаваньне прамысловасьці, работа вытворчых нарад, правядзеньне адзінаначальля;

д) профсаюзы і падрыхтоўка кадраў, роля інжынэрна-тэхнічных сэкцый, вылучэньне рабочых

### 2. Задачы саюзаў на вёсцы:

а) далейшая мобілізацыя рабочых мас вакол задач колектывізацыі вёскі;

б) дапамога мясцовым парт. і савецкім арганізацыям у рабоце з беднатой: выпраўленьне антысераднацкіх перагібаў і наладжваньне правільных адносін з індывідуальнымі гаспадаркамі;

в) сувязь і дапамога дваццаціпяцітысячнікам, падрыхтоўка новых кадраў рабочых, як арганізатараў і кіраўнікоў колгаснага будаўніцтва;

г) роля саюзу сельгасрабочых і неабходнасьць дапамогі яму з боку ўсіх саюзаў.

### 3. Культурна-выхаваўчая работа і абаронча функцыі профсаюзаў:

а) згрупаваньне абаронных функцый профсаюзаў і барацьба за вытворчасьць;

б) культурная работа і палітычнае выхаваньне рабочых мас;

в) нацыянальная палітыка і задачы профсаюзаў;

г) работа сярод работніц і моладзі, вылучэньне на кіруючую работу, кваліфікацыя і г. д.

### 4. Перабудова профработы:

а) узмацненьне масавай работы пры ўсямерным і рашучым разгортваньні пролетарскай самакрытыкі і правядзеньні пролетарскай дэмократыі;

б) ачыстка і аднаўленьне профапарату ад права-опортуністычных элемэнтаў і „лева"-опортуністычных;

в) уцягненьне ў работу профапарату кадраў добраахвотнікаў;

г) парт. кіраўніцтва профработай, конкрэтызацыя яго.

## III. Мэтодычныя ўказаньні:

Распрацоўваючы гэтую пастанову, мала будзе расказаць аб сутнасьці пастановы зьезду наогул. Трэба распрацоўку пабудаваць так, каб пастановы зьезду прымяняць да конкрэтных умоў таго ці іншага прадпрыемства, або профсаюзнай арганізацыі. Трэба пры распрацоўцы, выходзячы з агульнага становішча, высьветліць конкрэтныя факты, як, напрыклад, удалося выканаць і перавыканаць прамфінплян, у чым конкрэтна заключаецца кіраўніцтва ўдарнымі брыгадамі. Трэба падрабязна высьветліць, якую ролю адыгрываюць профсаюзы ў соцыялістычным будаўніцтве ня толькі наогул, а кожная саюзная організацыя (цэх, ФЗМК, комітэт і г. д.). Трэба высьветліць на конкрэтных прыкладах работу саюзнай організацыі, як профсаюзы павінны кіравацца ленінскім прынцыпам—злучэньне аховы інтарэсаў рабочых з агульнаклясавымі задачамі (уплыў якасьці продукцыі, зьніжэньне сабекошту на зарплату), значэньне вылучэньня рабочых у паляпшаньні проф. і дзярж. і гаспадарчых апаратаў, актыўнага ўдзелу ў організацыі масавага шэфства прадпрыемстваў над дзярж. апаратам, у справе паляпшэньня становішча рабочае клясы і хутчэйшага ўздыму ўсяго гаспадарчага будаўніцтва.

## 4. Літаратура.

1. Матар'ялы да справаздачы ЦК КП(б)Б на XIII зьезьдзе КП(б)Б.

2. Рэзолюцыя XIII зьезду па дакладу тав. Рыжова.

3. Даклад тав. Рыжава на XIII зьезьдзе.

4. Тэзісы тав. Шварніка да XVI зьезду ЎсеКП(б).

Для кіраўнікоў апрача вышэйуказанага неабходна:

1. Пастанова фракцыі II пленуму ЎсеЦСПС (май, чэрвень 1929 г.).

2. Пастанова III пленуму ЎсеЦСПС па дакладу тав. Дагадава.

3. Рэзолюцыя студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б па дакладу тав. Рыжова.

## IV.

# Праца ЦК КП(б)Б і ўнутрыпартыйнае становішча.

## I. Мэтавая ўстаноўка.

**Растлумачыць неабходнасьць далейшай, яшчэ больш настойлівай тэорытычнай і практычнай барацьбы з ухіламі для мобілізацыі партыі і пролетарыяту працягваць, не паслабляючы тэмпу гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, праз новыя формы працы, адпаведныя тэмпам будаўніцтва, і далейшае разгортваньне самакрытыкі.**

## II. Вузлавыя пункты.

**I. Палітыка партыі на новым этапе і барацьба на два фронты.**

**II. Ускладненьне нац. пытаньня, як адбітак абвастрэньня клясавай барацьбы.**

**III. Перабудова работы парторганізацый у адпаведнасьці з задачамі і тэмпам соцыялістычнага будаўніцтва.**

**Мэтодычная заувагі, да 1 пункту.**

З пачатку гутаркі патрэбна ўспомніць з слухачамі пройдзенае ў папярэдніх гутарках то новае ў клясавых зрухах унутры краіны і ў капіталістычным акружэньні, якія адбыліся за пэрыод ад XII да XIII зьезду партыі: 1) мобілізацыя пралетарыяту на выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады; 2) разгорнуты рух бядняцка-серадняцкіх мас па шляху колектывізацыі; 3) абвастрэньне небясьпекі вайны супроць СССР). Пераходзячы да пытаньня політыкі партыі на новым этапе, трэба высьветліць, што пэрыод ад XII да XIII зьезду характарызуецца буйным разгортваньнем прамысловасьці і ўзмацненьнем усіх позыцый пролетарыяту на Беларусі. Трэба высьветліць, што партыя і рабочая кляса вялі сваю працу ва ўмовах абвостранай барацьбы з моцна супраціўляючыміся капіталістычнымі элемэнтамі ў краіне і іх агентамі ўнутры партыі—правымі опортуністамі, нацыянал-опортуністамі і „левымі“ загібшчыкамі.

Рост прамысловасьці і соц. сэктору сельскай гаспадаркі, масавы наплыў рабочых у партыю і актыўны ўдзел іх у соцыялістычным спаборніцтве—вось вынік барацьбы з клясавым ворагам унутры і па-за партыяй і доказ правільнасьці лініі партыі.

## Рабочы плян.

### Барацьба на два фронты.

а) Абвастрэньне клясавай барацьбы.

б) Як адбіўся на рабоце партыі ўзмоцнены націск на яе і рабочую клясу дробна-буржуазнай стыхіі.

в) Разгром прышчэпаўшчыны і забесьпячэньне правільнай лініі ў новым кіраўніцтве Наркамзему.

г) Ускрыцьце права-опортуністычных і нацыянал-опортуністычных поглядаў тав. Чарвякова, які пад непасрэдным націскам ЦК прызнаў свае памылкі і стаў на шлях іх выпраўленьня.

д) Ускрыцьце нацыянал-опортуністычнага характару памылак Жылуновіча, Баліцкага і інш. і адпор опортуністычнай вылазцы Марука, Цьвікевіча і Ільлючонка.

е) Барацьба з права-опортуністычнай і нацыянал-опортуністычнай лініяй у працы былога кіраўніцтва яўбюро тав. Бейліна.

ж Ускрыцьце права-опортуністычнага ўхілу ў працы кустпрамкоопэрацыі, памылкі ў працы ОЗЕТ'у.

з) Вялізарная праца праведзеная ЦК па аздараўленьню работы Наркамасьветы, Белзяржвыдавецтва, Акадэміі Навук і г. д.

і) У самы апошні час адпор вылазцы беларускіх нацыянал-дэмократаў і вялікадзяржаўных рускіх шовіністскіх на лінгвістычным фронце.

к) Новы мэтод вылазак правых. (абвінавачваньне ЦК у адсутнасьці кіраўніцтва і не своечасовасьці яго; па сутнасьці гэтыя выступленьні накіраваны супроць колектывізацыі.

л) Барацьба з такімі вылазкамі.

м) Чаму галоўнай небясьпекай зараз зьяўляецца правы ўхіл.

н) Чаму партыя павінна адначасова змагацца як з „левым“, так і, правым ухіламі.

о) Адным з асноўных прылад барацьбы на два фронты зьяўляецца самакрытыка.

п) Барацьба з зажымшчыкамі самакрытыкі (Гомельская, Віцебская, Мазырская і Полацкая акр.).

р) Шырокае разгортваньне самакрытыкі—залог пасьпяховага будаўніцтва соцыялізму.

**Мэтодычныя заўвагі да II пункту.—Ускладненьне нац. пытаньня, як адбітак абвастрэньня клясавай барацьбы.**

У гэтым пытаньні трэба высьветліць, што актывізацыя беларускага нацыянал-дэмократызму і шовінізму розных колераў зьяуляецца сьведкай ня слабасьці адпору ім з боку партыі, а ўзмацненьня наступу на кулака, нэпмана і шовіністага, ёсьць вынік абароны кулацка-нэпманскімі элемэнтамі сваіх экономічных і ідэолёгічных позыцый.

Трэба высьветліць, што пасьлядоўным правядзеньнем ленінскіх прынцыпаў у нацыянальнай політыцы партыя дабілася буйных посьпехаў у справе культурнага будаўніцтва, у справе ўзмацненьня пролетарскіх элемэнтаў нашай культуры.

Трэба таксама ўясьніць з слухачамі наступную пастанову XIII зьезду па дакладу ЦК.

„Працягваючы і ў далейшым бязьлітасную барацьбу з нацыянал-опортунізмам, з беларускім нацыянал-дэмократызмам, КП(б)Б павінна адначасова зьвярнуць увагу на барацьбу з актывізуючымся вялікадзяржаўным расійскім шовінізмам, які зьяўляецца асноўнай перашкодай на шляху аўладаньня пролетарскім процэсам будаўніцтва нацыянальнай культуры. Ажыўленьне яўрэйскага шовінізму, праявы шовінізму польскага патрабуюць таксама значна большай мобілізацыі ўвагі партыі на барацьбу з праявамі шовінізму ўсіх масьцей“.

## Рабочы плян.

а) Дасягненьні ў правядзеньні нацыянальнай політыкі ад XII да XIII зьезду КП(б)Б.

б) Чаму посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва выклікаюць актывізацыю нацыянал-дэмакратаў і шовіністых усіх колераў.

в) Значэньне беларусізацыі ў барацьбе з шовінізмам.

г) Чаму рускі шовінізм зьяўляецца галоўнай небясьпекай пры правядзеньніі нацыянальнай політыкі партыі.

д) Змаганьне ЦК КП(б)Б за ажыцьцяўленьне нацыянальнай політыкі.

е) Далейшыя задачы партыі ў гэтай галіне.

## III. Перабудова працы парторганізацый у адпаведнасьці з задачамі, тэмпам социялістычнага будаўніцтва.

### Мэтодычныя заўвагі.

Трэба высьветліць, што пытаньні перабудовы працы ўсіх нашых організацый, проблема кадраў сталі асноўнымі пытаньнямі, ад пасьпяховага вырашэньня якіх залежала і залежыць хуткае вырашэньне нашых задач.

Таксама патрэбна высьветліць, што галоўнымі задачамі нашых масавых організацый зьяўляецца паляпшэньне і замена мэтодаў кіраўніцтва масамі, з мэтай узмацненьня сувязі з імі і мобілізацыі творчай актыўнасьці іх для социялістычнага будаўніцтва. Для таго, каб гэтага дабіцца, трэба барацьбу за масы весьці на два фронты—і супроць правага опортунізму, як галоўнай небясьпекі, і супроць „левых“ загібшчыкаў.

Патрэбна высьветліць значэньне павялічэньня пролетарскага ядра ў КП(б)Б і кіраўнічых органах БССР. Значэньне вылучэньня і работу з вылучэнцамі.

Усю прапрацоўку III пункту неабходна праводзіць на конкрэтных прыкладах перабудовы партработы і кіраўніцтва масавымі організацыямі на даным прадпрыемстве.

### Рабочы плян.

а) Дасягненьні ў галіне павялічэньня пролетарскага асяродку ў КП(б)Б і кіруючых кадраў БССР.
б) Узрост даверра рабочых да партыі.
в) Вылучэньне рабочых у кіруючыя органы.
г) Кіраўніцтва комсамолам.
д) Кіраўніцтва профсаюзамі.
е) Кіраўніцтва дэлегацкімі сходамі жанчын.
ж) Цэнтральная задача ўсіх нашых масавых організацый.

### Літаратура.

Даклады т.т. Гэя і Васілевіча на XIII зьезьдзе КП(б)Б.

Рэзолюцыі XIII зьезду па дакладах т.т. Гэя і Васілевіча.

Матар'ялы да справаздачы ЦК КП(б)Б стар. 58—124 і стар. 144—171.

Ж. Мэерзон—„Вопросы партийного руководства“.

Ж. Мэерзон—„За перестройку партработы“.

Л. Кагановіч, „Очередные задачы партработы“...

С. Шульман—„Перестроим партийную работу“.

Заўвага. Просім усіх т.т. якія вядуць прапрацоўку, надсылаць свае заўвагі і прапановы аб паляпшэньні методу распрацовак па адрасу ЦК КП(б)Б, сэктору пропаганды, мэтод. бюро.

# Прыкладныя вучэбныя пляны для курсаў перападрыхтоўкі партактыву

## I. Курсы нізавога і раённага вясковага партыйнага і комсамольскага актыву і партактыву колгасаў і саўгасаў

### Вучэбны плян

Курсы разьлічаны орыентыровачна на 2 месяцы. працоўны тыдзень прымаецца ў 5 дзён, з іх чатыры для заняткаў, адзін дзень адпачынку. Працоўны дзень—8 гадзін, сюды ўваходзяць работа з выкладчыкам, самастойная работа з кнігай і практычныя заняткі. У працягу 48 працоўных дзён маем 384 вучэбных гадзіны. Рэкомэндуецца наступнае, прыкладна, разьмеркаваньне часу па разьдзелах і тэмах:

| НАЗВА ТЭМ | Колькасьць гадзін | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Самастойнае чытаньне | Практычныя заняткі | Заняткі з выкладчыкам | Усяго |
| **Разьдзел першы.** Соцыялістычная рэконструкцыя сельскае гаспадаркі і клясавая барацьба ў вёсцы. | | | | |
| Тэма I. Вучэньне Леніна аб саюзе пролетарыяту з сялянствам і клясавая барацьба пры дыктатуры пролетарыяту | 18 | — | 6 | 24 |
| Тэма II. Пяцігадовы плян і соцыялістычная рэконструкцыя сельскае гаспадаркі | 18 | — | 6 | 24 |
| Тэма III. Соцыялістычная прырода колгасаў і сучасны этап колгаснага руху | 18 | — | 6 | 24 |
| Тэма IV. Правы опортунізм і „левыя“ загібы ў тэорыі і практыцы соцыялістычнай перабудовы вёскі | 18 | — | 6 | 24 |
| **Усяго** | **72** | — | **24** | **96** |
| **Разьдзел другі.** Організацыя працы і вытворчасьці ў колгасах. | | | | |
| Уводная гутарка. Аб плянавасьці ў колгасе | — | — | 2 | 2 |
| Тэма I. Аб кірунку гаспадаркі | — | 2 | 2 | 4 |
| Тэма II. Організацыя тэрыторыі | 4 | 2 | 2 | 8 |
| Тэма III. Організацыя паляводтзва | 8 | 6 | 6 | 20 |
| Тэма IV. Організацыя жывёлагадоўлі і пытаньне аб харчох | 6 | 6 | 3 | 15 |
| Тэма V. Організацыя спэцыяльных галін (садаводзтва, гароды. і інш.) | 2 | — | 2 | 4 |
| Тэма VI. Індустрыялізацыя сельскае гаспадаркі | — | — | 2 | 2 |
| Тэма VII. Організацыя сродкаў вытворчасьці | 5 | 4 | 6 | 15 |
| Тэма VIII. Організацыя працы | 5 | 4 | 6 | 15 |
| Тэма IX. Разьмеркаваньне даходаў і накапленьне ў розных формах колгасаў | 2 | 2 | 3 | 7 |
| Тэма X. Кіраўніцтва і справаздачнасьць у розных формах колгасаў | — | — | 2 | 2 |
| Тэма XI. Фінансава-крэдытны плян | — | — | 2 | 2 |
| **Усяго** | **32** | **26** | **38** | **96** |

| НАЗВА ТЭМ | Колькасьць гадзін | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Самастойнае чытаньне | Практычныя заняткі | Заняткі з выкладчыкам | Усяго |
| **Разьдзел трэці.** Пытаньні агротэхнікі. | | | | |
| **Тэма I.** Расьліна і асяродак для вырастаньня ўгнаеньня | — | — | — | 10 |
| **Тэма II.** Насеньне і засеў | — | — | — | 10 |
| **Тэма III.** Мэханізацыя сельскае гаспадаркі | — | — | — | 16 |
| **Тэма IV.** Асноўныя прыёмы вытворчасьці палявых і тэхнічных культур | — | — | — | 16 |
| **Тэма V.** Жывёлагадоуля | — | 7 | — | 12 |
| **Усяго** | — | — | — | **64** |
| **Разьдзел чацьверты.** Партыйная і савецкая масавая работа ў вёсцы: у калгасах і саўгасах | — | — | — | 32 |
| **Разьдзел пяты.** Прапрацоўка рашэньняў XVI партыйнага зьезду | — | — | — | 96 |
| **Усяго** | — | — | — | **384** |

## II. Курсы для нізавога вытворчага актыву і актыву гарадзкіх парторганізацый

Програма пабудавана па комплекснаму прынцыпу, выходзячы з неабходнасьці зьнішчэньня шматлікіх прадметаў. Элемэнты паасобных дысцыплін дадзены патолькі, паколькі гэта неабходна для прапрацоўкі асноўнай тэмы програмы. Асноўным-жа зьместам гэтай програмы зьяўляюцца пытаньні тэорыі і практыкі пераходнага пэрыяду і пытаньні XVI партзьезду.

Прахаджэньне ўсяе програмы таму павінна праводзіцца ў цясьнейшай сувязі і на аснове прапрацоўкі пытаньняў XVI зьезду партыі.

Вынікі XVI партзьезду павінны быць прапрацаваны асобна. Програма разьлічана на адзін месяц, г. зн. на 24 дні, пры 8 гадзінах работы ў дзень, усяго—на 192 гадзіны.

Разьмеркаваньне гадзін па разьдзелах рэкомэндуецца наступнае:

**Тэма I.** Сутнасьць пераходнага пэрыяду 16 г.
**Тэма II.** Экономіка і політыка ў эпоху дыктатуры пролетарыяту . . . . . 32 г.
**Тэма III.** Клясавыя зрухі і паварот ў політыцы партыі . . . . . . . . . 16 „
**Тэма IV.** Партыя ў пераходны пэрыод . . 12 „
**Тэма V.** Соцыялістычнае будаўніцтва (у сувязі з прапрацоўкай рашэньняў XVI партзьезду)
а) індустрыялізацыя СССР, пяцігодка і яе выкананьне . . . . . . 20 „
б) соцыялістычная рэконструкцыя сельскае гаспадаркі . . . . . 32 „
**Тэма VI.** Барацьба на два фронты . . 24 „
**Тэма VII.** Партбудаўніцтва . . . . . . . 24 „
**Тэма VIII.** Вынікі XVI зьезду партыі . . 16 „
**Усяго** . . . . . **192** „

## III. Курсы нізавых пропагандыстаў

Курсы разьлічаны на 2 месяцы. Працоўны дзень прымаецца васьмігадзінны, працоўны тыдзень—пяць дзён. Такім чынам, у працягу двух месяцаў ёсьць 48 працоўных дзён, якія налічваюць 384 вучэбных гадзіны. Рэкомэндуецца наступнае разьмеркаваньне часу па тэмах:

**Тэма I.** Капіталізм, яго разьвіцьцё і немінучая гібель . . . . . . . . . 60 г.
**Тэма II.** Характарыстыка трэцяга пэрыоду пасьляваеннага капіталізму . . 32 „
**Тэма III.** Сутнасьць пераходнага пэрыоду 24 „
**Тэма IV.** Экономіка і экономічная політыка СССР . . . . . . . . . . . 60 „
**Тэма V.** Клясы і клясавая барацьба ў пераходны пэрыод . . . . . . . . 16 „
**Тэма VI.** Дзяржава ў пераходны пэрыод . 16 „
**Тэма VII.** Соцыялістычнае будаўніцтва (у сувязі з прапрацоўкай пытаньняў XVI партзьезду) . . . . . . . . . 96 „
а) індустрыялізацыя ў пяцігадовы плян;
б) рэконструкцыя сельскае гаспадаркі;
в) соцыяльна-культурныя проблемы рэконструкцыйнага пэрыоду.
**Тэма VIII.** Барацьба на два фронты . . . 16 г.
**Тэма IX.** Пытаньні партбудаўніцтва . . 16 „
**Тэма X.** Організацыя і мэтодыка партасьветы . . . . . . . . . . . . 32 „
**Тэма XI.** Вынікі XVI партзьезду . . . . 16 „
**Усяго** . . . . . **384** „

# БІБЛІОГРАФІЯ

**„*В помощь рабочему-коллективизатору*" *Е. А. Цехер. Партийно-общественная работа в колхозах. Госиздат, 1930 г., цена 8 коп.***

Нам вядома, якую вялікую ролю адыгрываюць рабочыя-„дваццаціпяцітысячнікі", якія накіраваны на сталую работу ў колгасы. Па тых зьвестках, якія асьвятляліся ў газэтах, дваццаціпяцітысячнікі добра спраўляюцца з укладаемымі на іх абавязкамі. Аднак, ня зусім добра абстаіць справа у некаторых мясцох з практычнай дапамогай гэтым рабочым. Рабочаму, накіраванаму на сталую работу ў колгасах, прыходзіцца працаваць у надзвычайна складаных умовах. Таму з большай сілай патрэбна біць па ўсіх праявах казённа-бюрократычных адносін да работы дваццаціпяцітысячнікаў і, галоўнае, організаваць сталую дапамогу ім з боку ўсіх організацый і ў першую чаргу з боку організацый партыйных.

Адным з практычных і надта патрэбных мерапрыемстваў ў дапамозе дваццаціпяцітысячнікам зьяўляецца выданьне літаратуры, разьлічанай на рабочых, якія стала працуюць у колгасах, а таксама выяжджаючых у вёску на тыя ці іншыя тэрміны. Такія кніжкі павінны садзейнічаць рабочаму лепш орыентавацца ў новых умовах работы, дапамагчы ў практычнай рабоце і пазнаёміць з вопытам работы партыйных ячэек даўно існуючых колгасаў.

Рэцэнзуемая брошура ахаплівае асноўныя пытаньні работы ў колгасах і ў популярнай форме выкладае асноўныя моманты артыкулу тав. Сталіна аб колгасным руху і адпаведных партыйных пастановы. Брошура разьлічана ня толькі на „рабочага-колектывізатора", але, як відаць па яе тэматыцы, прэтэндуе на дапамогу і ячэйковым працаўнікам колгасаў.

Спыніўшыся на становішчы і агульных задачах колгаснага руху, на пытаньнях клясавай барацьбы ў вёсцы і політыкі партыі, аўтар пераходзіць да вытворчых задач колгасаў і ў зьвязку з гэтым да задач партыйных ячэек. Трэба сказаць, што гэты разьдзел брошуры, які павінен быць асноўным, закранае некалькі агульных задач. На цэлы шэраг пытаньняў практычнай работы аўтар адказу не дае. Крыху лепш распрацавана пытаньне аб задачах саветаў у зьвязку з колектывізацыяй.

Вядома, што вялікую ролю ў жыцьці і будаўніцтве колгасаў адыгрывае організацыя працы. Дрэнная організацыя працы ў значнай ступені ад таго, што няма яшчэ дастатковага масавага вопыту, зьяўляецца адным з балючых месц колгаснага будаўніцтва.

Зусім правільна зазначае аўтар:

„Улічыўшы ўсе асаблівасьці сельскагаспадарчай вытворчасьці, рабочыя, накіраваныя ў колгасы, павінны скарыстаць свой багаты вопыт, свае організацыйныя звычкі і здольнасьці для падвышэньня вытворчасьці працы колгасаў, для правільнага рацыянальнага скарыстаньня рабочай сілы і утварэньня рэальных вытворчых плянаў" (стр. 34).

І далей мы чытаем:

„Фабрычна-заводзкія рабочыя павінны падзяліцца ў колгасе сваім вопытам разьмеркаваньня і організацыі рабочай сілы, гнуткімі жыцьцёвымі формамі тарыфікацыі работ і вопытам вызначэньня норм выпрацоўкі. Яны павінны быць на чале барацьбы за працоўную дысцыпліну, за якасьць работы, за організацыю неабходнай вытворчай грамадзкасьці і за разгортваньне социялістычнага спаборніцтва ў колгасах" (стар. 36).

Усё гэта сказана зусім правільна, але вартасьць брошуры значна-б павялічылася, калі-б у гэтым разьдзеле даць некаторыя практычныя матар'ялы. У агульных рысах закранае аўтар і астатнія пытаньні: аб унутраных накапленьнях ў колгасах, культурна-бытавыя пытаньні.

* * *

У пачатку рэцэнзіі мы закранулі пытаньне аб тым, якой павінна быць кніжка для рабочага-дваццаціпяцітысячніка. На вопыце рэцэнзуемай кніжкі можна зрабіць вывад, што значная частка брошур і кніжак па колгаснаму руху хварэюць на агульнасьць. Нам зразумела, патрэбны брошуры, якія-б популярызавалі партыйныя рашэньні па колгаснаму руху, якія-б асьвятлялі ў даступнай для малапісьменнага чытача форме агульна-політычныя задачы ў вёсцы. Аднак, гэта адзін бок справы. Нізавыя працаўнікі часта скардзяцца на тое, што брошуры, якія яны атрымоўваюць, не зьяўляюцца дастатковымі практычнымі дапаможнікамі ў іх рабоце. Такой практычнай кніжкі па шэрагу важнейшых пытаньняў колгаснага руху, з прыкладным вытворчым плянам, урэшце з прасьцейшымі агранамічнымі парадамі, з прыкладнай табліцай норм выпрацоўкі выдана у нас зусім недастаткова. У нас ёсьць багаты вопыт работы колгасаў, якія існуюць значны час; чаму-б не паставіць нам задачай шырока асьвятліць гэты вопыт, для таго, каб яго можна было скарыстаць астатнім, толькі што організаваным колгасам?

Такім чынам, трэба ставіць пытаньне аб тым, каб разам з выданьнем кніжак па агульных пытаньнях колгаснага руху больш выдаваць кніжак практычнага характару, якія-б зьяўляліся добрымі практычнымі дапаможнікамі мясцовых працаўнікоў. На дастатковую практычную дапамогу рэцэнзуемая брошура прэтэндаваць ня можа.

**М. Хмуры.**

*Адказныя рэдактары:* **О. Канакоцін і А. Гаруновіч**

# Усім АК КП(б)Б.

## РАЗЬВЁРСТКА МЕСЦ
## НА ЗАВОЧНА-КУРСАВЫ СЭКТАР
## УСЕСАЮЗНАГА КАМ. УНІВЭРСЫТЭТУ імя СЬВЯРДЛОВА

| АКРУГКОМЫ | На 4-гадовы курс | На цыклев. аддзялен. | Завочн. 1-гад. падрыхт. аддзялен. |
|---|---|---|---|
| 1. Бабруйскаму . . . . . | 2 | 1 | 2 |
| 2. Віцебскаму . . . . . . | 3 | 1 | 3 |
| 3. Гомельскаму . . . . . | 3 | 1 | 3 |
| 4. Менскаму . . . . . . . . | 4 | 1 | 4 |
| 5. Магілеўскаму . . . . . | 2 | — | 2 |
| 6. Мазырскаму . . . . . . | 2 | — | 2 |
| 7. Аршанскаму . . . . . . | 2 | — | 2 |
| 8. Полацкаму . . . . . . . | 2 | — | 2 |

Правілы прыёму апублікаваны ў „Правде“ за 24 мая 1930 г.

Культпроп ЦК КП(б)Б застаўляе за сабою зацьверджаньне кандыдатур, вылучаных Акругкомамі.

Акругкомам даецца права перавышаць норму разьвёрсткі на аднаго чалавека па кожнаму цыклю на выпадак магчымага адсеву.

Тэрмін прысылкі ўсіх матар‘ялаў у ЦК КП(б)Б не пазьней 20 ліпеня.

*За Заг. Культпропу ЦК КАНАКОЦІН.*

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

**ОРГАН ЦККП(б)Б**

**АБАГУЛЬВАЕ** вопыт партыйнай работы, зьмяшчае кіраўнічыя артыкулы па партыйным будаўніцтве і пытаньнях гаспадарчай і культурнай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**ВЫВУЧАЕ** вопыт і практыку партыйнай работы на мясцох, асьвятляе работу нізавых партыйных арганізацый, абгаварвае мэтады і задачы партыйнай работы, высьвятляе дадатны вопыт работы і пераносіць яго ва ўсе ячэйкі КП(б)Б.

**ДАЕ** ўсе неабходныя для партыйнага работніка, агітатара і прапагандыстага матар'ялы—факты, лічбы па пытаньнях бягучай працы.

**ДАПАМАГАЕ** ў практычнай рабоце нізавым кадрам партработнікаў, сакратаром і агітпропам, членам бюро ячэек, кіраўнікам парт. асьветы, групоргам, цэхоргам, зьвеноргам і інш.

**АСЬВЯТЛЯЕ** чарговыя пытаньні камсамольскай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**СТАВІЦЬ** на абгаварэньне новыя пытаньні партыйнай работы і кіраўніцтва, высьвятляе новыя формы партыйнай і масавай работы ў пэрыяд сацыялістычнай рэканструкцыі.

**РЭГУЛЯРНА** зьмяшчае крытыку і бібліяграфію літаратуры па пытаньнях партыйнага будаўніцтва і масавай работы ў горадзе і вёсцы.

**ЗЬМЯШЧАЕ** партыйныя дырэктывы па важнейшых пытаньнях.

**Кожная гарадзкая і вясковая партыйная і камсамольская ячэйка, кожны агітатар, прапагандысты, цэхавы, групавы і зьвенавы арганізатар, кожны партыйны актывісты павінен падпісацца на часопіс**

**„ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК"**

**Цана 25 кап.**